—Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
28
ЧЭРВЕНЯ
1991 г.
№ 26 (3592)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ—15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)



## З'ЯДНАЕ НАС МОВА

Даклад Ніла ГІЛЕВІЧА на II з'ездзе ТБМ.

СТАРОНКІ 5, 12.

## ПЕРАГУКВАННІ АБО ПАЛЕМІКА?

Па старонках рускай класікі.

СТАРОНКІ 6—7.

## КАБ НЕ СТРАЦІЦЬ НАБЫТКАЎ

Гутарка з галоўным рэжысёрам ДАВТа А. АНІСІМАВЫМ на завяршэнні сезона.

СТАРОНКІ 10—11.

## САКАВІК У КРАІНЕ КАСТРЫЧНІКА



Пётра ВАСІЛЕЎСКІ пра выставу А. Пушкіна ў Віцебску: «...Гэта была абсалютна паўнацэнная персанальная выстава. Іншы мастак няздольны зрабіць такое нават у сваё юбілейнае пяцідзесяцігоддзе. Алесь жа толькі летась скончыў інстытут...»

СТАРОНКА 13.

## З МАЛАВЯДОМАГА І ЗАБЫТАГА...

Барыс САЧАНКА: «Гэты раз у публікацыі... не ўсіх вякоў сыны», а толькі аднаго веку—крывавага, жорсткага, хоць у нейкім сэнсе і шчаслівага для Беларусі—«сыны» ж ужо не толькі ўсвядомілі, хто яны і чые дзеці, але паспрабавалі і самі нешта зрабіць дзеля славы і велічы Бацькаўшчыны...»

СТАРОНКІ 14—15.



# ПРА ШТО ЗАСПЯВАЕ ЛІРА...

У апошнія часы па дарогах Беларусі ад горада да горада, ад мястэчка да мястэчка, ад вёскі да вёскі брылі сляпыя лірнікі. Хто даваў ім часовы прытулак, хто кавалак хлеба на абед, хто ручайку лёну на адзежыну. І ні адзін кірмаш, ні адно свята не абыходзілася без лірнікаў. А яны неслі да людзей песню. Бясконцую маркотную песню пра долю, пра волю, пра божае слова, пра гнеў панскі. Захоўвалі старое, сваё, тутэйшае.

А гэтая ліра? Хто панясе яе, і дзеля чаго будуць перабіраць напятыя струны чыесьці рукі? Можа, скажуць струны ліравыя міралюбнае слова пад час гвалту; можа, гукнуць да праўды пад час хлусні; можа, выкажуць гора гэтак, як ніхто да іх? І мо стане баязлівец героем, і ўсмешка прыкрасці не кране маладых вуснаў, і не выракуцца дзеці маці сваёй.

А можа, паўторыць гэтая ліра словы хлусні, блюзнерства, падману, трапіўшы ў чыесьці раўнадушныя рукі? А можа, праляжыць век у чаканні свайго лірніка некранутая і не народзіць гуку, народжаная дзеля гуку?

У колішнія часы брылі па беларускіх шляхах сляпыя праўданосцы-лірнікі. І не маўчалі іхнія ліры...

С. ВЕРАЦІЛА.

Здымак майстра народных інструментаў У. ПУЗЫНІ пад час одуму (толькі што рукі яго скончылі працу над гэтаю ліраю) зрабіў фотамайстар А. КЛЯШЧУК.

# Кола Дзён

**Вось мы і пражылі самы доўгі дзень лета 1991-га... Летняга цяпла, будзем спадзявацца, яшчэ хопіць, аднак сонца павярнула ўжо на восень. Не прайшло і тыдня, а светлая частка сутак скарацілася на тры хвіліны. Ніякай навіны ў гэтым, натуральна, няма. Так было і так будзе адвеку — з году ў год. А ўсё-такі, пагадзіцеся, кожнае лета, кожны дзень чалавек перажывае ўпершыню, як нешта абсалютна новае і нязведанае. Што там — у коле дзён?..**

### 20 ЧЭРВЕНЯ

**Вярхоўны Савет БССР прагаласаваў за ўвядзенне паста прэзідэнта рэспублікі, які будзе абірацца яе народам, Прапанова дэпутатаў-камуністаў выбраць першага прэзідэнта Беларусі адразу на бягучай сесіі неабходнай колькасці галасоў не набрала. Дэпутаты ад апазіцыі не галасавалі.**

**Група дэпутатаў — сяброў Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады (БСДГ) заявіла аб стварэнні сваёй парламенцкай фракцыі.**

**Напярэдадні Беларускі народны фронт «Адраджэнне» быў афіцыйна зарэгістраваны Міністам БССР. Як кажуць, не прайшло і двух гадоў...**

### 21 ЧЭРВЕНЯ

**М. Гарбачоў выступіў на сесіі Вярхоўнага Савета СССР у сувязі з абмеркаваннем сітуацыі ў краіне і пытаннем аб наданні дадатковых паўнамоцтваў Кабінету міністраў па просьбе прэм'ера В. Паўлава.**

**Прэзідэнт СССР рэзка крытыкаваў кансерватараў — лідэраў дэпутацкай фракцыі «Саюз», якія выступаюць супраць «новаагароўскага» пагаднення рэспублік і іх суверэннасці наогул. У выніку дыскусіі пытанне аб дадатковых паўнамоцтвах кабміна было знята.**

### 22 ЧЭРВЕНЯ

**ў дзень усенароднай памяці ахвяр Вялікай Айчыннай вайны, была аб'яўлена хвіліна маўчання. У Мінску, іншых гарадах рэспублікі прайшлі сустрэчы ветэранаў, былі ўскладзены кветкі да помнікаў загінуўшым. У рамках дабрачыннай акцыі «Масква—Брэст—Берлін: новая дарога» ў пагранічным горадзе адбыўся мітынг-рэквіем.**

### 23 ЧЭРВЕНЯ

**завяршыўся двухдзённы візіт на Беларусь дэлегацыі Паўночнага Рэйна-Вестфаліі (ФРГ) на чале з віцэ-прэм'ерам, міністрам унутраных спраў зямлі Г. Шнорам. Разам з намеснікам Старшыні Саўміна Беларусі М. Дземчуком ён удзельнічаў у закладцы ў новым раёне Мінска міжнароднага маладзёжнага адукацыйнага цэнтра, праект якога падрыхтаваны пры ўдзеле заходненямецкай фірмы ІББ.**

### 24 ЧЭРВЕНЯ

**апублікавана заява групы камуністаў — дэпутатаў ВС БССР, у якой катэгарычна асуджаецца фракцыя «Камуністы Беларусі за дэмакратыю». «Яе стварэнне трактуецца як... парушэнне статута КПБ.**

### 25 ЧЭРВЕНЯ

**афіцыйна зарэгістравана Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі. НДПБ выступае за эканамічную самастойнасць і палітычную незалежнасць рэспублікі, за адраджэнне Бацькаўшчыны.**

### 26 ЧЭРВЕНЯ

**беларускі парламент прыступіў да разгляду змен у Канстытуцыі БССР, звязаных з інстытутам прэзідэнцтва. Пытанне адкладзена.**

### 27 ЧЭРВЕНЯ

**ў Мінску пачаў работу Савет міністраў замежных спраў саюзных рэспублік і Саюза ССР.**

# КАБ ГУЧАЛА РОДНАЕ СЛОВА...

Як вядома, у маі г. г. Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны сумесна з рэдакцыйнымі калектывамі беларускіх часопісаў і газет «Беларусь», «Беларуская мова і літаратура ў школе», «Бярозка», «Беларуская крыніца», «Вясёлка», «Грамада» (орган БСДГ), «Дзеці і мы», «Добры вечар» (г. Мінск), «Звязда», «Дэмакратычны форум» (г. Наваполацк), «Літаратура і мастацтва», «Маладосць», «Народная газета», «Наша слова», «Настаўніцкая газета», «Наш дзень» (г. Маладзечна), «Навіны Беларускага народнага фронту», «Полымя», «Навагрудскі кур'ер», «Пагоня» (г. Гродна), «Родны край» (г. Маладзечна), «Спадчына» пры садзеянні шэрагу арганізацый —заснавальнікаў гэтых перыядычных выданняў і іх фундатараў заснавалі грамадскую арганізацыю — Асацыяцыю беларускіх выданняў (АБВ).

Асацыяцыя мае на мэце пашырэнне беларускага друкаванага слова ў рэспубліцы і будзе прапагандаваць беларускія перыядычныя выданні: выпускаць рэкламныя афішы, каталогі; праводзіць святы, вечарыны беларускіх выданняў; афармляць на іх падпіску; на дабрачыннай аснове выпісваць беларускія газеты і часопісы школам, пазашкольным дзіцячым установам, а таксама маламаёмным жыхарам Беларусі. Для гэтага АБВ набывае ўласныя кіёскі, аўтакраму, пераносныя летнія шапікі, іншыя тэхнічныя сродкі і ставіць сабе задачу, выкарыстоўваючы іх, папулярызаваць, распаўсюджваць у розніцу беларускія перыядычныя выданні.

Першыя тры кіёскі, набытыя за кошт фундацыі Беларускага дзіцячага фонду і ТБМ, у цяперашні час устанаўліваюцца ў г. Мінску. Кіёск Таварыства беларускай мовы, размешчаны на Ленінскім праспекце насупраць будынка ГУМа, стала прапануе, прапагандуючы беларускія перыядычныя выданні, больш як паўгода.

Асацыяцыя зарэгістравана як калектыўная Сябрына Таварыства беларускай мовы з правамі юрыдычнай асобы, і адпаведна на яе распаўсюджваецца дзеянне пастановы № 56 (1991 г.) і пастановы № 161 (1991 г.) Савета Міністраў Беларускай ССР, згодна з якімі ажыццяўленню азначаных вышэй мэт і задач АБВ павінны ўсяляк садзейнічаць рэспубліканскія і мясцовыя органы дзяржаўнага кіравання. Паводле дзеючага заканадаўства АБВ вызваляецца ад падаткаў з прыбытку, калі ён накіроўваецца на ажыццяўленне статутнай дзейнасці ТБМ і Асацыяцыі.

Рада Асацыяцыі звяртаецца да працоўных калектываў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, а таксама да прыватных асоб, усіх прыхільнікаў беларускага слова аказаць пасільнае садзеянне АБВ у ажыццяўленні вышэй адзначаных мэт, накіраваных на адраджэнне беларускага слова ў рэспубліцы. Ствараючы неабходную матэрыяльную аснову, Асацыяцыя спадзяецца на падтрымку фундатараў, якімі, трэба думаць, зацікаўлены стаць перш за ўсё беларускія выдавецтвы, друкарні, а таксама заснавальнікі і выдаўцы беларускіх газет і часопісаў. У гэтай сувязі шчыра ўдзячнасць за ўклады АБВ трэба выказаць Беларускаму дзіцячаму фонду (5 тыс. руб.) і Рэспубліканскай Радзе ТБМ імя Ф. Скарыны (5 тыс. руб.). Рублёвы рахунак Асацыяцыі беларускіх выданняў 700408 у Мінскбізнесбанку, МФО 400503.

Паважаныя прыхільнікі беларускага слова! Калі вы выказваеце жаданне аказаць пасільную дапамогу Асацыяцыі беларускіх выданняў, прыміце да ўвагі тое, што зрабіць гэта важна цяпер, каб Асацыяцыя магла належным чынам падрыхтавацца да правядзення восеньскай падпісной кампаніі.

Калі рэдакцыйныя калектывы, заснавальнікі або выдаўцы іншых беларускіх перыядычных выданняў пажадаюць далучыцца да Асацыяцыі, неабходна пісьмова заявіць аб гэтым у лісце, дасланым на адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13, ТБМ імя Ф. Скарыны — Радзе АБВ. Памер укладаў сяброў АБВ у яе статутны фонд залежыць ад іх фінансавага становішча і вызначаецца самастойна. У склад Рады АБВ уваходзяць па аднаму прадстаўніку ад яе сяброў, якімі з'яўляюцца рэдакцыйныя калектывы, заснавальнікі або выдаўцы.

Жыве Беларусь і наша неўміручае слова!

**Выканком Рады Асацыяцыі беларускіх выданняў.**

# АДЧЫНЕНА «БЕЛАРУСКАЯ ХАТКА»

25 чэрвеня па вуліцы Рабкораўскай, 6 у Мінску ўрачыста адчынена «Беларуская хатка»— філія літаратурнага музея М. Багдановіча. На імпрэзу сышліся літаратары, настаўнікі, мастакі, прысутнічалі міністр замежных спраў П. Краўчанка і міністр культуры БССР Я. Вайтовіч.

У кароткай прамове перад грамадой дырэктар музея М. Багдановіча А. Бяляцкі адзначыў, што «хатка» адноўлена паводле таго ж доміка, у якім у 1916—1917 гг. жыў у Мінску Максім і дзе адбываліся сустрэчы знаных беларускіх дзеячаў — сяброў паэта. Экспазіцыя, якая выяўляе творчы і жыццёвы шлях М. Багдановіча, гісторыю беларускай літаратуры і культуры, створана талентам маладых мастакоў — падзвіжнікаў Адраджэння.

М. Лужанін назваў падзею святам адраджэння гістарычнай справядлівасці ў адносінах да М. Багдановіча, а таксама А. Гаруна, М. Гарэцкага і іншых класікаў беларускай літаратуры, чыя творчасць да апошняга часу штучна аддзялялася ад нацыянальных здабыткаў.

На падвор'і «хаткі» прагучалі купальскія песні ў выкананні фальклорнага калектыву «Батлейка».

**Ю. З.**



«Беларуская хатка» ў Мінску.



Выступае М. ЛУЖАНІН.
Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.

**РЭПЛІКА**

# ЦІ ЁСЦЬ СЯРОД НАС ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ?

Дзіўнае пытанне, ці не праўда? Не звяліся ж сярод беларусаў людзі дзелавыя і ініцыятыўныя, тыя, хто гатовы акунуцца ў мора рыначных адносін, дзейнічаць самастойна, мэтанакіравана, як таго патрабуе той самы рынак.

Ды, аказваецца, сёй-той намагаецца пераканаць нас у адваротным. Прыклад? Калі ласка!

Зірніце ў які-небудзь з кіёскаў «Саюздруку» на ладны стосік друкаванай прадукцыі, пазначаный рэдакцыйнай «вынаскай» — «Новая газета». Адшкадуйце пяцьдзесят капеек (яшчэ і на «прэзідэнцкі» падатак накінце) і купіце гэтую сапраўды новую штотыднёвую газету.

У руках трымаеце? Прачытайце назву. Але — «Белорусский предприниматель». Не прадпрымальнік, а предприниматель! Вось і атрымліваецца, што заснавальнік выдання Саюз кааператараў БССР лічыць: няма і не можа быць сярод беларусаў прадпрымальнікаў. Прадпрымальнікі — усё людзі прышлыя, яны, акрамя мовы «інтэрнацыянальнай», ніякай іншай не ведаюць.

Пераконваюць нас у гэтым, дарэчы, не ўпершыню. Спробы рабіліся і летась, калі быў выпушчаны пробны нумар штотыднёвіка «Белорусский рынок». Цяпер жа ўсё пастаўлена на шырокую нагу. Газета зарэгістравана, на яе аб'яўлена падпіска, ужо ў гэтым, першым нумары для зручнасці падпісны квіток надрукаваны. Аб тым, што «Белорусский предприниматель» патрэбны, у мініінтэрв'ю гавораць прэзідэнт Саюза кааператараў М. Суша, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР М. Мясніковіч, першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР С. Шушкевіч і міністр замежных спраў БССР П. Краўчанка.

Адно незразумела: як гэта спадары Шушкевіч і Краўчанка, якія штодня так хораша карыстаюцца роднай мовай, гэты раз нават не спрабуюць замовіць слова ў яе абарону?

Найнакш і праўда няма сярод беларусаў гэтых самых, выбачайце, «предпринимателей».

**ЛІМАВЕЦ.**

## ПАДМАНЛІВЫ СПАКОЙ

26 чэрвеня ўдзельнікі сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі, якая даволі спакойна набліжаецца да фіналу, убачылі карціну, ад якой паспелі ўжо адвыкнуць за апошнія месяцы. На плошчы перад Домам урада зноў сабраўся мітынг. Гэтым разам яго ініцыятарамі сталі аршанскія рабочыя. Сярод іх былі ўдзельнікі палітычнай галадоўкі (яна пакуль прыпынена). Рабочыя прыехалі ў Мінск не столькі дзеля цікавасці да пытання аб прэзідэнцтве ў рэспубліцы, колькі дзеля абароны сваіх таварышаў ад рэпрэсій. Супраць аднаго з іх, актывіста рабочага руху М. Разумава, узбуджана справа ў сувязі з вядомымі падзеямі ў Оршы, калі там быў заблакіраваны чыгуначны вузел. З яго ўзялі падпіску аб нявыездзе. Дарэчы, аршанцаў спрабавалі не дапусціць на плошчу Леніна і нават затрымаць у міліцыі. Дапамагла салідарнасць мінскіх стачкомаў.

А што ж на сесіі? Пытанне аб прэзідэнцкіх выбарах перанесена на восень. Узамен дэпутатам быў прапанаваны законапраект аб пераразмеркаванні паўнамоцтваў вышэйшых органаў улады рэспублікі, які прадугледжвае элементы надзвычайнага стану.

В. Т.

## Месца сустрэчы— Старавіленская, 14

**У сціплым памяшканні Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля» ў Траецкім прадмесці Мінска (Старавіленская, 14) на пачатку гэтага тыдня было асабліва цесна. Тут прымалі гасцей.**

У нядзелю фонд наведала дэлегацыя з Германіі — віцэ-прэм'ер, міністр унутраных спраў зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія доктар Г. Шнор, першы намеснік прэзідэнта ландтага доктар Х.-У. Клозе і камісар паліцыі Кёльна У. Влока. Ад імя ахоўнікаў правапарадку горада ён перадаў фонду каштоўны і вельмі практычны падарунак — два новыя мікрааўтобусы.

А неўзабаве госцяй фонду стала жонка пасла ЗША ў Маскве Рэбека Мэтлак, якая прыехала ў рэспубліку з прыватным візітам. Яна прывезла некалькі скрыняў з лекамі на суму каля 10 тысяч долараў. Закуплены яны былі ў Вашынгтоне суайчынніцамі пані Мэтлак, якія хацелі б аказваць дапамогу пацярпеўшым ад Чарнобыля (на жаль, з-за фармальнасцяў у афармленні візы яны не змаглі прыняць непасрэдны ўдзел у гуманнай акцыі). У навукова-даследчым інстытуце анкалогіі і радыебіялогіі ў Бараўлянах Р. Мэтлак сустракалася з медперсаналам, у бальнічных палатах гутарыла з хворымі дзецьмі. Факт, які не можа не ўразіць — 45 хлопчыкаў і дзяўчынак рознага ўзросту маюць дыягназ: рак шчытападобнай залозы. I гэта толькі ў тых, што лечацца ў Бараўлянах!

Пасля, у гутарцы са старшынёй фонду «Дзецям Чарнобыля» Г. Грушавым, пані Мэтлак гаварыла аб тым, наколькі важна, каб гуманітарная дапамога йшла па канкрэтных адрасах, даходзіла непасрэдна да клінік і саміх пацярпеўшых. Яна высока ацаніла ўзровень работы, якая вядзецца ў беларускім фондзе.

Г. Грушавы расказаў пра дзейнасць іх незалежнай грамадскай арганізацыі, пра шматлікія пісьмы, якія прыходзяць у фонд адусюль — нават з Казахстана, пра грамадскія групы, створаныя ва ўсіх рэгіёнах Беларусі, пра тое, што з дапамогай фонду за апошнія гады звыш 15 тысяч дзяцей прайшлі аздараўленне ў замежных краінах.

Р. Мэтлак з прыемнасцю адзначыла прысутнасць журналістаў на сустрэчы. На яе думку, роля прэсы ў распаўсюджанні аб'ектыўнай і поўнай інфармацыі аб маштабах чарнобыльскай трагедыі, аб тым, што сёння найбольш патрэбна жыхарам рэспублікі, і аб тым. якія захады прымае фонд «Дзецям Чарнобыля»— вельмі важная. Г. Грушавы пагадзіўся з гэтым, зазначыўшы, што афіцыйная прэса ў рэспубліцы або замоўчвае дзейнасць фонду, або друкуе яўную дэзінфармацыю (мелася на ўвазе, у прыватнасці, нядаўняя публікацыя ў газеце «7 дней»).

Па просьбе карэспандэнта «ЛіМа» Р. Мэтлак расказала пра сваё захапленне аматарскай фатаграфіяй. Яе фотаработы, зробленыя ў розных рэспубліках, уключаючы Беларусь, выстаўляліся ў Маскве, Рызе, Грозным. Нягледзячы на тое, што пасол ЗША Дж. Мэтлак неўзабаве пакіне Савецкі Саюз, жонка пасла выказала спадзяванне на далейшыя культурныя кантакты з нашай рэспублікай.

У гутарцы прыняў удзел аташэ эканамічнага аддзела пасольства ЗША М. Дасара.

Суправаджалі амерыканскіх гасцей у паездцы па Мінску старшыня Канфедэрацыі працы Беларусі М. Собаль і сустаршыня Аршанскага стачкома М. Разумаў.

Віталь ТАРАС.

НОВЫЯ ВЫДАННІ

## «ПРАЛЕСКА» ПРЫНЯСЕ АБУДЖЭННЕ...

**Як вядома, у планах Міністэрства народнай адукацыі рэспублікі па ажыццяўленні Закона аб мовах у Беларускай ССР значылася і стварэнне двух новых часопісаў — «Дашкольнае выхаванне» і «Пачатковая школа». Планы не засталіся добрымі намерамі. Першым пачынае сваё жыццё часопіс «Дашкольнае выхаванне». Праўда, пад крыху іншай, больш мілагучнай назвай — «Пралеска».**

**Пра мэты і задачы новага выдання, праблемы, якія мяркуе асвятляць часопіс на сваіх старонках, нашаму карэспандэнту расказвае галоўны рэдактар Алесь САЧАНКА.**

— Часопіс у першую чаргу адрасаваны выхавацелям дашкольных дзіцячых устаноў, бацькам, бабулям і дзядулям. Задуманы часопіс як ілюстраванае выданне з каляровымі ўклейкамі. Зараз з кожным годам павялічваецца колькасць дзяцей, якія да трохгадовага ўзросту выхоўваюцца дома, у сям'і. «Пралеска» і павінна прыйсці на дапамогу. Яна задумана, з аднаго боку, як навукова - метадычнае выданне, а з другога — як папулярнае.

Што і як трэба зрабіць, каб правільна выхаваць хлопчыка ці дзяўчынку? Як з самага маленства дапамагчы ім увайсці ў вялікі свет жыцця? Што неабходна, каб дзеткі не хварэлі, а раслі здаровымі, паўнацэннымі грамадзянамі? Праблемы гэтыя, як і многія іншыя, не новыя. Іншая справа, што доўгі час мы заплюшчвалі на іх вочы, пераконваючы сябе, што і тут у нас усё куды лепей, чым у іншых краінах. Факты, на жаль, сведчаць аб іншым. Падумайце толькі! У нас ў рэспубліцы ажно 340 (трыста сорак!) тысяч дзяцей з адхіленнямі ў разумовым і фізічным развіцці. А гэта ж дванаццаць працэнтаў ад агульнай колькасці дзяцей. Што ж, у такім разе, можа чакаць нас у будучым, калі дадаць сюды вынікі чарнобыльскай катастрофы, уздзеянне якіх на чалавечы арганізм з цягам часу будзе не паслабляцца, а, відаць, узрастаць?! Калі яшчэ прыгадаць, якое страшнае экалагічнае становішча ў рэспубліцы. Па сутнасці, само існаванне нацыі пад пагрозай.

**— У сувязі з гэтым, Алесь Іванавіч, перад часопісам, пэўна, узнікае і праблема фізічнага выхавання? У рэспубліцы надзвычай мала выходзіць кніг, якія б давалі бацькам правільныя парады па выхаванні дзетак фізічна здаровымі...**

— Пра гэта мы падумалі. Вядома ж, нашы чытачы знойдуць у «Пралесцы» кансультацыі медыкаў, якія раскажуць, як навучыць дзяцей правільна хадзіць, што зрабіць, каб хлопчыкі ці дзяўчынкі своечасова пачалі гаварыць і г. д. Такія кансультацыі цяпер даволі часта з'яўляюцца ў розных выданнях, не абыходзіць гэтыя пытанні ўвагай і такі папулярны часопіс, як «Здоровье». Але мы, думаецца, не паўторымся, пойдзем сваім шляхам — звернем увагу на практычныя парады. Скажам, як правільна заварыць тую ж самую манку, падрыхтаваць малочную сумесь ці сок... I мяркуем пастаянна трымаць у полі зроку праблемы, звязаныя з чарнобыльскай катастрофай. Будзем друкаваць парады медыкаў, спецыялістаў рознага профілю, як і што зрабіць, каб дзеці ў раёнах, адкуль пакуль што не праведзена адсяленне, меней адчувалі на сабе ўздзеянне радыяцыі.

**— Не сумняваемся, такія матэрыялы вельмі неабходны бацькам, тым жа дзядулям і бабулям. Яны ж, трэба думаць, спрацуюць і на папулярнасць часопіса. Але ўдумаемся ў яго назву: «Пралеска»! Ці не самая ранняя кветачка, якая з'яўляецца адразу пасля таго, як толькі пачынае сыходзіць снег. Кволенькая, яна нясе з сабой вясну, абуджэнне. У нас, у рэспубліцы, цяпер таксама вясна, таксама абуджэнне. Абуджэнне нацыянальнае. Вяртанне ва ўжытак усяго свайго, моцнага якраз нацыянальнымі карэннямі, таго, што раней не прымалася пад увагу...**

— Здагадваюся, пра што вы. Маўляў, дзіця павінна расці не толькі фізічна моцным, але і духоўна здаровым...

**— Так, я пра гэта...**

— Сапраўды, праблемы і тут, і немалыя. Рэдка якая маці ведае сёння калыханку. А ці шмат у яе на слыху казак, вершаў, апавяданняў, якія так любяць дзеткі ў самым малым узросце? Маці сёння не заўсёды можа і прачытаць такія творы, бо няма неабходных кніг. Напрыклад, чытанка для дзіцячага сада, выпушчаная выдавецтвам «Народная асвета», імгненна знікла з паліц кнігарань. А сама праграма для дзіцячых садкоў? Яна недасканалая, часта мяняецца. Таму і тут часопіс прыйдзе на дапамогу: будзе змяшчаць як лепшыя ўзоры фальклору для дзяцей, так і арыгінальныя творы.

**— Сапраўды, мала ў нас выходзіць неабходных казак, вершаў, пацешак. А становішча з рэпрадукцыямі карцін яшчэ горшае. Тая ж чытанка, згаданая вамі, наогул выйшла без каляровых ілюстрацый...**

— З ілюстрацыйнымі матэрыяламі самая што ні ёсць бяда. Калі ў горадзе яшчэ неяк і самі бацькі, і выхавацелі садкоў выходзяць са становішча, дык зазірніце на вёску. Садкі там часта куды лепшыя, чым у горадзе, а вось неабходнага выхаваўча - дыдактычнага матэрыялу — няма. «Пралеска» парупіцца рэгулярна змяшчаць рэпрадукцыі твораў выяўленчага мастацтва. Зразумела, пытанні эстэтычнага выхавання будзем разглядаць у самым шырокім плане. Раскажам пра народныя традыцыі, святы, па магчымасці дамо свайго роду сцэнарыі іх. А хіба многае ведаюць дзеткі (ужо не кажу пра дарослых) пра беларускіх птушак, пра кветкі, звяроў?

**— Алесь Іванавіч, усе гэтыя матэрыялы будуць мець і пазнаваўчы, і, у пэўнай меры, дыдактычны характар?**

— Без падобнага спалучэння не абысціся, асабліва, калі памятаць, што часопіс будзе і свайго роду дапаможнікам для выхавацеляў ясляў і садкоў. Не забудзем, што сёння амаль пяцьдзесят працэнтаў работнікаў дашкольных устаноў у рэспубліцы не маюць спецыяльнай адукацыі. Ім спатрэбяцца і парады, як правесці заняткі па фізічным, маральным, эстэтычным развіцці, як далучыць хлопчыкаў і дзяўчынак да хараства роднай мовы. Нарэшце, пачнём шырока асвятляць сам ход рэалізацыі канцэпцыі беларускамоўных ясляў і садкоў, якая распрацавана ў рэспубліцы.

**— Колькі слоў пра аўтарскі актыў будучага часопіса.**

— Прадаставім шырокую трыбуну самім работнікам дашкольных дзіцячых устаноў. Запросім спецыялістаў, якія змогуць даць урокі этыкі, этыкету, раскажуць пра тэатр, музыку. I, вядома, жаданымі гасцямі на старонках «Пралескі» будуць пісьменнікі.

**— Калі ласка, Алесь Іванавіч, пра перыядычнасць часопіса, яго аб'ём?**

— «Пралеска» будзе выходзіць штомесячна, аб'ёмам восем улікова - выдавецкіх аркушаў — гэта прыкладна 64 старонкі фармату «Работніцы і сялянкі» ці «Бярозкі». З іх — чатыры старонкі каляровых ілюстрацый. Для ілюстрацый выкарыстаем і вокладку. Падпіска ўжо адкрыта. Кошт аднаго нумара — 60 капеек. Першы нумар з'явіцца ў жніўні, значыць, падпіска на сёлетні год — усяго тры рублі. Калі хто захоча напісаць нам, калі ласка, адрас: 220104, г. Мінск, вуліца Матусевіча, 36, часопіс «Пралеска». На жаль, тэлефонаў пакуль што няма.

**— Дзякуй, Алесь Іванавіч, за гутарку. Жадаю вам плёну, здзяйсненняў спадзяванняў на тое, што «Пралеска» сапраўды прынясе абуджэнне ў дашкольнае выхаванне беларускіх дзетак.**

Гутарыў Алесь МАРЦІНОВІЧ.

АДГАЛОСКІ

## Зусім іншая гісторыя

«Сей труд посвящаю любимой родине, быть может навсегда потерянной для меня, как равно потерян и я для нее». Так гучыць аўтарскае прысвячэнне да кнігі «Беларусь в исторической государственной и церковной жизни» (так у арыгінале). Аўтар — архіепіскап Афанасій Мартас, былы епіскап Віцебскі і Полацкі, магістр праваслаўнага багаслоўя Варшаўскага універсітэта. Як гаворыцца ў прадмове, кніга напісана ў канцы саракавых — пачатку пяцідзесятых гадоў, выдадзена ўпершыню ў Аргенціне ў 1966 г. Сёлета твор перавыдадзены на Бацькаўшчыне Экзархатам Беларускае Праваслаўнае Царквы, і яго можна набыць у Канцылярыі Экзархата (Мінск, вул. Вызвалення) або ў праваслаўных прыходах. Прадаецца кніга і пад час мерапрыемстваў у Доме літаратара.

Азнаямленне са зместам кнігі «Беларусь...» пэўна гаворыць за тое, што яна патрэбная. Як у шмат якіх эмігранцкіх выданнях, у ёй распавядаецца аб зусім іншай — не такой, якую мы вучылі і працягваем вучыць у школах — гісторыі Беларусі. Калі ўлічваць храналогію напісання, дык кніга Афанасія Мартаса з'яўляецца ці не першым праўдзівым даследаваннем дзяржаўнай і рэлігійнай мінуўшчыны Беларусі.

У кнізе, напісанай айцом духоўным, чытачы здолеюць пазнаёміцца не толькі з дэталёва даследчанай аўтарам гісторыяй Беларускай Праваслаўнай Царквы, яе іншаканфесійныя дачыненні, прагледжанымі ўсцяж ад прыняцця хрысціянства да сканчэння Вялікай Айчыннай вайны.

БЕЛАРУСЬ

в исторической государственной и церковной жизни

Белорусский Экзархат
Минск, 1990

Але — мусім зазначыць асабліва — прыемна ўражвае агульнаканцэптуальны падыход аўтара да гісторыі Беларусі наогул. Частку першую, якая мае назву «Грамадзянская», аўтар слушна пачынае развагамі над паняццем «Беларусь». На 20 старонках лаканічна, але пераканаўча выкладаецца гісторыя ВКЛ, згодна якой стваральным субстратам старажытнай дзяржавы з'яўлялася Беларусь. Для аўтара няма сумліваў у дамінацыі беларускай мовы на абсягах ВКЛ.

Цікавымі выглядаюць развагі аб недарэчнасці ўжывання назвы «Белоруссия». На думку аўтара, бліжэй да гістарычнай ісціны назва «Беларусь» (або «Белая Русь»), але не «Белоруссия», «Беларусь» или «Белая Русь» и «Белоруссия» или «Белая Россия» понятия разные и не применимы к одной и той же стране». — сцвярджае Афанасій Мартас.

Апроч таго, пільна адсочаны «вунійныя» працэсы ў ВКЛ, пачынаючы са «здрады Ягайлы» і да маскоўскай агрэсіі ў XVII ст. Аўтар высноўвае трагедыю «вялікакняжацкай» Беларусі са здрадніцкіх паводзін шляхты і магнацтва, якія мянялі верапрыхільнасць, а за ёй і мову...

Чытаючы кнігу «Беларусь...», адчуваеш за яе радкамі душу шчырага беларуса, якая баліць за Бацькаўшчыну і зычыць ёй уваскрошання.

Ю. З.

## З пошты «ЛіМа»

## Па чым пазнаеш беларуса?

Кнігу К. Тарасава «Памяць пра легенды» чакалі даўно. І вось яна, нарэшце, з'явілася ў кнігарнях, але мала каму пашчасціла набыць яе. І пасля гэтага некаторыя нашы «добразычліўцы» гавораць яшчэ, што беларускія кніжкі не хочуць чытаць. Чаму такі абмежаваны наклад кнігі — усяго 12 000 асобнікаў?

Інакш, як клопатам наадварот пра беларускае адраджэнне, гэта не назавеш.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» робіць шмат добрага. Але вось я гляджу план на 1991 (серыя «Скарбы сусветнай літаратуры»). Нічога не маю супраць таго, каб выдаць па-беларуску «Фаўста» Гётэ, «У ярме» І. Вазава, «Па кім звоніць звон» Э. Хемінгуэя і інш. Але, зважаючы на абмежаваныя магчымасці выдавецтва, трэба выбіраць тыя творы і тых аўтараў, якія сапраўды карыстаюцца шырокім попытам, які яшчэ не задаволілі рускамоўныя выдавецтвы. Магу запэўніць вас, што такія кніжкі чытач возьме і ў беларускім перакладзе, і навучыцца чытаць і любіць сваю мову!

І яшчэ адно. Летась на БТ з'явілася перадача «Гаворым па-беларуску». Перадача вельмі неабходная, а часам, у дадатак, яшчэ і цікавая (асабліва з удзелам А. Белакоза). Але ж і тут лёгка пазнаць беларуса, калі гаворка заходзіць пра нацыянальныя пытанні: перадача часта пераносілася з аднаго тыдня на другі, выходзіла ў эфір часта ў нязручны час, а потым і зусім сканала. Мільёны суайчыннікаў два словы па-беларуску звязаць не могуць, а мы адправілі перадачу на супакой! Ды такую перадачу трэба праводзіць не менш як два разы на тыдзень (не ўлічваючы ранішніх паўтарэнняў), паступова ўскладняць і ўдасканальваць. Магчыма, рыхтаваць перадачы для людзей з розным узроўнем валодання мовай.

**Г. ШЫЙКА.**

г. Быцень Івацэвіцкага р-на.

## Хай будзе такі тэлефон!

**Лічу, што для ўсіх жадаючых вывучаць ці ўспомніць беларускую мову вельмі зручна было б звяртацца па тэлефоне-даведніку, накшталт 09, які працаваў бы не толькі ўдзень, а і ўвечары, калі могуць узнікнуць цяжкасці пры размове з дзецьмі.**

**Л. МАХНАЧ,**
**інжынер.**

г. Мінск.

## Кніга— часцінка любові

Жанчына ў кнігарні не можа выпусціць з рук кнігу. І на вокладку гляне, і разгорне — не адарвацца ад прывабных, з густам зробленых ілюстрацый. Але нібыта штосьці стрымлівае яе, каб пайсці да касы. Прыглядзеўся: у яе руках нядаўна выпушчаная выдавецтвам «Мастацкая літаратура» ў серыі «Скарбы сусветнай літаратуры» навінка — пераклад са старажытнагрэцкай мовы рамана Лонга «Дафніс і Хлоя» і пераклад з лаціны вядомага ў свеце твора Апулея «Метамарфозы, ці Залаты асёл». Сам зусім нядаўна пазнаёміўся з гэтым цудоўным выданнем, таму не стрымаўся:

— Купляйце, не пашкадуеце.

— Я и думаю,— адказала жанчына,— но язык...

— Жывучы ў Беларусі, не чытаць па-беларуску...

— Я не в Белоруссии живу.

— А-а, понятно. А книга интересная,— перайшоў на мову субяседніцы.

— Знаю,— падтрымала тая.— Эти произведения я читала.

— Здесь и перевод неплохой,— не губляю надзеі ўсё ж сагітаваць зрабіць пакупку.— Да и по-белорусски читать — не по-гречески,— спрабую пажартаваць.

— Так по-гречески-то я читаю...

— ?..

Здаецца, я сканфузіўся. Ды ўсё ж прыемна было ўбачыць, як мая субяседніца падышла да касы з двума томікамі ў чорнай вокладцы — кнігай Лонга і Апулея, а таксама навеламі Праспэра Мерымэ, выдадзенымі ў той самай серыі. Думаю, што разам з імі паедзе за межы маёй рэспублікі і часцінка любові да беларускага праз любоў да скарбаў сусветных.

**А. МАНЦЭВІЧ.**

г. Вілейка.

## Нас прымушалі хлусіць

**Успамінаю, як я стаў піянерам ці, дакладней, як ім не стаў. У нашай пачатковай школе гальштукі купляць павінны былі самі вучні. Бацькі гальштук па нейкіх прычынах мне не купілі, і на ўрачыстай лінейцы я так і стаяў без гальштука. Тым не менш я ўжо лічыўся залічаным у піянеры, і штодзённы напамінак надзець гальштук вымусіў купіць яго. Той гальштук я, як і большасць хлопцаў, пранасіў скамечаным у кішэні, а настаўніцы хлусілі, што забыліся яго дома.**

**Потым, калі ў школе нас прымалі ў камсамол, я не праявіў ініцыятывы і да гэтага. Пасля заканчэння школы працаваў на будоўлі. І вось перад вайсковай службай з Краснапольскага райкома камсамола проста на будоўлю мне прывезлі камсамольскі білет. Нават фотакарткі знайшлі ў ваенкамаце, калі на прыпісное пасведчанне фатаграфаваўся. Вядома, я разгубіўся, пачаў адмаўляцца ад білета, аднак мне з усмешкай уручылі яго, моцна паціскаючы руку. Што датычыцца вайсковай службы, то ўжо ўсе анкеты запаўняў як член ВЛКСМ, бо інакш нельга было ўявіць вайсковую службу. Пасля дэмабілізацыі вырашыў не станавіцца на камсамольскі ўлік, хоць быў папярэджаны, што без гэтага ў ваенкамаце не паставяць на воінскі ўлік. І няхай прабачыць мне прапаршчык, якому я схлусіў у ваенкамаце, што забыў камсамольскі білет дома. А дамоў ехаць 20 кіламетраў, ён гэта ведаў.**

**Потым накіраваўся ўладкоўвацца на працу на завод імя С. М. Кірава, што ў Мінску, і тут давялося схлусіць, што не паспеў я зняцца з уліку, потым выдумляць, што ў вёсцы забыў білет і картку.**

**Пачаў працаваць на заводзе. Але яшчэ месяцы чатыры падыходзіла сакратар цэхавай камсамольскай арганізацыі і пыталася, калі я паеду ў вёску і прывязу картку. Абставіны прымушалі заўсёды і ўсюды хлусіць, без маны нельга было абысціся.**

**Сяржук ГЕРАСІМЕНКА.**

г. Мінск.

## Відаць, існуе на свеце Бог...

Ёсць у Мінску, у мікрараёне Чыжоўка парк. Яшчэ ў 1967 годзе, акурат у той час, калі адзначалася 900-годдзе сталіцы, ля цэнтральнага ўвахода яго быў закладзены камень-манумент з надпісам: «Парк імя 900-годдзя Мінска».

Сама па сабе назва выклікае паважлівыя адносіны. Аднак некаму прыйшло ў галаву якраз пасярод парку паставіць піўную. Цяжка перадаць, колькі жыхары Чыжоўкі дамагаліся, каб тую «гандлёвую кропку» перанеслі ў іншае месца. Аднак усё было дарэмна. З самага ранку тут тоўпіліся-віравалі аматары пітва. Асталёўваліся яны, адыходзячы ад акенца з півам, на падмостках сцэны, збудаванай шэфамі дзеля правядзення культурна-масавых мерапрыемстваў. Раскладвалі тут свае «тармазкі», пасмоктвалі рыбіныя хвасты, заплёўваючы ўсё наўкруг. Каму прыспічвала патрэба — сягалі за рог піўнушкі, за дрэўца ці за куст. Лаянка, лямант, бойкі і, вядома ж, смурод наўсцяж — вось тут культурна і адпачывай...

Скардзілася я, скардзіліся жыхары Чыжоўкі. Нарэшце з радыёперадачы, якая адбылася на самым прыканцы 1989 года, мы даведаліся, што парк наш нібыта і не парк, бо не мае статуса парку. Калі так, то што ён такое? Як тады назваць гэты зялёны масіў? Месцам выгулу сабак ды п'яных оргій? У дадатак да ўсяго нам яшчэ абяцалі абсталяваць і клуб картынгістаў — каб зацікавіць моладзь, каб хлопцы не псавалі лаўкі, не палілі вогнішчаў, не знішчалі дрэў. Што ж, гэта будзе страшэнным фіналам нашага адзінага ў стотысячным мікрараёне гаючага аазісу. Што ні кажыце, а шанцуе нашай Чыжоўцы. Мала таго, што на чыжоўскім вадаёме праводзяць свае трэніровачныя вучэбкі і спаборніцтвы спартсмены на скутэрах, дык наце вам яшчэ і картынгістаў...

Праўда, наконт «п'янае кропкі» пытанне вырашылася. Аднойчы ўначы адбыўся страшэнны выбух. З трэскам узарвалася карчомка, па ўсім парку пачала гарэць электрычная праводка. Ліхтары як патухлі пазалетась, так і па сёння не гараць. Тым не менш піўнушка, на радасць нам усім, самастойна зліквідавалася.

Відаць, існуе на свеце Бог — пачуў-такі шматлікія людскія маленні. Значыцца, у гонар гэтага трэба ўзводзіць Святы Храм. Вось і дамагаюцца жыхары Заводскага раёна, каб такая будыніна была ўзведзена, якая сапраўды будзе аздараўляльна ўздзейнічаць на плоць і душу. Менавіта ўзвядзення храма патрабуюць вернікі.

Рашэнне вернікаў ёсць — збудаваць Храм у памяць ахвяраў сталінізму. Але выканком Заводскага раёна спасылаецца на аэрапорт, які не дае згоды будаваць у Чыжоўцы духоўны храм: маўляў, ён будзе перашкаджаць вольнаму лёту самалётаў над гэтым мікрараёнам. Дык жа супраць гэтага лёту ўжо колькі гадоў выступаюць не толькі вернікі, а і ўсе жыхары мікрараёна.

Два гады дамагаліся вернікі дазволу на пабудову царквы. Нарэшце, дазвол атрыманы.

Цяпер дамо слова святару:

«З радасцю апавяшчаю вам, любімыя ў Госпада, браты і сёстры, аб утварэнні праваслаўнага прыходу на тэрыторыі Заводскага раёна г. Мінска!

Талакою ўзвядзём мураваны храм. З глыбокім пачуццём уласнае годнасці ахвяруем Богу пасільную лепту. Хай даруе беззаконні нашы і накрые ўсіх нас і дзяцей нашых сваім крылом.

У Заводскім раёне адкрыўся разліковы рахунак № 700423 у Беларускім прамыслова-інавацыйным банку. Код 811.

Пастановаю Свяшчэннага Сінода Беларускай Праваслаўнай Царквы наша абшчына і храм уручаны нябеснаму заступніцтву (пакравіцельству) Святога Вялікапакутніка Георгія Пабеданосца.

Старшыня абшчыны — свяшчэннік Аляксандр Рудчанка».

Веруючыя з пачуццём гонару прынялі гэтую пастанову Свяшчэннага Сінода БПЦ.

**Э. ПАСЫНКАВА.**

г. Мінск.

## «Беларускае падполле» ...на гарадскім транспарце?

**Неяк давялося мне тралейбусам (зараз ужо не помню яго нумар) ехаць з плошчы Свабоды ў бок праспекта Машэрава. Якім жа было маё здзіўленне, калі, зайшоўшы ў салон, я пачула, што вадзіцель назву наступнага прыпынку і нязменнае «Асцярожна, дзверы зачыняюцца!» аб'явіў па-беларуску. Прызнаюся, тады нават з'явілася жаданне падысці да яго і падзякаваць, але людзей у тралейбусе было не прабіцца. І якім жа было маё засмучэнне, калі на наступны дзень, зусім выпадкова натрапіўшы на гэты самы тралейбус і ўбачыўшы за рулём гэтага самага вадзіцеля, я пачула звыклае: «Следующая остановка Дворец спорта»!**

**Пасля таго выпадку мінуў ужо недзе год, мо нават і больш, а сітуацыя на гарадскім транспарце амаль не змянілася. Аб'явы прыпынкаў па-беларуску робяцца нібы падпольна: нечакана пачуеш іх то ў адным месцы, то ў другім. А на наступны дзень хоць ты сабе да вечара катайся — адна расейшчына.**

**Мне могуць запярэчыць, што ўсё гэта (запіс беларускіх тэкстаў на магнітафонныя стужкі і г. д.), магчыма, каштуе пэўных грошай. Магчыма. Але давайце не будзем забывацца, што падобныя аб'явы прыпынкаў, якія яшчэ часам вельмі хораша дапаўняюцца просьбай вадзіцеля саступіць месца старэйшым і г. д. — гэта не толькі прапаганда беларускай мовы (якой з боку дзяржавы якраз і не хапае), але і той своеасаблівы «буквар», па якім мінчукі могуць вучыцца беларускім назвам і правільнаму вымаўленню розных устаноў, вуліц, плошчаў...**

**Дзеля справядлівасці трэба заўважыць, што апошнім часам на гарадскім транспарце з'явіліся шыльдачкі, на якіх назвы маршрутаў напісаны па-беларуску. Але, зноў-такі, чамусьці не ўсюды. Чым гэта тлумачаць адказныя работнікі — недахопам грошай, фарбы ці жадання, — невядома.**

**Дарэчы, на некаторых аўтобусах і тралейбусах ранейшае «Юго-Запад» цяпер зменена на «Паўднёвы-Захад». Няўжо цяжка было паглядзець у слоўнікі, каб даведацца, што ніякі злучок у беларускім варыянце не патрэбен?**

**Ж. БАЯРЧЫК.**

г. Мінск.

ПАМЯРКУЕМ

# ПРА ДРОБЯЗІ— І НЕ ТОЛЬКІ...

У дробязяў, якія пранізваюць сабой наша існаванне, ёсць уласцівасць назапашвацца і раздражняць. І калі кожную з іх параўнаць з назойлівым камаром, то, значыцца, жывём мы ў суцэльным штодзённым гудзе і свербе. Дробязі — яны наўкол, на працы і дома, у транспарце і магазінах, яны шматстайныя і вынаходлівыя. «Забытая» некім з суседзяў скрынка ў ліфце ці суцэльны бруд у гарадскім аўтобусе — з іх ліку. Але зараз не пра тыя дробязі. Пра іншыя.

Не ведаю, як вам, а мне асабіста надакучыла ў тэлефонным даведніку (выдавецтва «Полымя», 1988) адшукваць Віцебскую вобласць паміж Бранскай і Уладзіміраўскай, а Гродзенскую — паміж Горкаўскай і Днепрапятроўскай. Каб што-небудзь гэтак пераблытаць, трэба найперш займець вялікую блытаніну ў мазгах. Хтосьці палічыў мэтазгодным (мо для нашай з вамі зручнасці?) праігнараваць нацыянальна-тэрытарыяльны падзел СССР на рэспублікі: вобласці Расіі, Украіны і Беларусі размешчаны ў кнізе строга па алфавіту, а па сутнасці змяшаны ў «кучу малу». Як быццам і падзелу гэтага самага няма або стаў ён за працяглы час звычайнай фармальнасцю.

Што ў такіх выпадках загадаеце думаць? Мабыць, нездарма марыць пра 80—90 губерняў краіны нядаўні кандыдат у прэзідэнты РСФСР У. Жырыноўскі. За ім і яму падобнымі стаяць пэўныя сілы з пэўнымі інтарэсамі, але атаясамліваць іх інтарэсы з уласнымі — выключнае, даруйце, дурноцце для нашага брата. Прыкладаў апошняга не так і мала.

Цікава было б, прынамсі, ведаць, з якіх такіх меркаванняў адну з дзвюх(!) ліній Мінскага метро назвалі Маскоўскай. Мусіць, каб прыезджыя між дзвюх соснаў не згубіліся. Заблудзяць усё роўна, бо вуліца з такой назвай у адным канцы горада, станцыя — у процілеглым, збоку кінатэатр «Масква» — праўда, не ў Маскоўскім раёне Мінска. Тут не тое што госць — сам заблытаешся...

А вось наступную акалічнасць наўрад ці можна аднесці да драбязы. Маю на ўвазе перагружанасць усесаюзнага канала тэлебачання сталічнымі або ўласнарасійскімі навінамі. Прывяду для прыкладу толькі асобныя сюжэты аднаго з выпускаў праграмы «Час»: перадвыбарная кампанія ў Расіі, уручэнне дзяржаўных узнагарод у Крамлі, пушкінскае свята ў Маскве, адкрыццё помніка Пратапопу Авакуму і г. д. Пра ўскраіны ўсё яшчэ моцнай бабулі-імперыі згадваюць, у лепшым выпадку, калі там лясне стыхійнае бедства, у горшым — калі разня ці нешта экзатычнае, «з раду вон». Ды яшчэ заўжды «пазітыўны» А. Жук раскажа што-небудзь станоўчае пра ва ўсіх адносінах прыемную (да нядаўняга часу) Беларусь.

Як ні дзіўна, нядаўна створаная расійская тэлекампанія не перацягнула на сябе ні ражка расійскай «коўдры», наадварот, агульнасаюзны — па назве — канал як быццам з рук стараецца выхапіць інфармацыю ў нованароджанага калегі.

А ці чулі вы па радыёкропцы, як нас запрашаюць наведаць канцэрт, выставу або лекцыю па адрасе: горад Масква, вуліца... дом... Кідацца па білет, ці што? Па чыгуначны, зразумела.

Працытую на слых запісаны «перл» з рэспубліканскага эфіру (аўтар — М. Жыгоцкі): «Пакуль у нас будуць такія людзі, як Талаш, не перамагчы ворагу Расію». Гэты патэтычны выраз — яшчэ адзін узор блытаніны ў галаве — належыць байцупартызану перыяду Вялікай Айчыннай. Нямала іх пасля вайны асела ў вёсках, пасёлках і гарадах старшынямі калгасаў і сельскіх Саветаў, сакратарамі райкомаў і дырэктарамі школ. Свае ад прышлых наўрад ці адрозніваліся: самаўсведамленне на нулі, ды і мову за час вайсковых паходаў забыць паспелі. Ды што там пяць! За два гады службы забываюць яе вясковыя хлопцы. Мой дзед, паслужыўшы на цара, усё астатняе жыццё ўжываў слова «покамест»... Адгарадзіцца на нейкі час, ці што? «Жалезную заслону» пабудаваць?

Ой, дарма я пра заслону... Забаронай справу не паправіш, хаця, скажам шчыра, інфармацыйныя каналы можна было б крыху і павузіць. Пры ўмове, што свае будуць на ўзроўні. Моўная экспансія небяспечная тым, што адбываецца як бы сама сабой, як бы натуральным чынам. Ды пад гэтай «натуральнасцю» магутны матэрыяльны падмурак, забяспечаны дзяржаўнымі інстытутамі і законамі. Новыя законы яшчэ належыць напісаць і адстаяць.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

# З'ЯДНАЕ НАС МОВА

## Даклад Ніла ГІЛЕВІЧА на II з'ездзе ТБМ імя Ф. Скарыны

ДВА гады назад на першым устаноўчым з'ездзе ў Мінску было створана Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Гэта падзея ў культурным і грамадска-палітычным жыцці рэспублікі мела і працягвае мець значэнне надзвычайнае — хто б што ні думаў і ні гаварыў наконт яе і тады, напачатку, калі Таварыства ўзнікала, і сёння, калі завяршаецца этап яго станаўлення. Што дае падставы менавіта гэтак глядзець на стварэнне і жыццядзейнасць нашай культурна-асветніцкай арганізацыі? Каб адказаць на гэта пытанне і — каб зразумець справядлівасць такой ацэнкі таго, што ўсе мы, сябры Таварыства, робім, — для гэтага неабходна вельмі ясна ўяўляць рэальны стан Беларусі на сучасным этапе гісторыі, рэальнае палітычнае, сацыяльнае і культурнае становішча нашага народа, яго духоўнае жыццё-быццё, становішча яго мовы, што значыць — лёс яго будучыні. Гісторыя — паўторым гэту відочную ісціну яшчэ раз — дала нам шанц, упусціць які мы, беларусы, і ўсе, хто жыве побач з намі і па-брацку спагадае нам, не маем права. Больш таго — упусціць гэты шанц было б проста ганебна, бо гэта было б з нашага боку здрадай жыццёвым інтарэсам беларускага народа, яго адвечным запаветным марам і спадзяванням. Беларусь — каторы раз за сваю трагічную тысячагадовую гісторыю — стаіць перад сабой задачу нацыянальнага Адраджэння, здабыцця дзяржаўнага, эканамічнага і духоўнага суверэнітэту. Беларусь уступіла ў вельмі адказную паласу свайго гістарычнага развіцця. Без усведамлення гэтага, без асабістай гатоўнасці кожнага падключыцца да Адраджэння, да беларусізацыі ўсяго нашага жыцця — беларускі народ як нацыя не ўваскрэсне, Беларусь як дзяржава не здзейсніцца. Вось чаму дзейнасць Таварыства беларускай мовы найцеснымі чынам звязана з беларускай ідэяй у яе агульным сэнсе і практычна падпарадкавана задачы нацыянальнага Адраджэння Беларусі. У гэтым — адметнасць нашага Таварыства сярод аналагічных моўных таварыстваў у цывілізаваным свеце. У адрозненне ад іншых народаў, мы ўсё яшчэ вымушаны змагацца за жыццё мовы. Ні ў адной цывілізаванай краіне свету гэткай праблемы — жыць або не жыць сваёй роднай мове — няма. Там ёсць іншыя праблемы, на якія скіроўваецца клопат навукоўцаў, дзеячаў асветы, культуры і ўсёй шырокай грамадскасці, а іменна: удасканаленне правапісу літаратурнай мовы, узбагачэнне і ачышчэнне нацыянальнага слоўніка, культура мовы, узаемаадносіны літаратурнай мовы і мясцовых гаворак і іншае. Але — паўтараю — няма праблемы: жыць або не жыць мове. Вось я і задаю пытанне — сабе, усім вам, дэлегаты і госці з'езда, усім сябрам Таварыства і ўсім добрым людзям — сумленным грамадзянам Бацькаўшчыны: колькі яшчэ мы будзем змагацца за жыццё нашае роднае мовы? Калі мы пачнем радавацца і толькі радавацца, што яна ёсць, і ёсць менавіта такая, якая ёсць, і што ёй нішто не пагражае? Колькі стагоддзяў назад за жыццё нашай мовы змагаліся Скарына, Будны, Цяпінскі, Сапега і іншыя вялікія, паўтараста ці трохі менш гадоў назад за яе жыццё змагаліся Дунін-Марцінкевіч, Каліноўскі, Багушэвіч і іншыя вялікія, на пачатку XX стагоддзя за жыццё роднага слова змагаліся Купала, Колас, Цётка, Багдановіч, Гарэцкі і іншыя вялікія, пазней — за яе жыццё пайшлі на Калыму, на Салаўкі або ў Курапаты тысячы і тысячы іншых і вялікіх і радавых патрыётаў Бацькаўшчыны. Прайшло яшчэ паўстагоддзя, завяршаецца XX век — і што ж? А ўсё тое ж: барацьба працягваецца! І сёння наша мова застаецца на асобым становішчы. І сёння мы думаем і клапоцімся аб тым, як яе ўратаваць, што мы маем рабіць, каб наш беларускі народ не страціў сваю мову канчаткова. Што ж гэта за такая праклятая доля, калі цягам цэлых стагоддзяў мы вымушаны адваёўваць для роднае мовы права на жыццё? Ці не задоўга гэтае змаганне цягнецца? Ці не пара рашуча пакончыць з гэтым бяспраўным становішчам народа і яго культуры? Ці не пара ўсім зласліўцам-нядобразычліўцам нашым, як і ўсім тутэйшым слепакам, зразумець, што геній нашае мовы несмяротны, што яе сіла і моц неадольныя, і што ўсе намаганні паглынуць яе, растварыць у стыхіі іншай мовы — марныя?

У такой гістарычнай сітуацыі, у такой грамадска-палітычнай атмасферы і ўзнікла і пачало працаваць наша Таварыства. Яго высакародныя стратэгічныя мэты і канкрэтныя задачы, як і галоўныя накірункі яго дзейнасці выразна акрэслены ў Статуце, і, думаю, няма патрэбы тут наноў пералічваць іх. А вось што ўдалося практычна зрабіць за час, даўжынёю ў два гады, — на гэтым дазвольце зусім коротка запыніцца. Вядома, толькі на самым галоўным, спадзеючыся, што таварышы, якія будуць браць слова, істотна дапоўняць і ўдакладняць агульны абрыс жыццядзейнасці Таварыства, а галоўнае — не паскупяцца на крытыку і самакрытыку і на слушныя парады і прапановы, прадыктаваныя жаданнем наладзіць нашу працу як найлепш, каб поспехаў дасягнуць як найбольшых.

Якія галоўныя задачы ставіла і старалася выпрашыць Таварыства?

Па-першае, стварэнне суполак і арганізацый Таварыства на ўсёй тэрыторыі рэспублікі і за яе межамі — там, дзе жывуць беларусы. На сёння нашы арганізацыі створаны амаль ва ўсіх гарадах і раёнах Беларусі — прынамсі, хоць першасныя разрозненыя суполкі, калі не раённыя і гарадскія арганізацыі. Раённых сябрын — па апошніх звестках — 90. Заснаваны і жыццядзейнічаюць суполкі і сябрыны Таварыства ў Маскве і Ленінградзе, у Сібіры і на Украіне, у Эстоніі, Латвіі і Літве. Гэтаксама і далёка ў замежжы — у прыватнасці, у ЗША і Канадзе. Існаванне філій Таварыства па-за межамі Беларусі мае асаблівае значэнне — бо гэта працуе на вялікую беларускую ідэю, спрыяе абуджэнню нацыянальнай самасвядомасці, садзейнічае згуртаванню ўсіх патрыётаў Бацькаўшчыны вакол ідэй Адраджэння.

Па-другое, нашым клопатам было стварэнне курсаў і гурткоў па вывучэнні беларускай мовы — на прадпрыемствах, у дзяржаўных установах, у грамадскіх арганізацыях, у ВНУ, тэхнікумах і вучылішчах. Справа гэта аказалася нялёгкай, маштабы і плён гэтай працы задаволіць нас, на жаль, не могуць. Якія, спытайце, таму прычыны? Галоўнае — слабае выкананне Закона аб мовах у Беларускай ССР: людзі ў большасці сваёй яшчэ не адчулі, што названы закон пачаў здзяйсняцца, што беларускую мову сапраўды і ўсур'ёз неабходна вывучаць; а вось, маўляў, і абыдзецца, ці мала ў нас прымалася розных законаў, якія не дзейнічалі. Апрача таго, тармозіць справу і недахоп кадраў выкладчыкаў на курсах беларускай мовы; тут жа патрэбны свядомыя, шчырыя, калі хочаце, апантаныя энтузіясты, а яны не ўсюды знаходзяцца.

Трэцяе, што мы лічылі і лічым надзвычай важным, — выдавецкая дзейнасць Таварыства. Перш-наперш нам патрэбна было сваё перыядычнае выданне — у дапамогу ўсёй практычнай рабоце і, галоўнае, для размовы з чытачамі пра наш агульны вялікі клопат аб роднай мове і культуры. Такім выданнем, як вы ведаеце, стаў бюлетэнь «Наша слова», які ў мінулым годзе выходзіў цалкам на апякунскія сродкі Дзяржкамдруку БССР раз у месяц, а сёлета — ужо на дзяржаўным, бюджэтным фінансаванні, раз у тыдзень, праўда, пакуль што ва ўдвая меншым аб'ёме. Паставіць на ногі выданне, якое б адпавядала свайму прызначэнню і набыло свайго вернага чытача, — нялёгка. Але іншага лёсу мы нашаму тыднёвіку не жадаем. І мы ўскладаем на яго вялікія спадзяванні. Цяжкасць задачы, якая стаіць перад рэдакцыйным калектывам і рэдкалегіяй, вынікае з таго, што наша выданне ў вядомым сэнсе павінна быць узорным і, калі хочаце, непераўзыдзеным. Маю на ўвазе культуру мовы, бляск стылю, эстэтычны і маральны ўзровень матэрыялаў, якія ў ім публікуюцца. Каб — ні ценю пошласці, каб і на дух нічога ад дэмагагічна-таннай і вульгарнай мітынгоўшчыны, ад дробязнага абывательскага крытыканства, і ўжо крый Бог — ад элементарнай непісьменнасці. Спадзяюся дэлегаты і госці скажуць, якой яны хочуць бачыць сваю галоўную газету. Гэтаксама, як і іншыя выданні Таварыства, што пачалі выходзіць у некаторых раёнах і гарадах рэспублікі (напрыклад, у Навагрудку, у Маладэчні). Надзвычай важна, каб такія бюлетэні мясцовых арганізацый Таварыства хоць зрэдчасу выходзілі — не забудзем, што друкаванае слова ўсё яшчэ валодае вялікай магічнай сілай.

Апрача газеты «Наша слова», ТБМ распачало выданне беларускіх слоўнікаў і навуковых кніг, а таксама пэўнай сувенірнай прадукцыі. Праўда, магчымасці нашы тут вельмі і вельмі нязначныя. Патрэбны грошы, патрэбна папера, а найперш — патрэбна добразычлівае стаўленне да гэтых нашых клопатаў з боку дзяржавы і грамадскасці.

Яшчэ адзін вельмі важны аспект нашай працы — непасрэдны ўдзел і дапамога ў пераводзе справаводства на беларускую мову, у тым, каб беларуская станавілася рабочая, службовая мова на прадпрыемствах і ва ўстановах, каб набылі беларускае аблічча візуальнае афармленне нашых гарадоў і вёсак, вуліцы і рэклама... А ў першую чаргу — у пераводзе на беларускую мову школ, тэхнікумаў і ПТВ, інстытутаў і універсітэтаў. Тут перад намі яшчэ непачаты край работы. Хаця ёсць і вельмі ўцешныя прыклады, якія пацвярджаюць недарэмнасць нашых намаганняў і ўсяляюць у сэрца надзеі. Так, на цагельным заводзе ў Радашковічах, дзе дырэктарам сябар мясцовай рады ТБМ Віктар Сігізмундавіч Лазар, справаводства ўжо даўно пераведзена на беларускую мову. Паспяхова беларусізуецца навучанне ў сталічным тэхналагічным інстытуце, дзе рэктарам сябар рэспубліканскай рады ТБМ Іван Міхайлавіч Жарскі.

Асобна належыць сказаць пра немалыя заслугі ТБМ у справе дэмакратызацыі нашага беларускага парламента. Можа, не ўсім зразумела, што маецца на ўвазе? Гаворка аб тым, што ад нашай тэбээмаўскай, так бы мовіць, «курыі» ў Вярхоўны Савет рэспублікі прайшло больш за дзесяць народных дэпутатаў, якія, не пабаімся папрокаў у нясціпласці, вылучаюцца ў дэпутацкім корпусе дэмакратызмам поглядаў, парламентарнай ініцыятыўнасцю і актыўнасцю, і набываюць вядомасць у якасці палітычных дзеячаў. Праўда, не абышлося без пэўных страт для ТБМ: старшыня і два яго намеснікі апынуліся на выбарных штатных пасадах у Вярхоўным Савеце, дзе аб'ём работы такі велізарны, што на Таварыства пачало заставацца ўсё менш часу.

Трохі аб тым, што перашкаджала і не дазволіла Таварыству ва ўсіх названых аспектах яго дзейнасці зрабіць больш. Тут я перш за ўсё назваў бы нашу агульную ўсенародную бяду — нізкую нацыянальную самасвядомасць, або нацыянальны нігілізм, з якога вынікае негатоўнасць шырокіх колаў грамадскасці зразумець значэнне ТБМ, жыццёвую неабходнасць яго ўтварэння. Калі чалавек абыходзіцца без роднай мовы і не адчувае ў ёй ніякай патрэбы — дык навошта яму яшчэ нейкае таварыства, дзеля чаго, маўляў, і кім яно прыдумана? Горшы варыянт такое пазіцыі — а ці не будзе гэта Таварыства асяродкам беларускага нацыяналізму, якога трэба баяцца як чорт крыжа? На вялікі жаль, неадназначныя, няроўныя былі адносіны да ТБМ з боку тых дзяржаўных і грамадскіх сіл, ад якіх многае залежала, у прыватнасці, ад раённых і гарадскіх арганізацый КПБ, ад мясцовых органаў савецкай улады. Там, дзе ідэю стварэння Таварыства зразумелі правільна — як народжаную самім часам патрэбу ў грамадскай чыннасці дзеля адраджэння роднай мовы і культуры, — там ТБМ з першых крокаў атрымала належную арганізацыйную і маральную падтрымку. Пераканаўчы прыклад таму — актыўная пазіцыя за ТБМ тагачаснага Мінскага гаркома КПБ, дзякуючы якому ў сталіцы хутка ўзніклі гарадская і дзевяць раённых арганізацый Таварыства, а рэспублі-

(Працяг на стар. 12).



Ля кніжнай выставы Я. БРЫЛЬ і настаўнік Л. РАМАНКА.



У зале з'езда — падзвіжнікі роднага Слова.

# ПЕРАГУКВАННІ АБО ПАЛЕМІКА?

## Па старонках рускай класікі

ЁСЦЬ У М. Ю. ЛЕРМАНТАВА верш, на які савецкія даследчыкі доўгі час не любілі спасылацца. Называецца ён «10 июля», а ў дужках літаратуразнаўцы і выдаўцы дадаюць лічбу «1830». Прывядзем яго цалкам.

**Опять вы, гордые, восстали**
**За независимость страны,**
**И снова перед вами пали**
**Самодержавия сыны,**
**И снова знамя вольности кровавой**
**Явилося, победы мрачной знак,**
**Оно любимо было прежде славой:**
**Суворов был его сильнейший враг.**

Верш у многім загадкавы. Перш за ўсё насцярожвае ўзаконеная ўсімі дата: 1830 год. У чарнавым аўтографе верш аказаўся побач з творамі, напісанымі ў тым годзе. Аргумент не надта надзейны.

На такую дату можна было б не звяртаць увагі, калі б пад яе не падганяўся ўвесь сэнс і ідэйны змест верша. Сучасныя ўяўленні пра гэты твор найбольш выразна і поўна сфармуляваны ў «Лермантаўскай энцыклапедыі» (1981 год). Пачытаем яе і паспрабуем разгледзець паасобныя аргументы і вывады: «Верш напісаны паміж 15 ліпеня і 15 жніўня 1830. Да гэтага часу дакладна не высветлена, пра якія рэвалюцыйныя падзеі ідзе гаворка. У гэты перыяд буйнейшай падзеяй была Ліпеньская рэвалюцыя ў Францыі... Дата 10 ліпеня не можа азначаць часу напісання, таму што чарнавы аўтограф знаходзіцца ў сшытку пасля верша, пазначанага 15 ліпеня. Яна не з'яўляецца і датай падзеі, таму што рэвалюцыя ў Парыжы пачалася 27 ліпеня (15 ліпеня па старым стылі) і закончылася 29 ліпеня... Звесткі аб гэтым дайшлі да Масквы ў пачатку жніўня. Лермантаў знаходзіўся ў той час у Сераднікове. Застаецца дапусціць услед за Б. Эйхенбаўмам, што верш напісаны 10 жніўня і, як гэта часта рабіў Лермантаў, быў названы датай напісання; пры гэтым здарылася памылка, і замест «жніўня» Лермантаў напісаў «ліпеня», паколькі гутарка ішла пра ліпеньскія падзеі».

А калі мы ўсё ж такі паверым Лермантаву, а не Эйхенбаўму, то якія вывады нам давядзецца рабіць? Такія, што верш і сапраўды не мае і не можа мець дачынення да падзей у Францыі. І лепш за ўсё пра гэта сведчыць змест твора, хоць «Лермантаўская энцыклапедыя» жывасілам падганяе пад выдуманую схему кожны радок твора, сцвярджаючы, што калі б у загалоўку замяніць слова «ліпеня» на «жніўня», то кожны радок тэксту атрымае «вычарпальнае тлумачэнне», а сам водгук Лермантава на падзеі Ліпеньскай рэвалюцыі «становіцца ў адзін шэраг з водгукамі А. С. Пушкіна і А. І. Герцэна, які пісаў у «Былым і думах», што весткі пра Ліпеньскую рэвалюцыю зрабілі вельмі моцнае ўражанне на маладое пакаленне».

Пачытаем, як усё гэта даказваецца:

«Опять вы, гордые, восстали» — «Рэвалюцыя 1830 разглядалася як працяг Вялікай французскай рэвалюцыі... Радок «За независимость страны», здавалася б, сведчыць аб выступленні супраць замежных захопнікаў, аднак барацьба супраць Бурбонаў звязвалася ў ліпені 1830 з аднаўленнем нацыянальнай незалежнасці... «И снова перед вами пали самодержавия сыны»... — самаўладствам у 19 ст. называлі любую неабмежаваную манархічную ўладу».

Зробім пакуль што перапынак. Як можна паверыць, што Лермантаў пісаў «на авось» і ў падзеях Ліпеньскай рэвалюцыі ў Францыі бачыў усяго толькі барацьбу за незалежнасць краіны? Якую незалежнасць і ад чыйго прыгнёту? Чыйго «самаўладства сыны» душылі незалежнасць Францыі? Ці мог бы хто-небудзь здагадацца сказаць, што галоўная мэта паўстання дзекабрыстаў або ўдзельнікаў рэвалюцый 1905 і 1917 гадоў у Расіі заключалася ў тым, каб яшчэ раз паспрабаваць заваяваць незалежнасць краіны? Гэта ўжо логіка абсўрду.

Асаблівую вынаходлівасць праявілі аўтары, расшыфроўваючы апошнія два радкі верша: «Оно (знамя вольности кровавой.— **У. К.**) любимо было прежде славой: Суворов был его сильнейший враг». Прачытаем, што яны пішуць: «Лермантаў мае на ўвазе славу Напалеона, войскі якога змагаліся пад трохкаляровым сцягам супраць рускай арміі пад камандаваннем Суворава». Аднак пры чым тут Напалеон, тым больш што яму непасрэдна з Суворавым нідзе не давялося сустрэцца на полі бою? Расшыфроўваючы значэнне самога выразу «Знамя вольности кровавой», аўтар артыкула ў «Лермантаўскай энцыклапедыі» паведамляе: «Гутарка ідзе пра трохкаляровы сцяг, што ўсюды з'яўляўся ў Парыжы ў ліпеньскія дні і рабіў вялікае ўражанне на масы, якія не бачылі яго з 1815». Можна падумаць, што аўтар энцыклапедычнага артыкула не чытаў пушкінскага верша «Бородинская годовщина», дзе таксама гаворка вядзецца пра «крывавы сцяг» абаронцаў Варшавы ў 1831 годзе.

Такім чынам, Лермантаву прыпісалі памылку, прыдумалі за яго дату і падагналі пад яе розныя небыліцы. І ўсё дзеля таго, каб у духу традыцый сацыялістычнага рэалізму ў гісторыка-літаратурнай навуцы паказаць у светлым ззянні гісторыю рускай літаратуры.

А цяпер гэтаму ланцужку вынаходлівых разважанняў і прыдумак паспрабуем супрацьпаставіць іншыя меркаванні. І спачатку задумаемся над датай верша. Спалучэнне «10 ліпеня» (тое, што засведчана самім Лермантавым) і 1830 год (пастаўлены Бог ведае кім) нічым не можа быць апраўдана. Гэта даказана дастаткова пераканаўча.

Усё стане ясным толькі тады, калі мы дапусцім, што верш напісаны ў 1831 годзе. У такім выпадку і спасылка на Суворава акажацца зусім на месцы, і гаворка пра змаганне за незалежнасць краіны, і «самадзяржаўя сыноў», і «сцяг вольнасці крывавай». Усё гэта можа быць звязана толькі з падзеямі польскага паўстання 1830—1831 гадоў. Гэта была вайна супраць іншаземнага панавання, супраць рускага самаўладства, за незалежнасць краіны. Прытым не першая. Яшчэ свежым было ў памяці народа паўстанне 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. І толькі з улікам падзей Лістападаўскага паўстання 1830—1831 гадоў у лермантаўскіх радках — «Опять вы, гордые, восстали (За независимость страны, (И снова перед вами пали) Самодержавия сыны» — кожнае слова акажацца на месцы, кожнае будзе звязана з рэальнымі гістарычнымі падзеямі, якія хвалявалі ўсё рускае грамадства, хоць і выклікалі часта дыяметральна супрацьлеглыя эмоцыі.

Можа ўзнікнуць законнае пытанне: а пры чым тут Сувораў? Як-ніяк больш за 30 гадоў прайшло з дня смерці генералісімуса. Аднак памяць пра яго жыла, была яшчэ свежай і ў Расіі, і ў Польшчы. Асабліва пра штурм Варшавы ў 1794 годзе і так званую «Пражскую разню», калі было знішчана прадмесце польскай сталіцы Прага разам з жыхарамі. А. Міцкевіч успамінае гэтую падзею ў «Пану Тадэвушы», а Ю. Славацкі ў «Паэме Пяста Дантышка пра пекла», паказвае, як людзі, што наведваюць той свет, плююць на галаву Суворава.

І РУСКАЯ ЛІТАРАТУРА не забывала палкаводца, звяртаючыся да падзей Лістападаўскага паўстання ў Польшчы. Як тут не нагадаць такія патрыятычныя пушкінскія вершы, як «Клеветникам России» і «Бородинская годовщина».

Паколькі ў энцыклапедычным артыкуле, прысвечаным вершу «10 июля», тройчы робіцца спасылка на свабодалюбства Пушкіна, варта гэтае «свабодалюбства» паказаць у яго натуральным выглядзе, засведчаным вершам «Бородинская годовщина»:

**Сбылось — и в день Бородина**
**Вновь наши вторглись знамена**
**В проломы падшей вновь Варшавы;**
**И Польша, как бегущий полк,**
**Во прах бросает стяг кровавый —**
**И бунт раздавленный умолк.**

**Победа! сердцу сладкий час!**
**Россия! встань и возвышайся!**
**Греми, восторгов общий глас!..**
**Но тише, тише раздавайся**
**Вокруг одра, где он лежит,**
**Могучий мститель злых обид,**
**Кто покорил вершины Тавра,**
**Пред кем смирилась Эривань,**
**Кому суворовского лавра**
**Венок сплела тройная брань.**

**Восстав из гроба своего,**
**Суворов видит плен Варшавы;**
**Вострепетала тень его**
**От блеска им начатой славы!**
**Благословляет он, герой,**
**Твое страданье, твой покой,**
**Твоих сподвижников отвагу,**
**И весть триумфа твоего,**
**И с ней летящего за Прагу**
**Младого внука своего.**

Тут мы бачым дыфірамб кантужанаму ў баі пераемніку і прадаўжальніку справы Суворава Паскевічу, які перад гэтым узначальваў рускія войскі на Каўказе («Пред кем смирилась Эривань»). Гэта пад яго камандай у Польшчы «бунт раздавленный умолк». Паскевіч і сапраўды накіраваў у сталіцу імперыі ўнука Суворава з паведамленнем аб перамозе. У кантэксце радкоў верша «Бородинская годовщина» больш зразумелым становіцца лермантаўскі напамін пра Суворава.

У вершах Лермантава і Пушкіна з усёй выразнасцю вызначыліся дыяметральна супрацьлеглыя ацэнкі адных і тых самых падзей: з аднаго боку — апафеоз разбойніцкай, пагромнай вайны, а з другога — праслаўленне тых, хто праліваў кроў за свабоду сваёй краіны. Нястрымнаму вялікадзяржаўнаму чаду Лермантаў супрацьпаставіў журботныя словы захаплення самаахвярнасцю змагароў за свабоду супраць іншаземнага прыгнёту, супраць слуг («сыноў») самадзяржаўя.

Улічваючы храналогію напісання вершаў, мы не можам гаварыць пра ўсвядомленую палеміку. Аднак бясспрэчна, што абодва паэты выказвалі настроі розных слаёў грамадства. Але адны і тыя ж падзеі прымушалі іх звяртацца да тых самых гістарычных паралеляў (напамін пра Суворава) і мастацкіх вобразаў (крывавы сцяг).

ВОБРАЗНУЮ ПЕРАКЛІЧКУ з радкамі вершаў «Клеветникам России» і «Бородинская годовщина» мы знаходзім таксама і ў Адама Міцкевіча, у яго «Рэдуце Ардона». Гэты твор прысвечаны апісанню аднаго з эпізодаў бітвы за Варшаву ў час таго самага Лістападаўскага паўстання.

ДУМКА ЧЫТАЧА

# ЦІ ТО ПАДАННЕ, ЦІ ТО АПАВЯДАННЕ...

Упершыню для сябе імя Ірыны Масляніцынай я адкрыў, прачытаўшы калектыўны зборнік «Пад знакам Стральца», які выйшаў у серыі «Бібліятэка часопіса «Маладосць» у канцы 1990 года. Асабліва мяне ўзрадавалі словы з кароценькай прадмовы: «Запісвае народныя паданні і легенды...» Узрадавалі, таму што зараз гэтым займаюцца, у асноўным, толькі фалькларысты, між тым як аўтарка двух невялікіх твораў па сваёй непасрэднай спецыяльнасці — журналістка.

Не сакрэт, што мы маем вялізныя «белыя пляміны» ў нашым нацыянальным фальклоры, мастацтве, гісторыі. Іх патрэбна запоўніць, раскрыць, не марудзячы, бо тое, што трацілася і траціцца, знікае амаль беззваротна. Ведаю, што адшукваць, аднаўляць, рэстаўрыраваць вельмі і вельмі складана, бо сам апошнія гады гэтым займаюся — вывучаючы ніжэйшы пласт беларускай міфалогіі (яго яшчэ навукоўцы называюць «дэманалагічным»). Можа, і гэта было прычынай маёй зацікаўленасці да апрацовак І. Масляніцынай (так мне падалося спачатку, можна іх назваць). На жаль, надзеі мае не пацвердзіліся...

Чытаючы творы І. Масляніцынай (не ведаю, як усё ж назваць іх дакладней), адчуваеш, што яна сама не вельмі выразна ўяўляе, дзе народнае паданне, а дзе легенда, у чым розніца паміж імі, што характэрна аднаму жанру, а што другому. Імкненне ўскладніць сюжэт, «закруціць» яго, супрацьпаставіць тое, што ніколі не супрацьпастаўлялася ў рэальным жыцці, прыводзіць да непажаданага выніку. Напрыклад, крыжацкаму атраду супрацьстаіць воўчая зграя, якая вымушае ворагаў панічна ўцякаць. Пагодзімся з такой расстаноўкай фактаў, але навошта тады воіны князя забіваюць большасць ваўкоў? Яны ж прынеслі, у дадзеным выпадку, бяскроўную перамогу! Думаецца, нашы продкі не былі такімі няўдзячнымі.

І. Масляніцына «зачапіла» яшчэ адзін старадаўні сюжэт: «былі яны (неўры. — **А. Н.**) ведзьмакамі і маглі раз у год ператварацца ў ваўкоў, каб перагрызці горла свайму ворагу». Ведаю дакладна, што гэта сказаў «бацька» гісторыі Герадот адносна жыхароў беларускага Палесся і што меў ён на ўвазе зусім іншае, — менавіта іх здольнасць ператварацца ў ваўкалакаў, а не разлічвацца са сваімі ворагамі, пераўвасобіўшыся ў ваўкоў...

У згаданых апрацоўках І. Масляніцынай многа супярэчнасцей і моўных недахопаў. Не заўсёды дзеянні ці іх апісанні, звычаі і прадметы адпавядаюць часу, калі дзеянне развівалася. «Яна нічога не перадавала для мяне? — спытаў Ізяслаў у **старога слугі** Ігната». «Дзіўныя пытанні задаеш ты, князь, — адказаў Ігнат... **Каля года назад я ўпершыню ўбачыў маці** тваю». (Падкрэслена мною. —**А. Н.**). Як гэта магло атрымацца, што стары слуга толькі год назад пачаў прыслужваць князёўне? Ды і ўзаемаадносіны нейкія дзіўныя ў князя і слугі... «Але дачка полацкага князя была надта прыгожая, каб забіваць яе пасля ганьбы, і пераможца павёз паланянку з сабою». Тут увогуле абсурдная сітуацыя, бо амаль кожны школьнік ведае, што Уладзімір Полацкам завалодаў не дзеля таго, каб забіваць Рагнеду, а дзеля таго, каб яна яго «разбула», г. зн. стала ягонай жонкай. «Татары ўрываліся ў хаты, забівалі мужчын і дзяцей, гвалцілі жанчын, выносілі хатняе начынне, распіхвалі па кішэнях каштоўнасці...» Мне вельмі хочацца даведацца, што гэта за «начынне» і асабліва, ці былі ў тыя часы ў татараў кішэні, куды яны запіхвалі каштоўнасці. Нешта нідзе я пра гэта не чытаў. Мабыць, трэба весці гаворку пра аўтарскае адкрыццё І. Масляніцынай...

Не згодны я і з тым, што назва «Радзеж» узяла пачатак ад двух слоў «радзець» і «радавацца». Гэтаксама як і назва ўрочышча Збытапазбаўлена, «бо са смерцю Хатуні скончыліся набегі татар у гэтыя мясціны...»

Альбо вось такое чытаем, напрыклад: «Ізяслаў заехаў у горад». Атрымліваецца, што князь не імчаўся на кані, не скакаў, а ехаў. Ехаў — значыцца, не спяшаўся, хоць ужо ведаў пра сваё гора — памерла маці. І. Масляніцына адным словам перакрэсліла ўсё тое, што імкнулася падкрэсліць, — гарачую любоў Ізяслава да сваёй матулі. А вось гэтыя радкі: «Але адчуць горыч і самоту вады гэтай дадзена не кожнаму, а толькі тым людзям, у кім прачнецца крыўда за Рагнеду, чые кулакі сціснуцца ад нянавісці да ўсіх Уладзіміраў, што гвалцяць жанчын, любяць іх толькі за прыгажосць...» Абагульненне тут заклікае да вельмі сумніцельнай мэты — «нянавісці да ўсіх Уладзіміраў, што гвалцяць жанчын...»

Ёсць і іншыя моўныя недакладнасці. Нязвычна гучыць «снегавы туман» («Сівы воўк»), «матушка Аляксандра» («Падземная царква»). На Беларусі звычайна жонку папа звалі пападдзёю... Або вось гэтае спалучэнне: «Узяць, да прыкладу, майго швагра, які мае кандытарскую лаўку ў Полацку». Добра, што не кафэ ў тыя далёкія-далёкія часы трымаў швагер у Полацку...

Апошняе, на чым хацела-

У Пушкіна ёсць радок:

**Иль русского царя уже**
**бессильно слово?**

Не, яно не бездапаможнае — сведчыць Адам Міцкевіч. Дастаткова цару (а ён, як Бог, вялікі, як сатана, злосны) зморшчыць бровы — і паляцяць тысячы кібітак (з нявольнікамі, вядома); падпіша паперу — і тысячы мацярок будуць аплакваць сваіх дзяцей; падасць знак — і пасыплюцца бізуны ад Нёмана да Хівы.

Прозвішча царскага военачальніка не называецца ні ў Пушкіна, ні ў Міцкевіча. Але абодва яны спасылаюцца на яго каўказскую кар'еру. Для рускага паэта ён — «мститель злых обид». Праўда, мы ніяк не даведваемся, як гэта Каўказ крыўдзіў бедную Расію. Што ж датычыць Міцкевіча, дык ён бачыў у вобліку гэтага палкаводца ўсяго толькі бяздумнага выканаўцу ганебных загадаў: «Наступаў каўказскі палкаводзец з сіламі палавіны свету — верны, пэўны, надзейны, як бізун у руцэ ката».

І яшчэ адно параўнанне. Спачатку цытата з Пушкіна:

**Иль мало нас? Или от Перми до Тавриды,**
**От финских хладных скал до пламенной Колхиды,**
**От потрясенного Кремля**
**До стен недвижного Китая,**
**Стальной щетиною сверкая,**
**Не встанет русская земля?..**

У Міцкевіча ж руская салдацкая маса, што паўзе на пазіцыі абаронцаў Варшавы, «сверкая» іскрамі штыкоў, нагадвае ўсяго толькі балотную лавіну.

Ці выпадковыя ўсе гэтыя перагукванні? Думаецца, што не. Калі ўлічыць, што вершы Пушкіна былі апублікаваны ў верасні 1831 года, а твор Міцкевіча нарадзіўся ў чэрвені 1832 года, то ў польскага паэта было дастаткова часу, каб даведацца, які адказ даваўся «клеветникам России» і што адбылося ў «барадзінскую гадавіну».

Тады яшчэ, у 1831 годзе, Пушкін не мог прадбачыць, што вопыт расправы з польскім паўстаннем спатрэбіцца яго любімаму герою пры падаўленні Венгерскай рэвалюцыі 1848—1849 гг. А вось аўтарам «Лермантаўскай энцыклапедыі» не шкодзіла б пра ўсё гэта ведаць і абыходзіцца з гісторыяй хоць трошачкі больш літасціва. То, можа б, тады яны не спрабавалі рабіць адкрыцці накшталт: «У гэтым вершы Лермантаў працягвае традыцыі свабодалюбівай паэзіі Пушкіна і дзекабрыстаў».

**Уладзімір КАЗБЯРУК.**

---

ся б спыніць сваю ўвагу: дык як жа ўсё-ткі назваць творы І. Масляніцынай? Мне здаецца, што найбольш поўна будзе гучаць вось гэтая назва — «свядомая стылізацыя аўтарскіх твораў пад фальклор», дзе за аснову бяруцца шырокавядомыя вуснапаэтычныя сюжэты са скарбонкі духоўнай спадчыны беларускага народа. Аўтарка, спасылаючыся на народныя творы, нідзе асабліва не робіць удакладнення, дзе, ад каго, пры якіх абставінах запісаны паданні, парушаючы тым самым спрадвечную традыцыю фальклярыстаў, якія абавязаны дакладна пра гэта гаварыць, а не вызначаць умоўна межы існавання той ці іншай фальклорнай адзінкі. Не буду згадваць пра тое, у каго з фальклярыстаў чытаў ці сустракаў аналагічныя сюжэты, бо ў фальклоры існуе і такая з'ява, як варыятыўнасць, але, калі скончыў чытаць «апрацоўкі народных паданняў і легендаў» у выкананні І. Масляніцынай, то неяк міжволі падумалася: а можа, не трэба спяшацца нам гэткім манерам запаўняць «белыя пляміны» ў беларускім фальклоры?

**Аляксей НЕНАДАВЕЦ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

г. Бабруйск.

---

# КАБ НЕ ХІЛІЦЦА ПАД ВЕТРАМ...

Паэзія, безумоўна, першай зрэагавала на змены, якія пачалі адбывацца ў жыцці грамадства пасля красавіцкага (1985 г.) Пленума ЦК КПСС. У памяці многіх з нас першыя творы, што з'явіліся ў друку,—быццам раннія пралескі пасля суровай і зацяжной зімы. Публікацыям тым часта не хапала пранікнення ў сутнасць з'яў, пераважалі ў іх эмоцыі, катэгарычнае, безагляднае адмаўленне, як яшчэ нядаўна такое ж безагляднае сцвярджэнне.

Аднак, як і трэба было чакаць, «пралескавы» перыяд хутка мінуўся. Пасля эйфарыі прыйшоў одум: а ці ўсё адбываецца так, як пра гэта думалася? Тут ужо сама выходзіць на зыходныя пазіцыі прозе.

Так і сталася. Усё болей у перыёдыцы твораў, у якіх гучыць трывожны роздум пра наш час і пра нас, у якіх робяцца спробы разабрацца, што набылі мы (а што і страцілі) пад час абнаўлення.

Апавяданне І. Навуменкі «Звяга» («Беларусь»)—з шэрагу такіх твораў. За знешне спакойнай, разважліва засяроджанай манерай пісьма — напал страсцей, выбух эмоцый. Канечне, галоўны герой Аляксей Рыгоравіч Давыдзюк—кіраўнік аднаго з аўтарытэтных навукова-даследчых інстытутаў, чалавек, які прайшоў вайну, на пачатку яе быў падпольшчыкам—прывык нават у самых складаных сітуацыях заставацца самім сабой. Яго, як кажуць, з цярпення не выведзеш. Але гэта на людзях. У душы ж адбываецца вялікая ўнутраная работа, пастаянна пракручваюцца асобныя моманты ўласнага лёсу, нязменна прысутнічаюць пытанні, якія рана ці позна прыходзяць да кожнага. Ці так жыў ты ўсе гады? Ці правільнай дарогай ішоў? Адказаць на іх няпроста, бо ўжо сярод маладых і задзірыстых знаходзіцца нямала ахвочых абвінаваціць Давыдзюка ў кансерватызме, назваць яго прыстасаванцам.

У рэшце рэшт, моладзь у пэўнай меры можна і трэба зразумець. Кожнае чарговае пакаленне праходзіць своеасаблівы этап нігілізму, які найбольш востра і бескампрамісна выяўляецца ў перыяды, калі гэтаму спрыяюць гістарычныя абставіны, грамадская сітуацыя. Але хто паруліўся зразумець Давыдзюка?! Хто ведае, што ён пакутуе? «Даўно пачалася ягоная пакута. Яшчэ з таго, ужо далёкага часу, калі асудзілі культ асобы. Большая палавіна ягонага жыцця прайшла пад знакам сумнення: штосьці робіцца не так. Пасля асуджэння культу асобы ён кіпеў і гарэў. Не хаваў свайго настрою. Выказваў яго перад знаёмымі і незнаёмымі людзьмі». Цяпер гэты «пажар душы» патухнуў. І не толькі таму, што ў свой час на Аляксея Рыгоравіча напісалі «дзве ці нават тры ананімкі, якія датычыліся акупацыйнага мінулага». Абвінавачванні былі беспадстаўныя і, як трэба было чакаць, хутка адпалі. Пачалі забывацца і злачынствы, «што тварыліся пад час ягонага бясхмарнага дзяцінства і юнацтва...» у дзяржаве.

І. Навуменка, на маю думку, дакладна схоплівае і пэўную раздвоенасць галоўнага героя. З аднаго боку, Давыдзюк—змаганец за справядлівасць (скажам, ён ніколі не сумняваўся, што доўгія пасляваенныя дзесяцігоддзі беспадстаўна абвінавачваўся ў супрацоўніцтве з ворагам сакратар гаркома партыі Кузняцоў). Але, з другога боку, сам Давыдзюк не шмат рабіў, каб знайсці агульную мову з моладдзю: «чытаў лекцыі, вёў семінары і не заўважыў, што ў асяроддзі моладзі расце штосьці новае, не знаёмае яго пакаленню».

У нечым традыцыйная нестыкоўка бацькоў і дзяцей! Праблемы ўсіх часоў і ўсіх народаў. Але вытлумачэнне неабходна шукаць і ў нечым іншым: «Пастарэў Давыдзюк і сёе-тое стаў глыбей разумець. Ва ўсякім выпадку не спадзяецца, што заўтра ці паслязаўтра наступяць дзівосныя перамены. Не наступяць. Доўгія гады трэба працаваць і змагацца. І каб не здарылася ў гэтыя гады чаго-небудзь горшага, чым мітынгі і зборышчы».

Магчыма, я і не стаў бы аддаваць шмат увагі гэтаму твору (хоць «Звяга» — адно з лепшых апавяданняў І. Навуменкі, напісаных апошнім часам), калі б ён самым цесным чынам не прымыкаў да многіх празаічных публікацый месяца. Скажам, пасля апавядання І. Навуменкі адразу хочацца перакінуць «масток» да апавядання І. Новікава «Неперспектыўныя Цярушкі» ў «Маладосці». Семнаццацігадовы Юрка, нядаўні выпускнік вясковай дзесяцігодкі, зразумела, розніцца ад маладых навукоўцаў і аспірантаў, што «бунтуюць» у сталіцы. Але рознасць хіба толькі ў тым, што Юрку няма каму выказаць свае сумненні і беды. Ён—адзін. Адзін жа, хоць выключэнні і бываюць, у полі не воін. Пратэст адбываецца толькі ў самой душы. Ён невыказны, а таму яшчэ больш страшны, бо можа прывесці да непрадбачаных вынікаў. Так і здараецца. Юрка, пераканаўшыся, што ён нікому не патрэбны (маці нечакана выйшла замуж за настаўніка, каханая дзяўчына едзе паступаць у інстытут), канчае жыццё самагубствам.

Асобныя дзівацтвы маладога журналіста Міхася Вашко (аповесць І. Пяшко «Дзе логіка?» таксама ў «Маладосці»)—зноў жа пра нестыкоўку пэўнай юнацкай рамантыкі і цвярозасці будняў. Нездарма свой твор пісьменнік назваў дыдактычна-запытальна—«Дзе логіка?» Гэтае пытанне магло б прагучаць і такім чынам: «Дзе выйсце?». Яго сёння ставіць жыццё перад кожным. І тое, што літаратура не абыходзіць гэтых праблем, абнадзейвае. Значыць, нешта кранаецца з месца. Значыць, з'яўляецца спадзяванне, што ранейшае, з гадоў сталінізму, не паўторыцца.

Напамінак жа аб ім гучыць у аповесці В. Хомчанкі «Крэсла з гербам і розныя крымінальныя гісторыі» (часопіс «Маладосць» друкуе пачатак твора). Адразу прываблівае аўтарская шчырасць і бескампраміснасць: «Многія, калі ў іх пытаюць, асабліва публічна, ці хацелі б яны зноў паўтарыць свой жыццёвы шлях, адказваюць з гонарам: «Якое б жыццё ні было цяжкое, не стаў бы яго мяняць, прайшоў бы ўсё спачатку». Не веру гэтым людзям. Яны або становяцца ў позу, або ў іх жыцці не было тых драматычных сітуацый, калі чалавек ратаваўся ад гібелі цудам... Што да мяне, то я не хацеў бы паўтарыць тую сваю раннюю жыццёвую дарогу, перажыць тое, што давялося. Не, не хацеў бы...»

Паўстае з аповесці не проста страшнае, а жудасна страшнае. Як працяг сказанага В. Шаламавым, Я. Бяганскай, С. Грахоўскім... Як дапаўненне яго, таму што канкрэтны чалавечы лёс — гэта канкрэтны чалавечы лёс.

Аднаго шкадую, што ўсяго перажытага ў сталінскіх засценках, лагерах, высылцы не паспеў занатаваць незабыўны Станіслаў Пятровіч Шушкевіч. Застаецца хіба спадзявацца на Міколу Корзуна, які, здаецца, паспеў запісаць яго споведзь...

Вяртанне ў мінулае — гэта і дзённік Я. Драздовіча, вернуты з небыцця часопісам «Маладосць». З дзённіка паўстае воблік аднаго з самых выдатных дзеячаў на ніве нацыянальнага Адраджэння, які і ў самых неспрыяльных умовах не толькі марыў, а і жыў сусветнымі катэгорыямі. Так, сусветнымі, бо Я. Драздовіча, гэтага «вечнага Вандроўніка» (А. Ліс), пастаянна цікавіла жыццё на Месяцы, Марсе, Сатурне...

Мінулае—і вядомыя «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» У. Сыракомлі. Вядомыя дагэтуль, праўда, па шматлікіх публікацыях, што тычыліся жыцця і творчасці аўтара. У першасным, так бы мовіць, выглядзе яны ўпершыню праз 137 гадоў пасля напісання друкуюцца ў «Полымі» (уступнае слова і пераклад К. Цвіркі).

І наступная публікацыя—таксама гісторыя, праўда, у нечаканым аспекце. У. Арлоў у аповесці «Сны імператара» («Полымя») прасочвае (паяднoўваючы рэальнае і фантастычнае, спалучаючы сны і галюцынацыі) падзеі амаль двухсотгадовай даўнасці, раскрываючы ўзаемаадносіны Напалеона Банапарта і беларускай шляхцянкі. Відавочна, навізна погляду аўтара на факты, якія, здавалася б, ужо знайшлі сваё асэнсаванне, вартая ўхвалы.

З публіцыстычных і літаратурна-крытычных выступленняў адзначыў бы нарыс-роздум В. Лапціка «Слёзы Нарачы» ў «Полымі». Тут жа артыкулы «З музею маленства» Э. Гурэвіч, «А жыццё ўсё роўна залатое...» В. Макарэвіча. «Таварыш па вясне і песні» К. Камейшы. В. Лапцік турбуецца пра заўтрашні дзень азёрнай жамчужыны рэспублікі. У астатніх трох матэрыялах — юбілейныя згадкі пра В. Вітку, С. Гаўрусёва, А. Сербантовіча, напісаныя абгрунтавана, сардэчна, чула, з павагай да таленту.

Не першы раз, гаворачы пра чарговыя часопісныя публікацыі, свядома абыходжу рубрыку «Народныя паданні», якую з нумара ў нумар вядуць у «Беларусі» журналістка І. Масляніцына і мастак А. Марачкін. Хочацца пра ўсе гэтыя матэрыялы пагаварыць пасля іх завяршэння асобна.

Нямала ў нумарах і вершаў. С. Грахоўскі («Беларусь»), П. Макаль, А. Лойка («Полымя»), П. Пранузa («Маладосць»), творы іншых аўтараў. Сустракаецца сапраўднае паэтычнае зерне, ёсць знаходкі, але нямала і прахаднога, неабавязковага. Не ў крыўду іншым скажу, што П. Панчанка (падборка ў «Полымі») ці не паперадзе ўсіх у перабудовачным паэтычным марафоне. Маю на ўвазе найперш верш «***Абрыдла мне дзяржаўная палітыка». Вось толькі дзве страфы з яго. У адной пастаянны паэтаў боль—не так мы жывём, людцы, не так: «Стаміўся я ад з'ездаў, і нарад, і пленумаў, і сесій... Пустаслоўе. Чарговым выступленнем я не рад. Хоць год ды памаўчыце! На здароўе». І ледзь не адразу—шлях да ачышчэння, вяртанне ў нерушавасць:

**...Мне часта сняцца родныя з дзяцінства:**
**Трава ў расе,**
**І светлы шум бяроз,**
**І жыта спелае**
**З калоссем залацістым...**
**І вочы зноў туманяцца ад слёз.**

Лірычны герой, як бачна, нягледзячы ні на што гатовы выстаяць, у яго ёсць духоўны паратунак. Адразу прыгадваецца Іван Калітка—«спакойны чалавек, кандыдат навук і пенсіянер» з апавядання І. Навуменкі «Звяга». Ён — свайго роду атыпод Давыдзюка. Здавалася б, ніколі і нідзе не вытыркаецца: «Сам забіты, затурканы. Таму і хіліцца пад ветрам, як сухая балотная трава».

Заўважылі, пісьменнік канкрэтна не гаворыць, перад якім ветрам. Справа ў тым, што каліткі і ім падобныя вельмі ж хутка мяняюць свае погляды і пазіцыю. У адрозненне ад давыдзюкоў, якія гатовы прыняць агонь абставін на сябе, але не здрадзіць прынцыпам, не пайсці насуперак уласнаму сумленню. І яны не адзінокія.

Яны блізкія ў сваёй бескампраміснасці да лірычнага героя П. Панчанкі.

**А. М.**



У Мінскім абласным інстытуце ўдасканалення настаўнікаў адбылася сустрэча Янкі Скрыгана з настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры Мінскай вобласці.

Фота Ул. КРУКА.

**Аляксей РУСЕЦКІ**



# Ваўкалакі шэрыя

**ЧАЛАВЕЧАЯ ТРАГЕДЫЯ**

...Так идут державным шагом...
Впереди — с кровавым флагом...
В белом венчике из роз —
Впереди — Исус Христос.
Аляксандр БЛОК.

Грамамі праз стагоддзі рэвалюцыі
каціліся ад Спартака да Леніна
і мо да кожнай ліплі ўладалюбцы,
да славы яе гучнай і нятленнай.

Яны галовы секлі імем ейным
сапернікам-сябрам з хлуснёю лютай;
так сцвердзіўся адзін у нас надзейна
з рукой уладна ўзнятаю над людам.

І як вяшчун дабра, прарок, настаўнік,
услаўлены ён падхалімным кодлам,
чый клопат варушыўся ў прагным
страўніку,
здаўна вядомы як злачынства й
подласць.

Уладары яны — ім трэба вораг,
зноў вораг рэвалюцыі, свабоды,
каб кроў і страх, і нікнуў люд з
пакорай.
Гіпноз маны, зноў лагерны паморак —
дол бур'яновы над касцьмі народу...

Чым адплаціць вам, ваўкалакі шэрыя,
за гора, боль, які ніяк не здужаць,
за знішчаныя мары, страту веры
у лепшы лёс, атручаныя душы!

Як вас уславіць, шэрыя, за здраду
чырвонаму, ў вяках жывому сцягу,
і ўсім, што мерлі з ім на барыкадах,
інакшага не ведаючы шляху!

Яшчэ жыве мана, прыгнёт, карупцыя,
не пахавана ў свеце рэвалюцыя;
яна мо ўспыхне над бядотай гэтай;
ці ж пойдзе той уявою паэта
па землях, думах, без крыві ды слёз,
каб, сапраўды, наперадзе — Хрыстос!

## След

Абстрыжаную сасну для нейкае справы
валаклі трактарам па чорным асфальце,
здзіралася скура й след крывавы
нема крычаў аб лютасці й гвалце;
як быццам, пятлёй зачапіўшы за ногі,
валаклі кагосьці ў ардынскай імгле...
Студь нелюдзяў лютасць, да нашай
эпохі
у памяці высвеціў гэты след.

## З дзённіка ветэрана

Над намі ляціць барвовае,
жоўтае лісце,
наш восеньскі сон
катуюць сардэчныя раны;
ёсць выйсце з пакуты гэтае,
ведаем выйсце,
хоць мы былі
на ўсё жыццё ашуканыя.
Былі ашуканы
казённай навукай і верай,
Што змалку ў галовы ўбівалі
жалезна й класна...
Наперад няўхільна,
да шчаснае мэты — наперад!
А хісткая далеч
сінела смугою міражнай.
А ў далечы той
праз гады праступалі найболей
падхмарных дымоў каміны
незнаёмаю явай
і змоўклая шэрая вёска,
збяднелае поле,
што сталася полем
з чужынцамі бітвы крывавай.
З крывёй і слязьмі — Перамога,
у голадзе — Праца,
на чорных руінах
адольвалі гора людское,
і потым, а потым —
з найподлай маною спаткацца...
Дык значыць, жылі мы дарэмна,
рабілі не тое!
Над намі прамоўца
суддзёй паўстае галасістым,
забыўшы, з чые камяніцы ён выйшаў,
ці хаты;
ці ж мы дачакаемся
праўды аголенай, чыстай,
перад недалёкім спачынам,
старыя салдаты!
Над намі ляціць барвовае,
жоўтае лісце,
наш восеньскі сон
катуюць свежыя раны,
як добра, што ёсць з бяды
гэтае выйсце
на вечным шляху,
нябёсамі наканаваным!

*Яраслаў Пархута*



# КАРОТКІЯ НАВЕЛЫ

## Круль

Жыў ён за якія дзве вярсты ад Поразава, паблізу дарогі-брукаванкі, на адзінокім хутарку. Жыў ціха, непрыкметна, бытта затаіўшыся. І мо таму рознае сарочылі пра яго людзі. Адны казалі, што ён чарнакніжнік, выклікае па начах душы продкаў і да раніцы размаўляе з імі. Другія — што ён у вялікай крыўдзе на жанчын, таму, заадно, пазбягае сустрэч і з усімі астатнімі. Трэція даводзілі, што ён агент заморскай разведкі і з дня на дзень чакае прыходу сваіх гаспадароў — нейкіх рэваншыстаў.

А Круль?

Высокі, не па гадах падцягнуты, з тварам філосафа, які ведае сабе цану і якога ўвесь час непакоіць аднаадзіная думка — як быць, ён іншы раз усё ж паяўляўся на людзях у сваёй нязменнай уніформе: чырвоных батфортах, зялёным шынялі немаведама якога пакрою ды шапцы-канфедэратцы. І тады мястэчка забывалася на ўсё сваё бязладдзе, а на языку трымала найважнейшую навіну: «А ці бачылі Круля?!.» І, вядома, збягалася ў цэнтр, на скрыжаванне вуліц.

А там, у цэнтры, дзе перасякаліся колішнія тракты на Ваўкавыск, Падароск, Новы Двор і Свіслач, у сваёй вечнай заклапочанасці горда стаяў Круль. Ля ягоных ног плішчыўся кужэльны мяшэчак. З мяшэчка спакусліва пазіралі на свет бублікі, плюшкі, крэндзелі, усыпаныя цукровым пяском ці макам і невядома дзе выпечаныя. Побач, прыціснутая каменьчыкам, ляжала паперка-цэннік, стаяла місачка — для грошай. І местачковая дзятва брала з таго меха, што хацела, а медзякі кідала ў місачку. Увесь час, калі ішоў роскуп тае «бакалеі», Круль засяроджана пазіраў паверх прысад і ўсяго што рабіў — маўчаў.

— Дзівак! — казаў той-сёй з паразаўчан. — За што набыў, за тое і прадае. Ніякага навару!..

А Круль назаўтра быў ужо альбо ў Новым Двары — вялікай і нейкай растрэсенай прыпушчанскай вёсцы, альбо ў Ружанах, што не за адзін дзесятак вёрст ад Поразава, альбо яшчэ дзе, і цешыў ужо тамтэйшую дзятву сваім «таварам». Улады ведалі пра тыя яго дзівацтвы, лічылі чалавека без цара ў галаве і перашкоды не чынілі. І Круль працягваў займацца сваім. А калі хто што і спрабаваў сказаць пра такі ягоны дзіўны занятак, у адказ Круль толькі моршчыў лоб і адварочваўся.

Аднойчы Круль не на жарты здзівіў паразаўчан. Было тое на Першамай. З нагоды міжнароднага свята ў мястэчку праводзілася дэманстрацыя дасягненняў працоўных перамог жыхароў раёна. На плошчу перад райкомам сышліся-з'ехаліся людзі з усіх калгасаў і саўгасаў. Начальства горача віншавала іх. Перадавікі ў адказ кляліся ў вернасці, абяцалі ўзяць новыя рубяжы. Усе крычалі «Ура!» Потым калонамі сталі праходзіць праз плошчу. І тут аднекуль на трыбуну, абабітую чырвоным, падняўся Круль — у нязменнай уніформе, акуратна паголены, але з ранейшаю заклапочанасцю на твары.

— Панове! — надзіва звонкім голасам крыкнуў Круль. — Панове! — паўтарыў ён і здзёр з галавы зялёную канфедэратку. — Нех жые звёнзак радзецкі!..

Што заставалася начальству? Старшыня райвыканкома зірнуў на начальніка міліцыі, начальнік міліцыі — на сакратароў райкома — і ўсе яны, хоць і не так, як да гэтага, а запляскалі ў ладкі. Нехта гаркнуў «Ура!» І яно зноў пакацілася над плошчай. А Круль, ламаючы ў руках канфедэратку, тым часам праціскаўся да мікрафона. Нарэшце над плошчай пачулася:

— Хлопакі! Цо то дзее на свеце? Чэго тылько нема ў нас! Менса нема. Млека нема. Масэлка нема...

Гэта не лезла ні ў якія рамкі. І начальнік міліцыі пачаў адціскаць няпрошанага назад.

Не ўдалося.

А Круля ўжо нібы прарвала. Ашчаперыўшы бардзюрку трыбуны, ён ажно ці не крычаў:

— Хіба нема ў нас земі? Земя ест! Пожондку тылько нема!..

Ну, гэта было ўжо занадта. Начальнік міліцыі нарэшце зарыентаваўся канчаткова і ўраз накрыў мікрафон фуражкаю. Да людзей далящела, ужо не памножанае гучнаўзмацняльнікам:

— Я чловек жандовы!.. Нех жые звёнзак!..

Круля (заўважылі многія!) знялі з трыбуны. Пад рукі. І павялі ў райаддзел. Разбірацца.

А праз нейкую гадзіну, калі першамайская дэманстрацыя закончылася і людзі разышліся, хто куды, піць з нагоды свята самагонку, Круля зноў бачылі на скрыжаванні колішніх трактаў. З кужэльным мяшэчкам ля ног. З цэннікам і місачкай побач.

Ля Круля пакручвалася дзятва. А ён, як і раней, зацята маўчаў, пазіраючы паверх прысад. На ягоным твары напісана было старое, як свет, пытанне: як усё-такі быць?

...Шкада, што Круль не дажыў да нашых дзён.

## Кабанчык

Фомка яшчэ на досвітку «прыціснуў» кабанчыка і цяпер увіхаецца на панадворку з паяльнай лямпай у руках. Лямпа гудзе, б'е сінім полымем і як злізвае з кабанчыка белую шчэць. А Фомка не задаволены:

— Хіба ета работа? Саломкаю! Кулявою! А то ад етай халеры толькі шкварка тхнуць будзе.

На плот павісае Юстын, нейкі час моўчкі слухае суседава бурканне, нарэшце не вытрымлівае:

— Усё адно не ты есцімеш! Як бачыш зяць прыімчыць.

— На тое і зяць, каб узяць! — ужо спакайнее Фомка. — Ды, калі папраўдзе, то нам з Гапаю хіба многа трэба?

— Многа не многа, — пералазіць цераз плот Юстын, — а не лішне, калі на гарышчы і кумпячок вісіць, і каўбаска. А так — зноў пасцімеш.

— Чаму пасціму? — ставіць на снег паяльную лямпу Фомка і лезе ў кішэню па курыва. — Тады яны з горада вазіцьмуць. Ета даўней пасцілі!

— Хо! — Юстын скідае выліналы кажушок, вешае на штыкетнік і бярэцца доўгім нажом сашкрэбваць са спіны кабанчыка нагар. — Што праўда, то праўда. Пасцілі! Сем тыдняў вясною, сем зімою, кажнюткую пятніцу ды яшчэ...

— Паўгода, лічы! — перабівае суседа Фомка, падымае лямпу, прыкурвае ад сіняга агню і пачынае прысмальваць капыткі. — Цяперака не! Цяперака, ета, калі што, — з горада.. Праўда, калі талоны мецьмеш...

— А як жа! — быццам пагаджаецца, быццам не пагаджаецца Юстын. — А як жа!..

І тут насупраць веснічак тармазнуў блакітны «жыгульчык». Хлапчына ў карычневай дублёнцы адчыніў дзверы і ступіў на снег. Паўхвіліны патаптаўся і пайшоў на панадворак. Следам, стараючыся не адстаць, тупала маладзіца, таксама ў карычневай дублёнцы. Яшчэ здалёк хлапчына бадзёра гукнуў:

— Здрасце, папаша! Как дзяліш-кі?!.

— От! — развёў рукамі Фомка. — Етае самае, прыціснуў, як гаворыцца...

Маладзіца перабіла:

— А мы ўродзе как чуствавалі!..

— Холадна ж на марозе! — неяк адразу расчуліўся Фомка. — У хату, дзеткі, бяжыце. Маці картоплю абірае. Скора пячоначку смажыцьмем!..

...Надвячоркам аціжэлы «Жыгульчык» запыліў снегавою мукою ў напрамку горада. А ўслед з-за веснічак расчулена пазіралі Фомка, Гапа і іхні дабравольны памочнік — Юстын.

## Свой рэактар

Неўзабаве пасля Чарнобыля на хутарок, дзе жыве Хвядора, прыехалі салдацікі, дасталі з машыны нейкую хітрую скрыначку і пачалі з ёю абходзіць хату, панадворак.

— Ёсць! — далажылі яны свайму начальніку. — Усюды!

І сталі хаваць тую чорную скрыначку, пад шкельцам якой (Хвядора добра разгледзела!) ажно трапяталі зялёныя лічбы.

З таго і пачалося. Праз нейкі месяц прыгналі бульдозер і ўсю зямельку з панадворка, з сотак, што пры хаце, згрэблі ў кучу, пагрузілі на самазвал і некуды павезлі. Узамен, праўда, падкінулі зямліцы аднекуль з поля. Пуставатай. Абы-якой. Дзіва што ў Хвядоры нічога не ўрадзіла ў першы год.

Праз зіму прыехалі новыя начальнікі. Тыя ўжо загадалі!

— Збірайся, цётка, у бежанцы!

Заўпарцілася Хвядора, замкнулася ў хаце:

— Тутака паміранцьму!

Пазней не раз падумвала: а мо не трэба было гэтак у хамут біць? Што

## Так прыгадаліся яны...

Перад карціннай галерэяй
наскрозь, праз вестыбюль — шнурок;
натоўп сцішаецца — падзея:
культуры ў Мінску новы крок;
чарга прамоўцаў незлічоных...
І, рукі ўсклаўшы на кіёк,
цішком цікуе Кузьма Чорны,
як дзядзька Янка размаўляе
з чытачкай будучай сваёй:
ківае ветла галавой
з усмешкай цёплай, а малая,
то выгляне з-за локця мамы,
то зноў схаваецца яна...
Чамусь надоўга, ў дзень той самы,
карціна гэтая адна
найболей у душу запала:
натоўп і Чорны, і Купала...
О як ягоны мне партрэт
мільгнуў на маршы ў цёмнай рамцы
з-пад ног, з абрыўкамі газет!!
Затым, партрэт другі — ў зямлянцы...
Так прыгадаліся яны
мне зноў з ахвярамі вайны,
той жаль Паэзіі і Прозы,
Трывалейшы за мармур,
бронзу.

## Выбліск

Электрычка, цёмны дзень, кастрычнік,
раптам, нібы з цемры, ў сотні вольт—
выбліскам кароткім электрычным:
вочы, нос, дзявочы яркі рот...
Узрушэнне, востры смутак,
боль...
З тых ваенных, падмаскоўных год,
праз якое сонца, сцюжу й замець
рысы той красы пранесла памяць!!

## Свечка на беразе мора

За акном пралятае на ветры
лістота пажухлая ў морак
і мігціць, дагараючы ў шклянцы,
мая памінальная свечка.
Недзе ўнізе глыбока ўздыхае
пад кручай каменнаю мора
ці з нікчэмнае долі мае,
ці якога яшчэ чалавечка!
Кажанамі злятаюцца цені
і гасне агеньчык хліпучы —
і няма, і ніколі не будзе нідзе
той васковае плоці...
Цяжка мора ўздыхае,
грыміць несціхана пад чорнаю кручай,
як і ў нейкім далёкім,
з інакшымі зорамі, тысячагоддзі.

людзям, тое і табе... Аднак не магла ўцяміць: з якой прычыны ў бежанцы? І седма сядзела на сваім селішчы. Гною не было дзе дастаць, то на соткі пускала попел. Выграбе з грубы — і рассыпле. Выграбе і рассыпле. І радавалася: пачалі радзіць і цыбулька, і бульбачка, і фасолька.

Але зноў начальнікі прыехалі, зноў дасталі чорную скрыначку, зноў абабеглі сялібу. Іх ажно дрэнчыла:

— Не ссыпай попел за пагрaбком! — крычалі яны. — Яго трэба глыбока ў зямлю закопваць. У цябе ж не груба — рэактар!..

Паехалі начальнікі, а Хвядора і зараз не можа зразумець: пра што яны? Які такі рэактар? Спрадвеку паліла грубу і нічога, а цяпер — перастань! Ды яшчэ попел закопвай...

...Хвядора цягне з суседняга ляска саначкі. На іх, як завязаць, тапырыцца сучча — смольнае і так сабе, але, галоўнае, сухое. (Цяпер вунь колькі сухастоін у ляску!). Так што знойка напаліць грубу і сёння. Да раніцы не выстыне!

— А попел, як і раней, за паграбок ссыпацьму, — вырашае Хвядора. — Потым рассею. Як летась. Як пазалетась. Бо ці пражывеш на тыя «грабавыя»?... А так, глядзіш, хоць бульбачка свая будзе... А яны — перастань! А яны — рэактар!..

Старая спыняецца і выцірае даланёю твар.

— Ат! — кажа сама сабе. — Тлумяць галаву! Далася ім мая груба. Знайшлі сякеру пад лавай! Рэактар там, у Чарнобылі!..

## Сонейка памерла!..

Снег сышоў не ўсюды. Сям-там пры плоце, ля кастра бярозавых дроў яшчэ ляжаць пасівелыя гурбачкі ды лена слязяцца бруднай вадою. А ў падпавеці — суха, бытта і не было зімы. Трахім, які толькі што прытупаў сюды, сядзіць на калодцы, пазірае, як у Максімавых руках ажно свішча гэблік, і не хоча ні пра што думаць. На сэрца бытта хто камень павесіў, а галава нібы мякінаю набіта. На змену пагоды ці што?.. Дастаў пачак «Прымы», прыкурыў, зацягнуўся, нейкую хвіліну пaглядаў на стружкі, што вылятaлі з гэбліка, і нечакана для сябе запытаўся:

— То як дзяла, суседзе?

— Дзяла? — не перастаючы завіхацца ля варштата, перапытаў Максім і нібы адсек: — Як сажа бяла!

— А чаму гэтак разгабляваўся? Што рабіць надумаў?

— Сонейка памерла! — раптам неяк раздумліва, нібы ў развазе, прамовіў Максім, пакінуў у спакоі гэблік і прысеў побач, на дошкі. — Учора памерла. Надвячоркам. Прыбег ейны ўнук і перадаў просьбу труну зрабіць. Вот я і...

Трахіма як абухам па галаве гахнулі. Ён бытта аслеп. Ён бытта аглух. Сядзеў на калодцы і не хацеў даць веры пачутаму. Памерла Сонейка!.. Соня. Яго колішняя Сонька... Бач які лёс абняў яе!.. Гадоў пару, як свайго Паўла пахавала, а следам за ім і сама... А некалі такая дзеўка была, такая дзеўка!... Нават ён, Трахім, сватоў аднойчы рызыкнуў пасылаць да яе. Не лежань, не п'яніца, не Бог ведае які, а дала ад варот паварот. Хіліўся да Сонькі і Максім. Пра гэта ўсе ведалі таксама. Ад яго ж тое светлае найменне пайшло — Сонейка. Толькі сватоў Максім не адважыўся пасылаць. Усё чакаў нечага. А яна ўзяла і ў суседняе сяльцо, у Зарэчча, выскачыла...

Трахім падняўся з калодкі і пасунуўся раскіслым панадворкам да вуліцы. Ён заўтра абавязкова павінен быць у Зарэччы! Трэба хоць трошкі прайсці за труною. Хоць трошкі. Сонейка ж памерла!..

Ля веснічак прыпыніўся, бытта хацеў да чагосьці прыслухацца.

У Максімавай падпавеці гэбліка не чуваць было.

## Сустрэча з іншапланецянінам

І быў новы дзень. І бегла па зямлі дарога. І ў вышыні блакіцілася неба. І жаваранак падымаў над полем сонца.

Раптам усё гэта знікла — пачалі жахаць маланкі, біць перуны, а з хмары, што павісла над светам, нібы па лесвіцы, стаў нехта спускацца. За пару прыступак ад зямлі спыніўся, падняў руку, павёў ёю ў паветры, — і пачулася:

«Слухай, што скажу табе, сыне Блакітнай Планеты! Вы, людзі, зашмат нарабілі шкоды. Супыніце прагнасць сваю. Не будзьце самазабойцамі. Шануйце ўсё жывое і нежывое. Інакш Блакітная Планета ператворыцца ў Чорную Планету. Павер мне, такое здаралася ў Сусвеце».

«Адкуль усё гэта вядома табе? — аслупянеў я і не мог зрушыць з месца. — І хто ты?»

«Нам зверху відней! — адказаў ён. — А хто я — ты ведаеш».

Узняў руку, зноў павёў ёю ў паветры, — і хмара, нібы сарваўшыся з прывязі, пачала знікаць. Разам з ім.

Зрабілася ціха. Зноў жаваранак падымаў над полем сонца. Зноў у вышыні блакіцілася неба. Зноў бегла па зямлі бясконцая дарога.

Я кінуўся туды, дзе толькі што «стаяў» загадкавы прышэлец, і ўбачыў у дарожным пыле крыж. Вялікі. Счарнелы. Чамусьці падняў яго і панёс. І выразна чуў голас прышэльца:

«Калі ўпадзеш, крыж падыме сын твой. Упадзе ён — унук падыме. Упадзе ўнук — праўнук...»

...Але крыж той нясу яшчэ я.

## З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

### Васіль ГАДУЛЬКА



Васіль Гадулька нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Федзькавічы, што ў Жабінкаўскім раёне Брэсцкай вобласці, у спадчыннай сялянскай сям'і.
Клады мінуўшчыны раскопваць не бяруся,
а радаслоўнай продак мой не вёў.
Адно чым сапраўды я ганаруся,
дык гэта тым, што род мой не з князёў, —
піша Васіль Гадулька ў вершы «Маё паходжанне». У роднай вёсцы ён жыве і працуе цяпер, застаючыся верным земляробскай справе свайго працавітага роду, адсюль ідуць вытокі яго паэтычнага таленту.

Як паэт Васіль Гадулька склаўся даўно, хаця яго вершы ўпершыню з'явіліся ў друку ў 1986 годзе, спачатку ў раённай газеце «Сельская праўда», пасля ў абласной «Зары» і «Дні паэзіі», а таксама ў часопісе «Нёман» у перакладзе на рускую мову.

Васіль Гадулька прымаў удзел у рэспубліканскай нарадзе маладых літаратараў у «Іслачы».

Васіль САХАРЧУК.

## Неспакой

Устрывожаных думак нястомны
перпетуум-мобіле —
б'ецца сэрца ў грудзях і да ранку
заснуць не дае.
Нараджае ў ім смутак і гнеў
памяць грозных падзей у Чарнобылі
і на кроснах збалелай душы
павуціну адчаю снуе.

Да бяды — усяго толькі крок.
А тады — што рабіць! Ратавацца як!
Ад яе ж не ўцячэш, як ад карнікаў
некалі ў лес.
Супакойвалі: гэта часова —
павышаны фон радыяцыі....
Не вайна ж, а ўсяго толькі збой
у рабоце звычайнай АЭС.

Не вайна, а штодзень людзі гінуць —
не толькі пад коламі,
ад шматлікіх хвароб, ад аварый —
але і ад куль.
Час няспынна імчыць над Зямлёй,
над яе гарадамі і сёламі,
для яе тыя дваццаць стагоддзяў —
як міг,
а для вечнасці — нуль...

Я зайздрошчу сцяблінцы, якая не чуе,
не ведае
і не ўскрыкне, калі горла ёй перарэжа
каса.
Мы ж як быццам паверылі ўжо
ў непазбежнасць Вялікай Трагедыі
і маўчым, і як вынік таго —
над усім забыцця паласа.

Забыццё — гэта шчыт, за якім мы
прывыклі з іроніяй
успрымаць гэты лёс, быццам ён
сапраўды нам чужы.
Быццам самі сабе
мы ўсяго толькі людзі староннія.
Нават рэха і тое маўчыць
у пустыні здранцвелай душы...

І няма вінаваціць каго,
і няма каму дзякаваць.
Кожны ведае меру сваёй асабістай
віны.
Прага выгад імгненных,
амбіцыі ўлад, а яшчэ — абыякавасць
навучылі нас жыць і скакаць, як хто
можа,
пад дудку маны.

Што дастатак, багацце не працай —
прыпіскамі створаны,
што хітрун баляваў, а сумленны
ў нястачы гібеў —
гэта ж бачылі ўсе,
і цяпер мне балюча і сорамна,
што хаваў я свой сум у душы
і, як мог толькі, стрымліваў гнеў.

Мне б свой край апяваць.
Ад Заходняй Дзвіны і да Брэстчыны
мне б прайсці і з надзеяй зазірнуць
у кожны куток.
А я бачу вялізны натоўп
прагавітых, нахабных, разбэшчаных
і ласкавага слова для іх не знайду
і не ўцісну ў радок.

Пасміхаліся: «Жыць трэба ўмець».
Самі крочылі ўпэўнена:
«Хай патоп, а мы ўсё-ткі выйдзем
сухімі з вады».
Пачакайце, яшчэ не патоп,
але мора ўжо хвалямі ўспенена,
і Зямля — карабель наш — ужо
пад пагрозай страшэннай бяды.
Хто ўратуе яго! Хто Зямлю нашу
здолее вывесці
на арбіту святла з небяспечных
касмічных віроў,
пакуль згоды няма сярод нас
і пакуль —
дэфіцыт справядлівасці!
Пакуль розум і талент людзей —
тая ж хітрасць драпежных звяроў!..

Вось чаму, калі ноч люстру зорнага
неба запальвае
і палову Зямлі спавівае ў дрымоту
і сон,
пранікае ў душу неспакой
і расце ў ёй,
і сэрца зашкальвае —
радыяцыя роспачы ў сотні разоў
перавысіла фон.
І ўстрывожаных думак нястомны
перпетуум-мобіле
робіць збоі яно і да ранку заснуць
не дае.
Нараджае ў ім смутак і гнеў
памяць грозных падзей у Чарнобылі
і на кроснах збалелай душы
павуціну адчаю снуе.

## Навальніца

Я не заўважыў, як на лес пануры
лёг раптам цень злавеснага крыла,
і разам з подыхам неспадзяванай буры
затрэсла кроны дрэў і ў нетрах загула,
завыла, загукала навальніца.
Пярун, бы звар'яцелы — свет спалю!—
пачаў хрысціць маланкамі зямлю,
і неба ўдарыла ў званы ў завоблачных
званіцах.

Зайгралі на цымбалах чорных хваль
жыты азімыя і яравы палетак.
А на пагорку млявыя, амаль
змярцвелыя, сцяблінкі траў і кветак,
як маці, да грудзей прыціснула зямля.
Пранёсся ўспуджаны віхор, бы звер
шалёны.
Закапалі на дол раскідзістыя клёны.
буйной лістотай з пашарпанага галля.

Віхор пранёсся, і ў імгненне вока
з нябёсаў на счарнелыя палі,
на лес, які стагнаў і глуха войкаў
з такою лютай злосцю дождж пайшоў-
паліў,
як быццам нехта зверху з сілай выбіў
дно ў бочцы незапашанай вады.
Тугі струмень умомант змыў сляды
і на пяску фантанам пырскі ўздыбіў.

Сцяна вады, а па-за той сцяной —
маланкі слепнуць, глухне грукат грому.
Наўкольны свет — бы ў сетцы
драцяной.
Сям-там ужо завалы з буралому
палеглі ўпоперак лясных дарог.
Там, дзе ўраган прамчаўся паласою,
нібыта волат пахадзіў з касою —
бязлітасны, як той паганскі бог.

# ПРА МАСТАЦТВА ГАВОРКІ НЕ БЫЛО...

## Роздум пасля з'езда кінематаграфістаў Беларусі

Вобраз сцяны, у якую сёння ўпёрся савецкі кінематограф, стаў, здаецца, галоўным у драматургіі VII з'езда Саюза кінематаграфістаў рэспублікі, які праходзіў у адной з залаў мінскага Дома палітасветы. (Арэнда гэтага памяшкання, дарэчы, абышлася кінематаграфістам у 1.000 рублёў. Сума па нашым часе інфляцыі-індэксацыі-кампенсацыі — амаль смехатворная). Змаганне за свабоду кінатворчасці, якое разгарнулася пасля V «рэвалюцыйнага» з'езда Саюза кінематаграфістаў СССР, аказалася такім жа падманам зроку, як сама прырода экраннай выявы. Нібыта ўсё падобна да жыцця, але — ілюзорнага, увасобленага гульнёю святлаценяў...

Заняўшы непрымірымую пазіцыю ў адносінах да «каманднаадміністрацыйнай сістэмы» (чытайце — да зусім канкрэтных людзей), рэспубліканскі саюз пакуль не набыў нічога. Адно губляе ды страчвае. Не стала Дома кіно — давялося перадаць Чырвоны касцёл вернікам. Праўленне і функцыянальныя падраздзяленні саюза цяпер атайбаваліся ў канторы; ані згадкі на нейкі культурна-асветніцкі цэнтр. Прагляды, без якіх кіно не кіно, праводзяцца ў арандаваных залах мінскага Дома афіцэраў, Дома работнікаў мастацтваў, Палаца шахмат і шашак...

Пошукі годнага памяшкання ці хоць бы часова прыдатнага кінатэатра скончыліся нічым. Кінематаграфістаў не падтрымалі ні ў Саўміне, ні ў Вярхоўным Савеце, ні гарадскія ўлады. Ні нават БНФ, хоць ён і апёрыўся пад крылом саюза і дахам касцёла, — ніхто з гэтай шаноўнай арганізацыі, нават тыя, што з'яўляюцца народнымі дэпутатамі, не ўзяліся чым-кольвек дапамагчы бяздомнай кінаінтэлігенцыі. Абарваліся кантакты з кінастудыяй «Беларусьфільм».

**Недасведчаны чалавек, патэнцыяльны кінаглядач, разважыць слушна: і там, і тут — людзі... адны і тыя ж! Напраўду, другой кінастудыі ў рэспубліцы няма. Альтэрнатыўныя ўтварэнні па-за «Беларусьфільмам», якія цяпер існуюць у асобе камерцыйных і творчых студый, адлюстроўваюць прыватызацыю па-савецку. Уласнасцю аб'яўлена тое, што заўсёды было пры творцы: талент, галава і рукі. Мо яшчэ і грошы, якія цяпер здабываюцца не меншым потам і крывёй, праўда, з прыцягненнем капіталу спонсараў. Занятак турботны і сумніцельны, калі ўлічыць, што «прыватнік» — ён таксама тутэйшай фармацыі.**

**Уся матэрыяльна-тэхнічная база і кваліфікаваны абслугоўваючы персанал засталіся на дзяржаўным «Беларусьфільме». Вось апошні ў яўнай перавазе. З дапамогай павышаных тарыфаў на тэхналагічныя работы «збоку», па заказе, з'явілася магчымасць узняць абарот і зарплату. Выступаючы на з'ездзе, дырэктар кінапрадпрыемства В. Гарбачоў назваў унушальную па рамках 1990 года лічбу — гадавы абарот склаў 12 мільёнаў рублёў. І самае важнае — менавіта дзяржаўнай кінастудыі, а не грамадскай арганізацыі, якой з'яўляецца саюз, праз Міністэрства культуры выдаткавана з рэспубліканскага бюджэту 6 мільёнаў на развіццё нацыянальнага кінематографа. З іх 1,5 — на дакументальнае кіно, якое па сваёй генетыцы не валодае камерцыйнымі ўласцівасцямі і не можа акупляцца.**

Дзяржаўная сістэма кінавытворчасці і кінапракату не толькі не развалілася пад націскам рэвалюцыйных дэкларацый. Яе гадамі адладжаная інфраструктура перагрупавалася і выпрацавала сваю гнуткую мадэль, якая адпаведна з нарматыўнымі актамі аб дзейнасці дзяржпрадпрыемства дазваляе ствараць «даччыныя» ўтварэнні, беручы з іх падатак з прыбытку. У галіне кінакультуры, вытворчая сфера якой вызначаецца сваёй спецыфікай, менавіта дзяржава (у нашых умовах нават пры бедным бюджэце!), а не грамадства, у якога, акрамя зарплаты, ніякіх грошай няма, здольная выступіць у ролі гарантаванага і плацежаздольнага спажыўца і заказчыка.

Пытанне пра дзяржаўную манаполію, з якога шэсць гадоў назад пачаўся бурны працэс перабудовы кінасістэмы, цяпер... страціла ўсялякі сэнс. Бо якраз ад дзяржаўных, а не грамадскіх інстытутаў кінематаграфісты, у тым ліку і альтэрнатыўныя, патрабуюць цяпер і абароны і прававога забеспячэння іх матэрыяльных і творчых інтарэсаў.

Гэтыя патрабаванні — вынік кінематаграфічнай «рэвалюцыі». Сапраўдную волю яна дала толькі дзялкам ад кіно: колькасць фільмаў рэзка ўзрасла, а мастацкі ўзровень — рэзка ўпаў. Недзяржаўныя кінапрадпрыемствы і кінапракатныя арганізацыі, якія атрымалі эканамічную незалежнасць, адкрылі шлюзы для плыні заходняга маскульту.

Усесаюзны кінарынак, які вясною гэтага года праходзіў у Мінску, наглядна паказаў усе гэтыя «заваёвы». Савецкія фільмы сціпла перабіваліся на задворках. Затое пяць шостых з 600 прадаваемых адзінак прадстаўлялі сабой у лепшым выпадку заходнееўрапейскія фільмы, у горшым — амерыканскі кінаэкспарт, што даўно адпрацаваў сваё на сусветным экране. Дасведчаныя людзі тлумачылі ў кулуарах, што многія карціны вандруюць з аднаго рынка на другі. Для фільма, які здымаўся дваццаць гадоў назад, адцяжка сустрэчы з савецкім гледачом ужо не мае значэння. Годам раней, годам пазней — разважае наш дамарослы камерсант, які звычайна моцны заднім розумам. Ён не бярэ свайго і чакае, калі цана на заходні кінапрадукт стане меншая.

Нацыянальнаму кінематографу тыпу беларускага (які заўсёды развіваўся ў літасцівых умовах грамадскай думкі) трэба прабіцца праз моцных амерыканскіх «кінахлопцаў»: ці — шэдэўрамі, ці — нарасціўшы мускулы ў масавых жанрах. І тое, і другое, шчыра сказаць, для нас ніколі не было характэрным.

На жаль, суровую рэчаіснасць, якую сродкі масавай інфармацыі называюць пераходным перыядам, не надта дакладна адлюстравала справаздача старшыні СК В. Нікіфарава. Як і на папярэднім, надзвычайным з'ездзе, гаварылася аб правале ўкаранення базавай мадэлі, які здарыўся па віне кансерватыўнага апарату «Беларусьфільма» (асноўны прынцып гэтай мадэлі, што мае на ўвазе аддзяленне вытворчасці ад творчасці і кантрактную сістэму, а саюзу дае ролю гэткага мастацкага куратара працэсу — ці не яскравы атавізм патэрналісцкага мыслення?). Іншымі словамі, над кінавытворцам заўсёды хтосьці павінен стаяць. У застойныя гады — Дзяржкіно, цяпер — саюз. А чаму?

**Мадэль разлічана на свабоду кінавытворцы, аднак кіраўнікі «Беларусьфільма» разумеюць пад кінавытворцам і таго, хто творыць, і таго, хто забяспечвае матэрыяльныя ўмовы для творчасці, а дзеячы СК — толькі мастака ў нейкім задужа абагульненым вобразе. Недалёкі быў ад ісціны кінарэжысёр, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР В. Дашук, калі заявіў, што саюза няма. У прапанаванай мадэлі яго і быць не можа, яна — ад прагматычнай культурнай традыцыі, амерыканскай па паходжанні. Там, у Амерыцы, кінематограф фарміраваўся як акультураны бізнес, які мы бэсцілі вызначэннямі «фабрыка летуценняў», «індустрыя зорак» і г. д., інстынктыўна ахоўваючы свае ўяўленні пра кіно як пра мастацтва. Тым больш, калі гаворка ішла пра нацыянальныя кінематаграфіі. Не нам меркаваць, як і што адбілася на якасці амерыканскай культуры, але нам важна зразумець, што наша кіно ПАКУЛЬ ЯШЧЭ развіваецца ў мастацкім культурным асяроддзі, створаным многімі пакаленнямі носьбітаў маральных вытокаў у мастацтве, а, значыць, і ў культуры, канцэнтраванай вакол гэтай сістэмы каштоўнасцей.**

**Несумненна, ідэалагізаваныя міфалагемы грамадскай свядомасці ціснулі і на кіно, якое толькі што не зрабілася «зброяй ідэалагічнай барацьбы ў міжнародным маштабе», яны справакавалі і частковую дээстэтызацыю кіно, якое ператварылася ў «самае масавае з мастацтваў».**

З гэтай агульнай трагедыі савецкага кінематографа з пачаткам перабудовы мы пачалі выходзіць паасобку, крыўдуючы ды рахуючыся адно з адным. А дзяржаве і грамадству цяпер не па кішэні разбірацца ў нашых унутраных справах. Вызваліўшыся, наша кінематаграфія стала дзяліцца найпростым чынам... як амёба. Дэцэнтралізавана кінавытворчасць — і фільмы здымаюцца ці не калектывамі мастацкай самадзейнасці; з радасцю дае нырца ў камерцыйную стыхію пракат; сцішыліся, зашыліся ў свае суверэнныя рэспубліканскія куты нацыянальныя саюзы кінематаграфістаў... Час умяшацца здароваму розуму, сумленню, грамадзянскай адказнасці мастака.

Мноства розных людзей ад кінематографа лічаць сябе мастакамі. Але сапраўдных — адзінкі. «Самае масавае мастацтва» вымагала «масавай прафесіі». Духоўны свет кінамастацтва расколаты яшчэ пры Сталіне. Гэта ён казаў, што трэба ўзяць справу кіно ў нашы рукі. Скараціць вытворчасць гарэлкі і павялічыць вытворчасць кінафільмаў.

**З таго часу на жывых аскепках духоўнасці адбываюцца мутацыі: філасофія кан'юнктуры суправаджае кожную эпоху — хрушчоўскі кінематограф, брэжнеўскі і г. д. Для нацыянальнага кіно, у якога па натуральных прычынах абмежаваны прыток новых (якасна і колькасна) сіл, верагоднасць з'яўлення мутантаў узрастае. Нацыянальная глеба сама садзейнічае ўспрыманню фільма ў станоўчым святле. Атмасфера адраджэння нацыянальнай культуры сёння выклікала новы выбух мутацый; крытычна ацэньваць іх часцяком не выпадае, бо яны да народзін ужо асуджаныя стаць «фактам культуры».**

**Што ж уяўляе сабою такая культура, у якой эстэтычнае апірышча растворана да знікнення? Мастак дэградуе. Рамеснік — уладар дум. Яму ўсё роўна, што і як робіцца ў кіно: палітыка, камерцыя, кан'юнктура. Але ці па гэтай прычыне ў нашым кінематаграфічным асяроддзі няма цярпімасці да чужой думкі і ўмення выслухаць адно аднаго, няма спагады і здольнасці паглядзець на сябе збоку?..**

**«Мы выйшлі з застою ўсе разам», — прагучала ў выступленні старшыні праўлення Саюза кінематаграфістаў СССР Д. Худаназарава. Гэта абнадзейвае хоць бы таму, што славуты «цэнтр» зразумеў бессэнсоўнасць усялякай «самастойнасці», якая прывяла да фактычнага фінансавага краху вялікай творчай арганізацыі.**

Для беларускай кінаінтэлігенцыі ідэя прафесійнай кансалідацыі — ідэя новая: ад захавання маральна-эстэтычных асноў кінакультуры да пошуку аптымальных спосабаў матэрыяльнага самазабеспячэння саюза праз дзелавыя і творчыя кантакты з Міністэрствам культуры, з дзяржпрадпрыемствам «Беларусьфільм», а таксама з альтэрнатыўнымі кінастудыямі, вытворча-камерцыйнымі ўтварэннямі, якія могуць быць надзейнымі партнёрамі. Гэтая ідэя закладзена ў праект статута. Аднак... Як пазбыцца псіхалогіі канфрантацыі? Абвінавачванняў на адрас адзін аднаго ў празе ўлады і адміністравання? Пакуль прэстыж саюза яшчэ не ўпаў... (Напярэдадні з'езда арганізацыя папоўнілася 60-ю членамі). Згадаць пра ачышчальную сілу мастацтва?..

Трывожна, што на гэтым з'ездзе, як і на двух папярэдніх, пра мастацтва гаворкі не было...

**Ніна ФРАЛЬЦОВА.**

**ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР**

# КАБ НЕ СТРАЦІЦЬ НАБЫТКАЎ

**30 чэрвеня завяршае сезон ДАВТ БССР. Да тых падзей, якія адбываліся ў жыцці вялікага творчага калектыву і з якімі мы знаёмілі чытачоў, дадалося апошнім часам яшчэ некалькі. Са сваімі спектаклямі гасцяваў балет Славеніі; адбыўся канцэрт (а таксама ўдзел у спектаклі «Пікавая дама») вядучых маладых салістаў з розных тэатраў Саюза, якіх прадстаўляла народная артыстка СССР І. Архіпава. У тэатр прыйшоў новы дырэктар — вядомы кампазітар С. Картэс...**

**Своеасаблівым штрыхом да партрэта ДАВТа напрыканцы сезона будзе і сённяшняя гутарка з яго галоўным дырыжорам А. АНІСІМАВЫМ.**

**— Оперны тэатр — гэта не проста культурная ўстанова, гэта барометр усёй нашай музычнай культуры, як бы «далёка» ад оперы і балета ні знаходзіліся іншыя сферы музычнага мастацтва. Але першае маё пытанне, Аляксандр Міхайлавіч, так бы мовіць, прыватнае: многія заўважылі, што з пачатку новага тэатральнага сезона ў афішах больш не ўказваецца побач з вашым прозвішчам пасада мастацкага кіраўніка ДАВТа БССР. А вядома ж, што вы былі прыняты ў тэатр на пасаду менавіта мастацкага кіраўніка... Што здарылася?**

— Я некалі даваў адказ на гэтае пытанне: увядзенне пасады мастацкага кіраўніка тэатра было выклікана не меркаваннямі творчага характару, а хутчэй юрыдычнай неабходнасцю, калі ўзнікла патрэба дырэкцыі скараціць пасаду галоўнага дырыжора і ўвесці іншую. Прычым, і трупа, і музычна-тэатральная грамадскасць успрынялі гэта, мякка кажучы, усур'ёз, а адміністрацыя — трохі інакш: калі ёй зручна — я мастацкі кіраўнік, калі не — я галоўны дырыжор... Але ў прынцыпе сам статус мастацкага кіраўніка прадугледжвае вялікія паўнамоцтвы — не толькі мастацкія, а і адміністрацыйныя. Такімі паўнамоцтвамі я, на жаль, не валодаў і не валодаю цяпер. Нават... у рэпертуарнай палітыцы. Мне думаецца, традыцыі нашага тэатра склаліся так, што апошняе слова, напрыклад, у балеце — за кіраўніцтвам балета, а ў оперы... Мо за дырэктарам?..

**— Прабачце, Аляксандр Міхайлавіч, а ў аркестры за кім апошняе слова?**

— Аркестр — калектыў дастаткова самастойны і нават аўтаномны, аб'ектыўна неабходны і для балета, і для оперы. Неабходны і кіраўнік, які займаўся б менавіта праблемамі аркестра (фарміраванне калектыву, яго мастацкі ўзровень і інш.). Такім кіраўніком з'яўляецца галоўны дырыжор. А вось аналагічныя функцыі ў оперы, такая мая думка, павінен несці галоўны рэжысёр — кіраўнік трупы. Доўгі час, як вядома, у нашым тэатры не было галоўнага рэжысёра, і «стратэгічнымі» праблемамі оперы займаўся галоўны дырыжор. Аднак жа імі ва ўсіх вядучых тэатрах займаліся, займаюцца і павінны займацца галоўныя рэжысёры. І яшчэ: мабыць, наш тэатр адзін з нямногіх, дзе самастойнасць балета і оперы настолькі вялікая, што агульнае мастацкае кіраўніцтва абодвума калектывамі, на мой погляд, проста немажліва. Ёсць і праблемы псіхалагічнай, творчай сумяшчальнасці тых ці іншых мастакоў. На жаль, у нас вызначыліся пэўныя несупадзенні творчых поглядаў. Напрыклад, на адзіным за ўвесь мінулы сезон пасяджэнні мастацкага савета вырашалася пытанне новай пастаноўкі. Прыкметным было тое, што свае меркаванні вельмі актыўна выказвалі прадстаўнікі балета менавіта па оперным рэпертуары. У арыфметычнай большасці прайшла прапанова тагачаснага дырэктара тэатра наконт пастаноўкі «Тоскі», хаця, на думку галоўных рэжысёра, дырыжора і мастака, варта было б паставіць што-небудзь з рускай класікі, мы мелі і канкрэтныя прапановы. Але...

**— Якія ж аргументы былі вылучаны на карысць «Тоскі»?**

— Аргументам на ка-

**ЧЫТАЧ ПРЫЙШОЎ У РЭДАКЦЫЮ**

# «ЗРАЗУМЕЙЦЕ: СПРАВА НЕ ТОЛЬКІ Ў НАС!»

«Мы можам апынуцца на вуліцы. Без працы, без кватэры. Але ж справа тут не толькі ў нас...» — і музыканты, у якіх 8 ліпеня скончыцца тэрмін дагавору з філармоніяй, пачалі сваю доўгую споведзь. У «ЛіМ» яны завіталі з надзеяй, што тут іх зразумеюць. І што праз газету іхні голас пачуюць адказныя кампетэнтныя супрацоўнікі Міністэрства культуры БССР, якія зробяць справядлівыя захады, каб абараніць гонар прафесійнага мастацтва. Каб заступіцца за канкрэтных людзей.

Імёны іх, магчыма, для кагосьці знаёмыя. Уладзімір Ліпскі — спявак (барытон), скончыў Адэскую кансерваторыю, асістэнтуру-стажыроўку пры Маскоўскай, Вышэйшыя тэатральныя курсы пры ГІТІСе; атрымаў права на сольныя канцэрты. Наталля Цімашэнка — ягоны канцэртмайстр, піяністка з «чырвоным» дыпломам Маскоўскай кансерваторыі, там жа скончыла асістэнтуру... Месцам працы гэты малады сямейны дуэт абраў Беларусь («Карані мае тут», — кажа У. Ліпскі). Быў 87-ы год, і ім параілі ехаць у Брэст, дзе акурат пачалося стварэнне абласной філармоніі. Аказацца ля вытокаў новай канцэртнай арганізацыі, атрымаць шырокую творчую перспектыву, заручыцца дырэктарскім абяцаннем сталага жытла — што можа быць лепей!

**«У адрозненне ад колішняга гастрольна-канцэртнага аддзела, арганізацыі, якая не мела ні сваіх артыстаў, ні базы, функцыі якой вельмі вузкія — забяспечыць пэўнай колькасцю**

рысць «Toскі» спачатку быў той, што спектакль планаваўся з разлікам на Марыю Гулегіну. Але калі здарыўся канфлікт і калектыў тэатра адмовіўся ад супрацоўніцтва з гэтай спявачкай, сілу набыў другі — «чарга» рэжысёрскай работы М. Ізворска-Елізар'евай. Ніхто не быў супраць, толькі мы прапанавалі замяніць твор, бо няма той спявачкі, на якую разлічвалася «Тоска». Але пазіцыя дырэкцыі была цвёрдай.

**— Уражанне такое, што сістэма кіравання тэатральнай справай нейкая нязграбная. Вам не здаецца, што абнаўленне грамадства вымагае і рэформенных крокаў у структуры кіравання тэатральнай справай?**

— Можа быць... А між іншым, тэатр быў у авангардзе ўсіх перабудовачных пачынанняў. Тэатральны эксперымент быў задуманы яшчэ да 1985 года, але на практыцы ён «зачапіў» больш творчыя пытанні і зусім не крануў самой структуры тэатральнай справы. Хаця быў створаны савет дырэктараў, праводзіліся нейкія семінары, але якая карысць з усяго гэтага для справы? Як хадзіў дырэктар на «кілім» да намесніка міністра ці да самога міністра, так і засталося, хоць мы і лічымся самастойнай арганізацыяй... Мы ж не маем і фінансавай самастойнасці, дагэтуль «кормімся» з грошай Міністэрства культуры, а не, дапусцім, з гарадскога бюджэту ці дзякуючы спонсарам, якім-небудзь зацікаўленым у развіцці музычнай культуры арганізацыям. Вось так і вядзецца: мы перабудоўваемся, а структуры застаюцца, і гэта, на мой погляд, ёсць яркае адлюстраванне таго, што адбываецца ў нашай краіне наогул.

**— Што вы сказалі б пра агульны ўзровень музычнай культуры ў Беларусі?**

— Я думаю, пачынаць неабходна з адукацыі. У нас з гэтым не вельмі добра. Калі параўноўваць, напрыклад, з Японіяй, дзе музычнае выхаванне пачынаецца з 6 гадоў, валоданне адным з музычных інструментаў з'яўляецца абавязковым, то... Як у нас праходзяць школьныя ўрокі спеваў, усе ведаюць... Усе праблемы замыкаюцца на падрыхтоўцы выкладчыкаў, на аплаце іх працы. На Беларусі адносна вялікая сетка харавых школ, аднак нават разам з 14-ю мінскімі ДМШ — гэта кропля ў моры. А адзін оперны тэатр на такую рэспубліку — таксама вельмі мала! Адзін сімфанічны аркестр! І калі гэта параўноўваць з якім-небудзь гарадком у Германіі, дзе маецца і опера, і аркестр, а праз 30 кіламетраў тое самае, то гэта гаворыць само за сябе. Тым не менш, я лічу, што наш тэатр адзін з лепшых у Саюзе і па рэсурсах талентаў, і па ўзроўні калектываў, якія працуюць у тэатры.

**— Гэта прытым, што ў тэатры не створаны ўмовы для максімальнай працоўнай аддачы?**

— Вядома. І яшчэ для нас важная ацэнка працы: мы ж варымся ва ўласным соку, неабходна выязджаць. А то вунь як атрымліваецца: Навасібірская опера выехала ў Польшчу і была прызнана адной з лепшых у Еўропе!.. Вільнюскі тэатр часта гастралюе на Захадзе. Гэта вельмі важна і ў плане абмену інфармацыяй. Мы ж знаходзімся ў вакууме інфармацыйным! Ні прэса, ні тэлебачанне, ні радыё не запаўняюць гэты вакуум... Дарэчы, у мінулым сезоне ў нас адбылася сустрэча з беларускай прэсай. І гутарка была такая: маўляў, рэдактарам, намеснікам іх не да тэатраў, шмат месца ў газетах, часопісах адводзіцца матэрыялам палітызаванага кірунку. Амерыканцы здзіўляюцца, што мы — і чытачы, і журналісты — аддаём такую ўвагу артыкулам, напрыклад, на эканамічную тэматыку. Яны ж лічаць, што гэта — справа эканамістаў-спецыялістаў. Так гэта ці не, але я ўпэўнены, што крочыць наперадзе павінна духоўнае. На жаль, і на Беларусі відавочны перакос інтарэсаў друку ў бок недухоўнага. Ёсць і другая праблема: напісаць пра тэатр, правесці цікавую гаворку з тым ці іншым мастаком, — гэта вымагае пэўнага густу, ведаў і нават таленту...

**— Аляксандр Міхайлавіч, але ж працэс адраджэння беларускай нацыянальнай культуры пачаўся...**

— ...і тэатр наш не застаецца ўбаку. Маю на ўвазе працу над операй «Дзікае паляванне...» У. Солтана. Гэты твор меў вялікі рэзананс. Пасля 6—7-гадовага перапынку на беларускай опернай сцэне зноў загучала родная мова, беларуская музыка. Мяне ахоплівае гордасць, калі я станаўлюся за пульт і дырыжырую «Стаха», бо далучаюся да гэтай падзеі, якая не пакінула нікога абыякавым. Аднак мне здаецца, мы ўпусцілі момант, каб прадоўжыць і развіць зацікаўленасць нашым тэатрам менавіта з боку той часткі публікі, якая дасюль заставалася як бы ў ценю, а тут паверыла ў тое, што і мы можам быць у адным шэрагу з тымі, хто дасягае поспехаў у літаратуры, у драматургіі. Зрэшты, хваля адраджэння відавочна і ідзе як бы паралельна з палітычнымі з'явамі, а можа, нават, мастацтва крочыць наперадзе, бо яшчэ не ўсё ўдаецца БНФ, Вярхоўнаму Савету, а ў мастацтве — карацей дарога ад сэрца да сэрца. А перспектыва ёсць — паказвалі сваю оперу гродзенскі кампазітар А. Бандарэнка і балет «Рагнеда» — А. Мдзівані, другую оперу «Пані Ядвіга» піша У. Солтан. Але ўсё гэта адкладваецца — не хапае сродкаў, часу, другой сцэны... На чарзе пасля «Тоскі» — «Майстар і Маргарыта» Я. Глебава, пасля — оперы Бандарэнкі і Солтана. Вось калі б у нас была яшчэ адна сцэна, або тэатр, напрыклад, у Віцебску, дык справы пайшлі б крыху лепш...

**— Можна толькі радавацца, што ў тэатра ёсць свае аўтары. Але, магчыма, нехта і гэтак мяркуе: маўляў, стаў адно за адным беларускія оперы, балеты — вось табе і нацыянальны тэатр?..**

— Гэткай дарогай можна зайсці не ў той бок... Акрамя беларускай оперы, існуе музычны тэатр як жанр. Гэта таксама нацыянальнае багацце нашай рэспублікі, нашага народа, і, як ва ўсім свеце, тэатр расце і развіваецца не толькі на новых нацыянальных здабытках. Яго аблічча вызначае класіка — і заходняя, і айчынная. Дастаткова згадаць гісторыю тэатра на Беларусі: ставіліся творы і італьянскіх, і польскіх, і рускіх аўтараў... Каб развівацца, адной беларускай музыкі не хапае, неабходна выконваць Моцарта, Вагнера, Рымскага-Корсакава, самую розную сучасную музыку... Я кажу прапісныя ісціны, але ж ёсць такая неабходнасць — пра іх успамінаць.

**— Мне, як аркестранту, вядома, цікавы ваш погляд на праблемы аркестра...**

— Беларусь, беларусы, як і іншыя народы, маюць свае духоўныя каштоўнасці. Такія, як карцінная галерэя, музей Янкі Купалы, скарынаўская «Біблія»... Вось да такіх нацыянальных каштоўнасцяў я адношу і наш аркестр — першы прафесійны сімфанічны аркестр Беларусі, бо, як вядома, самастойны сімфанічны калектыў, створаны пазней, адгалінаваўся ад тэатра. Такім чынам аркестр ДАВТа БССР з'яўляецца як бы крыніцай беларускага сімфанічнага выканальніцтва, наш калектыў вышэй і па традыцыях, і па класе музыкантаў. Між іншым, добрая палова музыкантаў Акадэмічнага сімфанічнага аркестра БССР — былыя нашы артысты... Дык вось: мы цяпер стаім на парозе таго, што згубім гэтую нацыянальную каштоўнасць... Мы яе растранжырым. Яна перародзіцца ў які-небудзь незразумелы мутант з неспрактыкаваных выпускнікоў кансерваторыі, студэнтаў, выпадковых людзей, калі мы не паставімся да гэтай праблемы сур'ёзна. Калі не зразумеем, што ў тэатры можа з'явіцца новая «зорка», можа знікнуць, можа нарадзіцца яшчэ адна, а вось аркестр — гэта калектыў, які выхоўваецца дзесяцігоддзямі, гэта падмурак тэатра! Заўважце: славутыя «ласкалаўскія» спевакі — гэта і амерыканцы, і англічане і інш., а вось аркестр — гэта амаль выключна італьянцы, гэта нацыянальная святыня. Гэты аркестр дае самастойныя канцэрты экстра-класа ў памяшканні Ла Скала.

**— Аляксандр Міхайлавіч, пад час гастроляў у Калінінградзе Валянцін Мікалаевіч Елізар'еў даў інтэрв'ю мясцовай прэсе, дзе выказаў думку пра новыя структурныя і фінансавыя формы існавання калектываў нашага тэатра ў перспектыве. Пакуль жа ўсё застаецца як і было, відаць, здзейсніць задуманае не так проста. А якое ваша стаўленне да новых формаў?**

— Зноў жа не абысціся без параўнанняў... Напрыклад. «Метраполітэн-опера» — выключна оперны тэатр, аднак у гэтым Цэнтры музычных мастацтваў існуе «Нью-Йорк-сіці-балет», яшчэ дзве асобныя балетныя трупы, і непасрэдна свая, якая абслугоўвае оперныя спектаклі. Дарэчы сказаць, і наш балет вырас у свой час у самастойную трупу з невялікай харэаграфічнай групы для оперных спектакляў. Ёсць і іншыя прыклады. У Парыжы два выдатныя калектывы: і оперны, і балетны. Што датычыць нашага тэатра, дык цяпер той перыяд, калі балет адчувае сваю сілу, самастойнасць, узлёт і, цалкам верагодна, што ў наяўных структурных рамках нашага тэатра яму цеснавата. Можа, і варта было б зрабіць асобна калектывы балета, оперы, аркестра. Больш таго, я думаю, што такі мастак, як Елізар'еў, проста абавязаны мець свой тэатр, менавіта тэатр, а не трупу. А пакуль, як вядома, тэатр рыхтуецца да капітальнага рамонту. Мяркуецца распачаць яго, калі будзе пабудаваны Палац Рэспублікі, каб было дзе прытуліцца калектыву. Рэканструкцыя ж тэатра, якая будзе праводзіцца, наколькі я памятаю, аўстрыйскай і югаслаўскай фірмамі, уключае ў сябе поўны аб'ём неабходных работ. У першую чаргу гэта датычыць залы, але, думаецца, непасрэдна акустычныя якасці закране не так моцна. А вось для гледачоў і для артыстаў умовы істотна зменяцца: утульнае фае, бары, рэстаран, стаянка для машын, асобныя грымёрныя для артыстаў, зала для рэпетыцый аркестра, памяшканне для дзіцячай студыі і інш.

**— Дзякуй, Аляксандр Міхайлавіч, за гутарку. Будзем спадзявацца на лепшае, хоць мала што мяняецца ў нашым тэатры. Нават павелічэнне выдзеленай на 1991 год датацыі ў два разы не дало тых вынікаў, якіх чакалі людзі. Да сённяшняга дня не вырашаны пытанні размеркавання выдзеленых грошай для павелічэння фонду заработнай платы. Імкненне вышэйшых інстанцый падраўняць заробак у тэатры і ў іншых аркестравых калектывах Беларусі чамусьці не ўлічвае, што за амаль аднолькавыя грошы артыст аркестра опернага тэатра павінен працаваць усё па тых жа «нормах» ваеннага часу! Калі, напрыклад, у філарманічным аркестры даўно ўстаноўлена норма 6 — 8 канцэртаў у месяц, у тэатры музыкант павінен чамусьці адпрацаваць 20 — 25 спектакляў. Чаму? Пакуль ніхто адказаць не можа, нават галоўны бухгалтар ДАВТа БССР. Адкрытымі застаюцца пытанні павелічэння штату аркестра. Не разгледжаны прапановы калектыву наконт паляпшэння ўмоў працы і г. д. Тэатр губляе лепшыя творчыя сілы. Ён трымаецца на фанатычна адданых прадстаўніках музычнага, тэатральнага мастацтва. Але гэтак не можа працягвацца бясконца...**

**Пятро ДУДАРЭНКА,**
**артыст аркестра**
**ДАВТа БССР.**

---

**канцэртаў тых выканаўцаў, што накіроўваў цэнтр (Мінск ці Масква), філармонія павінна сама зрабіцца цэнтрам музычнага жыцця вобласці. Прычым галоўнае наканаванне — сістэматычная работа па выхаванні ў людзей, найперш у дзяцей, юнацтва, музычна-эстэтычнага густу, планавае асветніцтва, прапаганда лепшых узораў музыкі. Менавіта на развіццё гэтага напрамку і вылучаецца для філармоніі дзяржаўная датацыя, — удакладняюць музыканты. — Мы і працавалі і працуем у такім напрамку. Знаёмім самую розную ўзроставую аўдыторыю з класікай. Маем папулярызатарскія, адукацыйныя праграмы і для дашкольнікаў, і для падлеткаў. І рэпертуар для вялікіх філарманічных канцэртаў (оперныя арыі, найскладаны вакальны цыкл Мусаргскага «Песні і скокі смерці» і інш.)».**

Выступленні дуэта ўключаюць і адпаведны музычна-асветніцкі каментарый, які рыхтуе Н. Цімашэнка. Гэта надае канцэртам асаблівую прывабнасць і запамінальнасць, пра што сведчаць водгукі раённага друку, падзякі, у тым ліку пісьмовыя, атрыманыя артыстамі ў Лагойску і Віцебску, Воранаве і Баранавічах, Гомелі. А паказчыкам іх выканаўчага майстэрства з'яўляюцца канцэрты класічнай музыкі ў музвучылішчах.

**«Аднак у працы самой Брэсцкай філармоніі мы адчулі дзіўную тэндэнцыю: асноўная ўвага ўдзяляецца камерцыйным жанрам, перад усім стваралася матэрыяльная база і падбіраліся кадры для пацяшальнай галіны дзейнасці. Так, для ВІА «Рандэву», «Лексіс», «Лімузін» і цыркатэкі было набыта гукаўзмацняльнай апаратуры, інструментаў, рыштунку на 236 тысяч рублёў (паводле даведкі камісіі аблупраўлення культуры). Не распаліся з іх пакуль толькі «Рандэву» ды «Лімузін». Хто ж яшчэ карыстаецца «абсталяваннем» на такую суму? А для нешматлікіх выканаўцаў класічнага плана не рабілася нічога, каб паспрыяць іх творчаму росту, рэкламаваць іх дзейнасць, наладзіць планавую работу. У адзіным рэпетыцыйным пакоі (ён жа і гардэроб, і месца для пасяджэнняў) стаіць адзінае на ўсіх піяніна. КЛБ хранічна неўкамплектавана...**

**Мы мелі пэўны вопыт працы з цыкламі канцэртаў, маглі б ладзіць абанементы для дзяцей і юнацтва. У Брэсце гэтага зрабіць не дазволілі. (А за межамі вобласці, па Беларусі, нам удалося наладзіць абанементы). За 4 гады працы філармонія ладзіла для нас канцэрты не ў музвучылішчы, не ў школах ці інстытутах, а пераважна ў магазінах, сталоўках, цырульнях. Уявіце сабе стан артыста, калі ў салоне з'яўляецца кліентка і пачынае здымаць бігудзі!**

**Скарыстоўвалі нас і для паказухі, калі адбываліся «закрытыя» канцэрты для партыйна-гаспадарчага актыву вобласці: так было з нагоды прыезду Лігачова, дзяржаўных святаў...**

**Відаць, А. Мартыненка, у адной асобе і дырэктар, і мастацкі кіраўнік, і дырыжор камернага аркестра, музыканты якога з'яўляюцца не артыстамі філармоніі, а выкладчыкамі музвучылішча Брэста (а калі трэба — і галоўны рэжысёр) не лічыць для сябе важным і абавязковым развіваць работу класічнага кірунку, падбіраць і замацоўваць у штаце кадры, ствараць належную базу.**

**Яркі прыклад негрунтоўнасці — зрыў, з-за адсутнасці гледачоў, другога прэм'ернага паказу оперы «Служанка-пані», пастаўленай музычным тэатрам «Трам!» (створаны нядаўна пры філармоніі). За 5 гадоў філармонія не здолела выхаваць аўдыторыю нават для двух музычных спектакляў!**

**Як гэта ні рэжа слых, мусім успомніць эканамічныя тэрміны. «Тавар» — гэта канцэрт, «рынак збыту» — сукупнасць канцэртных пляцовак ды кішэні грамадзян, арганізацый. Музычна-пацяшальнага «тавару» сярэдняй і нізкай якасці ў краіне сёння вялікія лішкі, значыць, ідзе вострая барацьба за «месца на рынку», якое таксама робіцца прадметам гандлю і стварае глебу для розных злоўжыванняў. У Брэсцкай вобласці ўжо доўгі час працуе толькі 2(!) адміністратары на ўсе пляцоўкі, значыць, усе яны фактычна бескантрольныя. Адно ясна: калі няма дастатковай колькасці ўласных калектываў і іх планавай работы, узнікае неабходнасць выканання фінплана і плана канцэртаў за кошт любых запрошаных груп «збоку», ствараецца магчымасць разгарнуць камерцыйную дзейнасць любых «шоу» (ілюзіяністы, рокеры, экстрасенсы) незалежна ад іх якасці. Манаполію на размеркаванне канцэртных пляцовак трымае кіраўніцтва філармоніі... Вы бачылі план леташняй «Беларускай музычнай восені»? Брэсцкая вобласць вылучылася побач з іншымі зусім абмежаванай колькасцю ўдзельнікаў фестывалю і іх выступленняў.**

**Дык мо і ад нас хочуць пазбавіцца, бо недарэчна ўторгваемся мы са сваімі праграмамі ў «рынак збыту»?**

**Мы не супраць добрай эстрады і з густам зробленых шоу. Хай яны жывуць, але ж не ва ўрон высокаму мастацтву. Мы не супраць таго, што ў філармоніі раптам з'явілася новая творчая адзінка — дуэт накшталт нашага, дзе ў якасці канцэртмайстра нядаўняя выпускніца Брэсцкага музвучылішча дачка А. Мартыненкі, для якой знайшоўся і партнёр-спявак. Але чаму іх артыстычная кар'ера пачынаецца за наш кошт?»**

У. Ліпскі і Н. Цімашэнка паведамілі нямала горкіх эпізодаў. І з «кватэрнымі аперацыямі», у выніку якіх яны дасюль не атрымалі жытла нават у маласямейным інтэрнаце філармоніі. І з браніраваннем для іх гасцініцы ў «родным» Брэсце, з-за чаго аднойчы правялі ноч на крэслах у рэпетыцыйным пакоі. І з пераводам іх на «гасразліковы» дагавор... Каб супрацоўнікі рэдакцыі не сумняваліся ў праўдзівасці слоў, музыканты захапілі з сабою стос самых розных дакументаў. Яны ўжо гатовыя абараняць свае правы ў судзе...

**«Не падумайце, што мы ў роспачы. Мы і гэтымі днямі працуем. Тут, у Мінску. На Беларусі ўжо маем сваю публіку, і як прафесіяналы высокай кваліфікацыі ў рэшце рэшт не прападзём. Але вось пытанне: ці патрэбныя такія, як мы, дзяржаве? Робім у яе інтарэсах (Беларусь жа нават самая першая прыняла закон аб культуры, скіраваны і на падтрымку «праваднікоў» класічнага мастацтва!). А Брэсцкай філармоніі гэта, аказваецца, не трэба. Як жа так: інтарэсы дзяржаўнай канцэртнай арганізацыі разыходзяцца з інтарэсамі дзяржавы? А ўсё проста: інтарэсы дзяржаўнай арганізацыі кіраўніцтва філармоніі падмяніла сваімі асабістымі ды сямейнымі.**

**Зразумейце, справа не толькі ў нас ці іншых артыстах, якія могуць апынуцца ў аналагічным становішчы. Ад скажонай філарманічнай палітыкі ў вобласці церпіць культура...»**

Развітваючыся, У. Ліпскі ды Н. Цімашэнка выказалі зусім лагічнае пажаданне: каб у Брэсце пабываў эксперт з Міністэрства культуры БССР для ацэнкі спецыфічных пытанняў, звязаных з дзейнасцю філармоніі. Кампетэнцыі абласных органаў культуры тут яўна недастаткова.

**АДДЗЕЛ МУЗЫКІ «ЛіМа».**

# САКАВІК У КРАІНЕ КАСТРЫЧНІКА

## Нататкі пра мастака Алеся ПУШКІНА

КАЖУЦЬ, імя, дадзенае чалавеку пры нараджэнні, і прозвішча, атрыманае ў спадчыну, нейкім чынам уплываюць на характар, свядомасць, лёс. Асабліва, калі прозвішча асвечана гісторыяй. Тое, што гэта так, мяне пераканала сустрэча з Аляксандрам Пушкіным, маладым мастаком, вядомасці якога можа пазайздросціць мэтр. Такім мог бы быць Аляксандр Сяргеевіч, калі б нарадзіўся ён не ў XVIII, а ў XX стагоддзі.

Мастацтва Алеся Пушкіна вабіць сваёй парадаксальнасцю. Пры відавочнай дэкларацыйнасці і зарыентаванасці на палітычную, нацыянальную ідэю («партыйнасці», калі карыстацца бальшавіцкай тэрміналогіяй), ягоныя творы разам з тым з'яўляюцца ўзорамі «чыстага мастацтва», «мастацтва для мастацтва». Мастацтва, дзе твор — і сродак, і мэта.

Творы Пушкіна — гэта біяграфія душы творцы, гэта моцныя пачуцці, увасобленыя ў дасканалай эстэтычнай форме. У сучаснай форме, падкрэслю гэта. Мастак гаворыць з гледачом на мове XX стагоддзя.

Адчуваю, што сёй-той палічыць такую ацэнку беспадстаўнай і панегірычнай. Так, маўляў, можна пісаць, калі падводзяць вынікі вялікага жыцця, а не тады, калі гаворка ідзе пра першыя крокі творцы. Але ж гэта такія крокі, што пакідаюць след... Таму, хто са мною нязгодны, раю паглядзець дыпломную работу Алеся — роспіс для фае актавай залы Рэспубліканскага музычна - мастацкага ліцэя (колішняя Рэспубліканская школа - інтэрнат) і персанальную выставу мастака, што ў сакавіку—красавіку праходзіла ў Віцебску (у маі ў Гродне яна была забаронена абкомам КПБ, але, відавочна, неўзабаве будзе экспанавацца ў Мінску).

Я бачыў выставу ў Віцебску. А незадоўга перад тым пагартаў газеты двухгадовай даўніны, што не абмінулі ўвагаю хэпэнінг Алеся Пушкіна з нагоды Дня незалежнасці Беларусі, 71-й гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Тады партыйная і камсамольская прэса надрукавала так званае «журналісцкае даследаванне», у якім, праўда, хэпэнінг быў паблытаны з хепіэндам, затое шылася справа з паказанняў «аб'ектыўных» сведак ад міліцыі і меркаванняў «незалежных» экспертаў ад пракуратуры. Дарэчы, як узор своеасаблівага разумення закона афіцыйнымі асобамі, мне запомнілася выступленне тагачаснага (1989 г.) намесніка міністра ўнутраных спраў БССР перад студэнтамі і выкладчыкамі тэатральна-мастацкага інстытута якраз пасля пушкінскага хэпэнінга. Ён нагадаў слухачам, што, згодна закону, дзяржаўныя арганізацыі і ўстановы маюць права карыстацца толькі афіцыйна зацверджанымі сцягамі і эмблемамі, таму з'яўленне Пушкіна на вуліцы з бел-чырвона-белым сцягам — парушэнне закона. «Але ж Пушкін — гэта не дзяржаўная арганізацыя, а прыватная асоба,— запярэчыў намесніку міністра мастак Алесь Марачкін.— Закон нічога не гаворыць наконт сцягоў і эмблем прыватных асоб.» — «А мы трактуем это шире»,—прагучала ў адказ. Жарты жартамі, ды «безразмерный» закон пагражаў Пушкіну такім жа «безразмерным» зняволеннем ад пятнаццаці сутак да пяці год...

Сёння для мастака Пушкіна сацыяльныя варункі больш спрыяльныя, чым у год памянёнага хэпэнінгу. БНФ мае прадстаўнікоў у парламенце рэспублікі, у кіёсках «Саюздруку» можна адкрыта набыць самыя розныя выданні, у час красавіцкіх страйкаў на пляц перад Домам урада рабочыя выходзілі пад бел-чырвона-белымі сцягамі Беларускай Народнай Рэспублікі. Ды й Вярхоўны Савет БССР пры ўсім сваім кансерватызме быў вымушаны прыняць у ліпені мінулага года Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце рэспублікі. Сам жа Алесь Пушкін летась бліскуча абараніў дыплом.

МАЮЧЫ МАГЧЫМАСЦЬ выбіраць месца будучай працы, Алесь спыніў выбар на Віцебску, хоць мог застацца ў Мінску. «На пачатку стагоддзя, каб быць мастаком, трэба было жыць у Парыжы. Гэта разумеў Шагал, калі пакідаў Віцебск. Ён баяўся паўтарыць лёс свайго настаўніка Пэна — памерці ў невядомасці. Зараз іншы час. Інфармацыю пра тое, што робіцца ў сусветным мастацтве, можна мець і ў правінцыі. І малы горад можа быць культурным цэнтрам, калі толькі тут складзецца творчы асяродак. А Віцебск — горад не малы, да таго ж традыцыі мае»,— так мастак тлумачыць сваё рашэнне.

Праўда, нельга сказаць, каб віцебскія калегі сустрэлі залётную «зорку» з пашанай. Майстэрню не далі, у арганізацыі персанальнай выставы адмовілі. «Пажыві, папрацуй гады два, а там мы яшчэ паглядзім, мастак ты ці не»,— сказалі Пушкіну ў абласным аддзяленні Саюза мастакоў. Кут, дзе можна паставіць мальберт, мастак быў вымушаны шукаць сам. Выставу ж дапамаглі арганізаваць супрацоўнікі Фонду культуры. Не скажу, каб дзве невялікія залы, у якіх была разгорнута экспазіцыя (памяшканне Фонду культуры, што недалёка ад ратушы), поўніліся жадаючымі далучыцца да высокага мастацтва. І такога, каб у горадзе толькі гамонкі было, што пра выставу Пушкіна,— таксама не скажу. Экспазіцыйныя залы хутчэй нагадвалі нью-йоркскі музей Гугенхайма, дзе звычайна не бывае шмат наведвальнікаў, тлуму, а на сценах — Пікасо, Кандзінскі, Раўшэнберг... Але людзі, знаёмыя з культурнай гісторыяй Віцебска, не маглі не адчуць на выставе подых тых рамантычных (ці, магчыма, рамантызаваных) гадоў, калі тут стваралі новае мастацтва Малевіч і Шагал.

Алесь Пушкін свядома прымеркаваў адкрыццё выставы да Дня незалежнасці. Па сутнасці, гэта быў рэванш за 25 сакавіка 1989 года, калі ў Мінску ўлады спынілі хэпэнінг. Праз два гады ў Віцебску Алесь нарэшце здзейсніў свой намер.

У віцебскім хэпэнінгу прынялі ўдзел некалькі сотняў жыхароў горада і сяброў Пушкіна, што спецыяльна прыехалі на адкрыццё, аркестр, міліцыя, пажарныя. Менавіта пажарныя распачалі хэпэнінг. У прызначаны для вернісажа час да будынка, упрыгожанага велізарным плакатам-афішай «Пушкін у Віцебску. І выстава артэфактаў дэкляратыўнага мастацтва», лозунгам на лацінцы «Жыве Беларусь!», віцебскай харугвай з гербам горада і бел-чырвона-белым сцягам, пад'ехала пажарная машына, да сцяга пасунулася лесвіца, і па ёй палез пажарнік здымаць «нацыяналістычны» сімвал. Фотаздымак гэтага эпізода быў надрукаваны ва ўсіх віцебскіх газетах.



«Эпітафія дзеду».



«Дом масонаў».

Праграма вернісажа прадугледжвала масавае дзейства на вуліцах горада, аб чым Алесь загадзя папярэдзіў гарадскія ўлады. Менавіта папярэдзіў, а не папрасіў дазволу. Хэпэнінг узначаліў сам Алесь. Адзеты ў вышываную кашулю, з саламяным брылём на галаве, ён ехаў верхам на асле, трымаючы ў руках белага голуба і шэрага ката. За ім, выконваючы рэвалюцыйныя маршы, рухаўся духавы аркестр, далей — грамада з нацыянальнымі сцягамі і харугвамі.

На нейкім этапе ў хэпэнінг уключылася міліцыя, пазбавіўшы свята самога імянінніка. У міліцэйскім пастарунку Пушкіну было прад'яўлена, як калісь у Мінску, абвінавачванне ў арганізацыі «несанкцыянаванага шэсця». Згодна традыцыі (мінскай, а цяпер ужо і віцебскай) да пастарунка прыйшлі аднадумцы і сябры мастака патрабаваць «свабоду Пушкіну!». Сам жа Пушкін тым часам тлумачыў міліцыянерам прынцыповае адрозненне хэпэнінга ад звычайнага шэсця, даводзіў, што ў існуючых пастановах пра хэпэнінгі нічога не гаворыцца, таму няма патрэбы прасіць ва ўладаў дазволу на іх правядзенне... Відаць, пераканаў, бо адпусцілі. Свята мастацтва і незалежнасці доўжылася потым непасрэдна ў выставачных залах.

ШТО Ж БЫЛО выстаўлена ў дзвюх невялікіх залах? У першай—творы, зробленыя спецыяльна для гэтай выставы за той час, што Пушкін жыве ў Віцебску. Гэты раздзел мае назоў «Кшталты сацкультуры». Якія ж гэта кшталты? Чарнобыльская радыяцыя, Афганская вайна, культурны заняпад. Мастак скарыстоўвае традыцыйны, блізкі да рэалістычнага жывапіс, прыёмы опарта, інсталяцыі.

Уваходзіш у залу і адразу бачыш два манекены. Адзін дэманструе класічную беларускую жаночую вопратку. Гэта дасканалы твор народнага мастацтва (няйначай як пазычаны ў музеі экспанат). Ён сімвалізуе тое, што было, і мае назоў «Адзенне Беларусі народнай». Другі манекен у мужчынскай вопратцы, але больш блізкіх нам часоў (ці не сённяшняга дня ўвогуле?). Ягоны «касцюм» складаецца з гумавых ботаў, зэкаўскай ватоўкі і вушанкі. З кішэні тырчыць бутэлька (на выгляд самагону), заткнутая кавалкам скручанай паперы. «Касцюм» дапаўняюць вілы з пасмай сена. «Адзенне Беларусі сацыялістычнай».

Нацюрморт «Сняданак». Нібыта з шэрай ранішняй імжы праступаюць сілуэты пустога посуду — жбан, талерка, кубак. Сям-там на палатне наклеены талоны на прадукты — на масла, на крупы... Талоны пакуль ёсць, з прадуктамі цяжэй.

«Экалагічная мельпамена», «Класавы падыход», «Агрэсія»... Самі за сябе гавораць ужо назовы гэтых твораў. Рвецца ў неба праз чырвоныя краты белы бусел. Так Пушкін адлюстроўвае ідэю барацьбы за незалежнасць Беларусі. Вытокі сацыяльнай свядомасці мастака тлумачыць інсталяцыя, прысвечаная Афганскай вайне: карта Афганістана з датамі 15.X.84—29.IV.86 і надпіс «Што нам тут трэба?», памятка «Воіну-інтэрнацыяналісту», на фатаздымках сам Алесь Пушкін — радыст верталёта МІ-8, шараговец верталётнага палка. Толькі той, хто здольны не адвесці вачэй, пабачыўшы трагізм нашага жыцця, можа знайсці сілы і для аптымізму. «Акорд Вольнасці. (Бардам Віцебска)» — гэта якраз такое палатно. Будзе барацьба — будзе Воля, гаворыць мастак.

У першай зале мастацтва дэкларатыўнага характару, у другой — творы філасофскага зместу. Праўда, адзначу, што ўсе творы Пушкіна шматсэнсоўныя, маюць і палітычны, і філасофскі аспекты. У супрацьвагу «Рэтраспектыўнаму разуменню Кастрычніка» ён піша «Рэтраспектыўнае разуменне Сакавіка». Кастрычнік і Сакавік — гэта супрацьстаянне, гэты канфлікт адчуваецца нават у самых лірычных творах мастака. Бо нават права на асабістае жыццё ў таталітарнай дзяржавы трэба адваёўваць.

«Алегорыю змагання Вясны і Зімы ў дзень на 25 Сакавіка», «Памяці 1863 года» (выяву дапаўняюць словы: «Свет вяртаецца да высновы свая. Вяртаемся і мы, Молімся аб Вас, Натхняемся Вамі, Зробім за Вас»,— напісаныя на палатне крывёю аўтара), а таксама карціну «З мінулага» Пушкін падарыў БНФ «Адраджэнне». Думаю, калі-небудзь яны будуць упрыгожваць рэзідэнцыю БНФ у Мінску.

«Знаменне», «Рэквіем», «Сувой», «Дом масонаў» — у гэтых творах Алесь Пушкін дэманструе свой выдатны прафесіяналізм, уменне творча асэнсоўваць рэалістычную традыцыю.

Падводзячы рысу, хачу сказаць, што гэта была абсалютна паўнацэнная персанальная выстава. Іншы мастак няздольны зрабіць такое нават у сваё юбілейнае пяцідзесяцігоддзе. Алесь жа толькі летась скончыў інстытут. Так што, дай яму, Божа, удачы. А зычыць яму разважлівасці (часта неабходнай у жыцці) нават і не стану. Не мае сэнсу, ён усё роўна будзе жыць так, як хоча,— а не так, як «трэба». У гэтым, мабыць, ягонае шчасце і вечная крыніца канфліктаў з асяроддзем.

...У дзень закрыцця выставы ў Віцебску 25 красавіка Алесь Пушкін стаяў на Успенскай горцы і ў прысутнасці грамады запускаў у неба велізарнага паветранага цмока з выявай крылатай жанчыны. «Алесь, а гэта навошта?» «Карціна для неба...» — адказаў мастак.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

Барыс САЧАНКА

# З малавядомага і забытага...

Людзі, якія так ці інакш звязаны з беларускай культурай, прычыніліся да яе станаўлення і развіцця, у большасці сваёй былі рознабакова таленавітыя, выступалі ў творчасці ў самых розных відах і жанрах. За прыкладамі далёка хадзіць не трэба, дастаткова прыгадаць Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, Максіма Гарэцкага, Уладзіслава Галубка... Але не ўсе ведаюць, што выдатны акцёр і рэжысёр, адзін з заснавальнікаў беларускага прафесійнага тэатра Фларыян Ждановіч не толькі перакладаў на беларускую мову, інсцэніраваў мастацкія творы, але і сам пісаў вершы. Вось невялікі ўзор яго паэтычнай творчасці:

## Ідылія

**Ідылія маленькая такая:**
**Верабей чарвяка глытае,**
**Кот вераб'я душыць са смакам,**
**Сабака ката раздзірае тым знакам,**
**Ваўку сабака — смачная вячэра,**
**А ваўка душыць пантэра,**
**Пантэру леў рве на чвэрці,**
**Льва — чалавек; а яго па смерці**
**Чарвяк смокча і глытае —**
**Ідылія маленькая такая...**

●

Акрамя Ф. Ждановіча, вершы пісалі і іншыя акцёры. Напрыклад, Рамуальд Жакоўскі. Гэтае імя сёння амаль невядома ў Беларусі. А між тым у свой час яно было надта ж папулярнае сярод моладзі. І перш за ўсё Рамуальда Жакоўскага ведалі як артыста са школы Ф. Ждановіча, які працаваў у беларускім тэатры ў Мінску і якому як рэдка каму ўдаваліся ролі старых. Вялікія надзеі на яго талент ускладалі многія, у тым ліку і сам Фларыян Ждановіч. Аднак Рамуальд Жакоўскі сваім талентам і жыццём распарадзіўся па-свойму — маючы ўсяго дваццаць гадоў, пакончыў жыццё самагубствам. Гэта здарылася ўвосень 1919 года... Прычынай яго смерці было цяжкае матэрыяльнае становішча, няўтульнасць, гаротнасць тагачаснага жыцця...

Пасля смерці Рамуальда Жакоўскага былі знойдзены вершы, якія ён пісаў, і пераклад паэмы М. Ю. Лермантава «Дэман».

●

**Мінулі, не вернуцца болей ніколі**
**У забыцце зышоўшыя дні.**
**Памёрлі надзеі аб шчасці і долі,**
**Навекі яны ўплылі.**

**І толькі ўспаміны — самотныя думкі,**
**Як здані паўночы, ўстаюць.**
**І вабяць так сэрца былыя малюнкі**
**І грудзі балючыя рвуць..**

**А чулае сэрца зноў б'ецца, як білась.**
**І зноў распаляецца кроў,**
**І зноў для кахання яно расчынілась,**
**Зноў мукі прыняць я гатоў...**

## Другу

**Ты хочаш ведаць, мілы дружа,**
**Чаму заўсёды сумны я?**
**Ты думаеш занятна дужа**
**Жальба самотная мая?**
**Дарэшце ў ёй за кожным словам**
**Стагнанні, енкі, слёзы льюцца;**
**А песні?.. Песні ў ёй пяюцца —**
**Ды толькі душаць сэрца горам.**
**Няма ў іх радасці вясёлай,**
**Няма ў іх пекных, зычных слоў,**
**Усё дыша ў іх журбой, пакорам,**
**І аддае магільным тхлом.**
**Дык не судзі мяне ты строга,**
**Што не пачуеш больш нічога**
**Апрача болю жальб маіх.**
**Ну што ж? — гатоў ты слухаць іх.**

●

З вершаў — паэзіі пачыналі свой творчы шлях многія вядомыя сёння празаікі, драматургі і нават крытыкі. Тыя вершы не ўсімі потым уключаліся ў свае аўтарскія кнігі, не ўключаюцца яны ў кнігі найчасцей і цяпер, калі жыццёвая і літаратурная дарога закончана. Тым не менш пэўную цікавасць гэтыя першыя спробы пяра ўсё ж уяўляюць, і, мне здаецца, варта да іх хоць зрэдку вяртацца нашым даследчыкам, усім, хто любіць літаратуру, хоча ёй сумленна і шчыра служыць. Таму дазволю сабе «вывалачы» з небыцця «на свет божы» адзін з вершаў выдатнага нашага празаіка Кузьмы Чорнага:

## Роднае поле

**Зялёнае жыта шэпчацца ў полі,**
**Вяне на сонцы пякучым трава,**
**Высока ўзнімаюцца птушкі на волі,**
**Спакойна і ціха шуміць барава.**

**Разам з сцяною зялёнага жыта**
**Палосы узоранай плугам зямлі,**
**Чорныя пліты, сонцам абліты,**
**Былінкі над імі сухія ляглі.**

**Ад краю да краю, далёка-далёка**
**Працаю вольнай узнята ралля;**
**Хаваюцца вёскі у жыце высокім —**
**Багацтва за працу гатуе зямля.**

**Багатыя ўсходы ўздымаюцца вышай**
**На месцы, дзе вольныя сілы ляглі.**
**Роднае поле! Старонка ты наша!**
**Вольная праца на вольнай зямлі!**
1922

●

Страчаныя дзеці Беларусі, дакладней, для Беларусі... Колькі іх! І якія яны ўсе розныя!..

Сын беларускага селяніна Іван Лук'янавіч Саланевіч (14.11.1891—24.04.1953), называючы сябе «стопрацэнтным беларусам», усё сваё жыццё змагаўся супраць беларускай мовы, утварэння нашай рэспублікі — быў да канца свайго жыцця вялікадзяржаўнікам, прыхільнікам «адзінай недзялімай Расіі». Супраць яго поглядаў неаднаразова выступала «Наша Ніва», «Калоссе», іншыя выданні, а ён, звязаўшыся з самым рэакцыйным, чарнасоценным друкам Расіі, цвердзіў сваё...

У гады савецкай улады ён, як і многія, трапіў на «перавыхаванне» на Беламорканал, уцёк адтуль разам з сынам Юркам у Фінляндыю, увайшоў у кантакт з рускай эміграцыяй, якая падзяляла манархісцкія погляды, пачаў выдаваць у Сафіі газету «Наша газета» (цяпер яна выдаецца ў Аргенціне паслядоўнікамі І. Саланевіча пад назваю «Наша страна»), агульным дэвізам яе заснавальнік выбраў словы: «Общая линия «Нашей страны» есть по своему существу с т о л ы п и н с к а я...» І. Саланевіч напісаў некалькі кніг, адной з галоўных з іх з'яўляецца «Народная манархія», якая, як нядаўна пісаў часопіс «Наш современник», друкуючы ўрыўкі з яе, «дышит гордостью за русский народ, только что еще раз явивший миру силу и величие своего духа во всей полноте» (№ 5, 1990).

Перад вайною І. Саланевіч выдаў два тамы сваёй працы «Расія ў канцлагеры», ва ўступе да якой пахваляўся: «Я стопрацэнтны беларус і магу ганарыцца тым, што мяне выхавалі на Пушкіну, а не на нейкім Янку Купалу; пагарджаю патрыятызмам у павятовым маштабе і нацыянальным будаўніцтвам з соймам у Менску ці ў Вільні». Апошнія словы, каб, мабыць, яшчэ больш спадабацца рускаму чытачу, і ўсё тое, што рабілася ў Савецкім Саюзе ў нацыянальным будаўніцтве, выглядала кур'ёзам, напісаны знарок непісьменна, па-беларуску.

А вось яшчэ адзін, як ён сам сябе называў, «потерянный» «для любимой родины» беларус — архіепіскап «Афанасий Мартос—инок Почаевской лавры, магистр православного богословия Варшавского университета, бывший епископ витебский и полоцкий». Ён нарадзіўся каля Наваградка, там прайшлі яго маладыя гады. «Старэнькі дзед Макаш казаў мне казкі пра былое, а Завітанскі лес разбудзіў у маім сэрцы любоў да красы прыроды ды навучыў Богу маліцца ў адзіноце». Родны край не забыўся, не забылася і родная мова. «З заморскага краю чулае сэрца рвецца на родныя гоні, а думка імкнецца ў мінулае, шукаючы там супакою... Прад вачыма ажываюць беларускія векавечныя пушчы і дрымучыя лясы з багацтвам птушынага царства і розналікай звярыны, якія некалі вабілі польскіх каралёў і расейскіх цароў на паляванне. Прыпамінаюцца неабсяжныя далі і старадаўныя шырокія гасцінцы з сыпучымі пяскамі і плакучымі сталетнімі бярэзінамі, пасаджанымі паабапал дарогі. І хто не таптаў гэтыя гасцінцы-дарогі на іх доўгім вяку? Былі тут татары і палякі, шведы і французы, немцы і расейцы».

«Афанасий Мартос» напісаў кнігу «Беларусь в исторической государственной и церковной жизни», выдаў яе спярша па-беларуску, потым па-руску (Буэнас-Айрэс, 1966). Нядаўна гэтую кнігу факсімільна перавыдаў Беларускі экзархат Рускай праваслаўнай царквы ў Мінску. Не хочацца даваць ацэнку кнігі, гэта лепш за мяне зробяць спецыялісты. Але што пра Беларусь — родны край яна напісана з любасцю — гэта бясспрэчна. Кранае да слёз і прысвячэнне кнігі — «сей труд посвящаю любимой родине, быть может навсегда потерянной для меня, как равно потерян и я для нее. Автор».

Пабольш было б такіх «потерянных», як архіепіскап «Афанасий Мартос»!

●

Народжаны сэрцам і думкай паэта, кожны мастацкі твор мае свой лёс. Часам дзіўны, асабліва калі гэты твор належыць генію выдатнага паэта. Ёсць такі твор з дзіўным лёсам і ў Янкі Купалы — верш «Хаўруснікам». Напісаны, як пазначана ў рукапісе, 19/X-13 г., ён друкаваўся толькі адзін раз у часопісе «Полымя» (№ 3, 1929), не ўваходзіў ні ў адну кнігу. Не перадрукоўваўся ён і потым, пасля ўжо смерці паэта.

## Хаўруснікам

**«Gazeta Codzienna»**
**І «Виленский вестник»**
**Сабраліся хэўрай,**
**Як свінні на сметнік.**

**І ну ж гаманіці**
**Ухмыляцца пад вусам,**
**Як лепш атуманіць**
**Мазгі беларусам.**

**«Gazeta» бармочэ:**
**«Нех бэндзе ён ляхам».**
**А «Вестник» — «пусть лучше**
**Московским прёт шляхом».**

**Спрачаліся доўга**
**Як край наш раскрасці,**
**Дый спеліся ўрэшце:**
**Парваць на дзве часці.**

**Адна часць Варшаве**
**Лізаць ногі будзе,**
**Маскве хай другая**
**Нясе свае грудзі.**

**Забыліся толькі,**
**Хаўруснікі ночы,**
**Спытаць беларуса,**
**Чым сам ён быць хоча.**

**Па-мойму ж не варта,**
**Панкі, так лезць з жылаў...**
**Як свінням — не глянуць**
**Вам дальш свайго рыла.**

Янка Купала, мусіць, прадчуваў, як адклікнуцца на публікацыю гэтага верша прапольскія і прарускія «патрыёты», таму падпісаў верш новым нікому невядомым псеўданімам — «Цімох Каруза». А тэма, закранутая ў гэтым вершы, знайшла свой працяг і далейшае, больш глыбокае асэнсаванне ў многіх іншых творах паэта, і, асабліва — у трагікамедыі «Тутэйшыя»...

●

У 1939 г., адразу ж пасля вызвалення Заходняй Беларусі з-пад польскай акупацыі, быў арыштаваны і знік назаўсёды ў невядомасці ў сталінскіх лагерах Макар Краўцоў (сапраўднае прозвішча Касцевіч) — пісьменнік, журналіст, перакладчык, вядомы дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, аўтар папулярнага ў свой час беларускага гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі»... Макар Краўцоў супрацоўнічаў са шматлікімі газетамі, часопісамі, якія выдаваліся як у першыя гады савецкай улады, так і потым, у Заходняй Беларусі, дзе ён жыў, працаваў настаўнікам і друкаваў свае вершы, пераклады, успаміны... На жаль, творы яго ні разу асобнымі кнігамі не выходзілі, парасkіданы па старонках самых розных выданняў. Хто іх збярэ? Хто і калі выдасць? А што яны ўяўляюць несумненную мастацкую цікавасць, можна меркаваць нават па тых двух вершах, што былі ім напісаны на самым пачатку творчасці:

## Весняны гром

**Чуваць абапал дух вясняны,**
**Што дзень цяплей... Ідзе вясна**
**І косы сонцавы яна**
**Спушчае з неба на паляны.**
**Пазалаціўшы сенажаці,**
**Дыхнуўшы ветрам на раллю,**
**Яна маніцца ўсю зямлю**
**Ад сну зімовага падняці.**
**Як ціха вечар абнімае,**
**Прастор бязмежнай яснаты,**
**Паціху шэпчуцца кусты,**
**Што моцы снег ужо не мае;**
**Што зараз гучна забулькоча**
**Вада ў заваленых равох,**
**Зазеляннеецца мурог,**
**І гром над лесам зарагоча.**
**Дык загрымі жа ты, жаданы,**
**Пярун забыты, загрымі!**
**Хутчэй да жыцця падымі**
**Наш край, так моцна зруйнаваны!**
4.IV.1919.

## Да матулі

**Бедна ты мая, старэнька,**
**Родненька матуля!**
**Стала сіва ты й маленька,**
**Бо гады мінулі.**

**Бо няшчасце ахапіла**
**Лёс твой старавекі —**
**На чужыне зносіш, міла,**
**Голад, мукі, здзекі.**

**А мо дзе пад крыжам ціха**
**Ужо навек заснула,**
**Не сцярпеўшы гора-ліха,**
**Што це агарнула.**

**Ці ж не ўбачыш, не пачуеш**
**Сынавай жалобы,**
**Ці ж яго не паратуеш**
**Ад нуды-хваробы?**
1920 г.

●

Здаецца, зусім нядаўна, у 1987 г. выйшаў з друку 5 том «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», дзе змешчана нататка пра беларускага савецкага мовазнаўцу П. Я. Юргелевіча. «Чл. КПСС з 1917 г. З 1925 на парт., журналісцкай рабоце, быў сакратаром Камісіі па выданню Твораў У. І. Леніна на бел. мове (1927—29), вучоным сакратаром Ін-та мовазнаўства АН БССР (1930—35), дацэнт, заг. кафедры Магілёўскага пед. ін-та (1944—69). Даследаваў сучасную бел. літ. мову, гісторыю бел. мовы і бел. гаворкі», — сказана ў гэтай нататцы. І ні слова, ні паўслова пра тую ролю, якую адыграў гэты «вучоны» ў пагромах беларускай літаратуры, у «навядзенні парадку» ў беларускім мовазнаўстве. Нават у пераліку напісаных і выдадзеных ім прац не згадваюцца тыя, якія каштавалі многім жыцця... Адна з такіх яго прац у 1934 г. была змешчана ў зборніку артыкулаў, прысвечаных барацьбе за культуру мовы, выдадзеным Беларускай Акадэміяй навук, і называлася «Моўныя тэорыі і практыка контррэвалюцыйных лідэраў «Узвышша». Чытаем яе:

«Шкодніцтва нацдэмаў праводзілася на розных участках сацыялістычнага будаўніцтва, у тым ліку і на мовазнаўчым участку. На гэтым участку ідэалагічнага фронту нацдэмы сканцэнтравалі былі свае галоўныя сілы. Амаль усе ідэолагі і правадыры контррэвалюцыйнай нацдэмаўшчыны (Лёсік, Некрашэвіч, Ластоўскі, Гарэцкі, Бузук і інш.) «працавалі» ў мовазнаўчых інстытуцыях. Гэтыя мовазнаўчыя інстытуцыі яны зрабілі цытадэлямі сваёй падрыўной контррэвалюцыйнай работы, адкуль працягвалі свае змоўніцкія ніці ў іншыя галіны культурнага і эканамічна-гаспадарчага жыцця БССР. Уся іх шкодніцкая дзейнасць накіравана на падрыхтоўку плацдарма для імперыялістычнай інтэрвенцыі з мэтай адрыву БССР ад Савецкага Саюза і ператварэння яе ў калонію імперыялістычных дзяржаў.

Беларуская мова для контррэвалюцыйных нацдэмаў з'яўляецца адным з важнейшых сродкаў у выкананні свайго інтэрвенцкага плана, у барацьбе супроць краіны дыктатуры пралетарыята... Сваю шкодніцкую работу нацдэмы праводзілі ва ўсіх галінах беларускай мовы: у слоўніку, тэрміналогіях, правапісу, граматыцы і азбуцы...»

У чым жа правінаваціліся «лідэры» «Узвышша», якія грахі прыпісвае ім П. Юргелевіч (тады чамусьці ён пісаў сваё прозвішча Юргілевіч)?

«У сваім дакладзе «Класавая барацьба на мовазнаўчым фронце» т. А. Александровіч прывёў цэлы рад яркіх фактаў шкодніцкай работы ў галіне мовы мастацкай літаратуры арганізатараў контррэвалюцыйнай ячэйкі «Узвышша» — Дубоўкі, Пушчы, Бабарэкі, а таксама ахвосця разгромленага, але яшчэ недабітага нацдэмакратызма (Лужанін, Калюга, Таўбін і інш.), — піша П. Юргелевіч. — Апрача таго, тав. А. Александровічам былі прыведзены факты ўзвышанска-нацдэмаўскіх тэндэнцый у мове і некаторых сучасных савецкіх пісьменнікаў (Хадыка, Віцьбіч). Бо «нацдэмы з літаратурна-мастацкага згуртавання «Узвышша» не абмежаваліся аднымі «тэорыямі», яны «павялі зацятую барацьбу супроць пралетарскіх савецкіх пісьменнікаў. Барацьбу гэтую яны вядуць, прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным сцягам, а часта і марксісцкай фразай, выдаючы сябе за сапраўдных беларускіх пралетарскіх пісьменнікаў... Маскіруючыся такім чынам пад пралетарскіх пісьменнікаў, узвышанскія лідэры і ідэолагі (Ду-

боўка, Пушча) у сваіх мастацкіх творах у форме «жыццёвай сімволікі» і алегорый праводзяць ідэі інтэрвенцыі і капіталістычнай рэстаўрацыі, сеюць атруту песімізма, няверʼя ў сілы пралетарыята, супрацьпастаўляюць вёску гораду, прапаведуюць звярыны беларускі шавінізм...»

Як бачыце, да мовы быццам не маюць ніякіх адносін абвінавачванні П. Юргелевіча. Не спяшайцеся, пачакайце, П. Юргелевіч паслядоўны, і на тое, што абяцаў у назве сваёй працы, не забыўся.

«Як жа гэтыя контррэвалюцыйныя лідэры «Узвышша» адносіліся да мовы, якая тэорыя і практыка была ў іх у гэтай галіне? — ставіць ён рытарычнае пытанне, і тут жа адказвае на яго: — Трэба сказаць, што яны вельмі пышыліся сваёй «культурай» мовы і выдавалі сябе за вялікіх мовазнаўцаў. У журнале «Узвышша» яны адводзяць спецыяльны аддзел «культуры мовы», у якім прымаюць удзел такія кіты контррэвалюцыйнай нацдэмаўшчыны, як Лёсік, Ластоўскі і ім падобныя. Але кіруючая роля ў пытаннях мовы ўзвышанцаў належала «вучонаму мовазнаўцу» Дубоўку».

І далей П. Юргелевіч, аналізуючы асобныя артыкулы па пытаннях мовы У. Дубоўкі, падводзіць вынікі: «Нацдэмаўскія тэорыі Дубоўкі і інш. лідэраў «Узвышша» не разыходзіліся з іх моўнай практыкай. Больш таго. Нават моўная практыка і тут апераджае тэорыі».

І ідзе «аналіз», «разгляд» гэтай моўнай практыкі, шукаюцца «грахі» «ўзвышанцаў» — паланізмы, «архаізмы і вузкія кулацка-шляхоцкія правінцыялізмы», «штучна ўтвораныя словы» і г. д.

У канцы артыкула П. Юргелевіч аж уздыхае з палёгкай: як, маўляў, добра, што «дзякуючы неаслабнай бальшавіцкай пільнасці, органаў дыктатуры пралетарыята, контррэвалюцыйная работа беларускіх нацдэмаў выкрыта. Маскі з нацдэмаў сорваны і паказан сапраўдны твар класавага ворага».

Але не, супакойвацца не трэба! — перасцерагае П. Юргелевіч сваіх чытачоў. «Асаблівай увагі і пільнасці патрабуе моўны ўчастак культурнага будаўніцтва, які быў, як вядома, адным з галоўных абʼектаў шкодніцкай дзейнасці беларускіх нацдэмаў. У беларускай літаратурнай мове яшчэ многа засталося ўсякага нацдэмаўскага хлама. Першачарговая задача дня ў развіцці беларускай літаратурнай мовы — гэта рашучая ачыстка яе ад гэтага нацдэмаўскага хлама, без чаго не можа быць узнята на вышэйшую ступень якасць літаратурнай беларускай мовы».

Помніце пра гэта, не забывайце, вучні і паслядоўнікі П. Юргелевіча!

●

Каля 200 беларускіх літаратараў сталі ахвярамі сталінскіх рэпрэсій. Пра некаторых з іх пісалася ўжо ў нашым друку, пра некаторых жа —не. Прычын на тое, каб пра таго ці іншага маўчаць, больш чым дастаткова. Як, напрыклад, пра Уладзіміра Дудзіцкага, дачка якога жыве ў ЗША і хоча ведаць хоць што-небудзь пра свайго бацьку. Менавіта з такою просьбаю звярнулася яна нядаўна ў Прадстаўніцтва БССР пры ААН у Нью-Йорку. Адтуль звязаліся са мною, спыталі, што я магу сказаць, чым магу памагчы дачцэ вядомага ў свой час паэта.

Уладзімір Дудзіцкі (сапраўднае прозвішча Гуцька) нарадзіўся 8 студзеня 1911 г. (27 снежня 1910 г. ст. ст.) у сялянскай семʼі, непадалёку ад Рудзенска, у в. Дудзічы. Скончыў народную школу, потым, пасля двухгадовага перапынку, — сямігодку ў Мінску. Паступіў у Мінскі педтэхнікум імя У. Ігнатоўскага, але яго не скончыў — быў разам з іншымі студэнтамі, якія прабавалі свае сілы ў літаратуры, выключаны як «нацдэм». Нейкі час бадзяжнічаў, галадаў. З дапамогай Лукаша Калюгі і Уладзіміра Хадыкі ўладкаваўся стылрэдактарам у «Савецкую Беларусь», потым перайшоў на працу ў Навукова-тэхнічнае выдавецтва. Адначасова вучыўся на падрыхтоўчых курсах (пры БДУ) для паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Скончыў іх датэрмінова і быў без экзаменаў залічаны ў Вышэйшы педагагічны інстытут студэнтам літаратурна-лінгвістычнага факультэта. Але правучыўся там нядоўга — быў выключаны зноў як «нацдэм».

Далейшае яго жыццё склалася зусім несамавіта. Як пісаў у сваёй аўтабіяграфічнай даведцы Уладзімір Дудзіцкі (яна змешчана 3 мая 1944 г. у «Беларускай газэце»), «23 лютага 1933 г. быў арыштаваны і пасаджаны ў Менскую турму, потым — у «Амерыканку» НКВД. Гэта быў так званы другі зачынены працэс «нацыянал-дэмакратызму». Пад гэтай шыльдай ува ўсёй Беларусі было арыштавана больш трохсот чалавек. Сярод іх было шмат беларускіх паэтаў, пісьменнікаў і літаратараў: Змітрок Астапенка, Лукаш Калюга, Сяргей Астрэйка, Мікола Нікановіч, Уладзімір Сядура, Сяргей Русаковіч і шмат іншых.

Пасля 9 месяцаў, паводле пастановы Калегіі НКВД СССР, быў высланы тэрмінам на тры гады ў канцэнтрацыйныя лагеры Сібіры. Кару адбываў у Новасібірску, а пазней у г. Марыінску. Па адбыцці кары ў канцлагеры скіравалі ў Сярэднюю Азію, у г. Ташкент. Прытулкам былі сады і ўзбекская чайхана. Часова працаваў у якасці літаратурнага работніка ў газеце «Физкультурник Узбекистана». Дапамагла малярыя: захварэў і дамогся праз год звароту на Бацькаўшчыну».

Дома, у Беларусі, яму дазволілі пасяліцца ў Віцебску. Экстэрнам здаў экзамены за Вышэйшы педагагічны інстытут, атрымаў дыплом настаўніка —выкладчыка беларускай мовы і літаратуры ў школе. Працаваў стэльрэдактарам у газеце «Віцебскі пралетарый», выкладаў беларускую мову і літаратуру ў сярэдніх школах Віцебска, медыцынскім рабфаку і Педагагічным інстытуце.

У 1939 г. ад выкладчыцкай дзейнасці ён быў адхілены, нейкі час жыў у Расіі, потым вярнуўся зноў у Беларусь —уладкаваўся на працу ў Ветэрынарны тэхнікум у Курасоўшчыне. Тут, непадалёку ад Мінска, У. Дудзіцкага заспела вайна.

З першых дзён акупацыі, як толькі пачала выходзіць «Менская (Беларуская) газэта», працаваў у штаце рэдакцыі. Шмат друкаваўся—вершы, паэмы. Быў выбраны кіраўніком аддзела беларускай культуры Беларускага культурнага згуртавання (5 красавіка 1944 г.).

У чэрвені 1944 г. пакінуў Мінск. Жыў у Германіі, ЗША, потым пераехаў у Венесуэлу. Адтуль, калі «ярмо чужой зямлі», як ён пісаў у адным са сваіх вершаў, яго так заціснула, што ён не мог жыць —страшная гэта хвароба — «настальгія»! — папрасіўся ва ўрада СССР вярнуцца на Радзіму. І вярнуўся... зноў у тыя самыя арганізаваныя некалі сталінскія лагеры...

Далейшыя сляды У. Дудзіцкага губляюцца. Дзе ён, што з ім — ніхто не ведае.

Засталіся яго вершы, паэмы... Іх шмат, надрукаваных на старонках самых розных выданняў — перадваенных савецкіх, беларускіх акупацыйных, эміграцыйных — берлінскіх, мюнхенскіх, нью-йоркскіх... Засталася і яго вера:

**Прыйдзем, вернемся ў родную хату**
**святкаваць найвялікшае свята:**
**свята мужнасці нашае, сілы,**
**што нядолю ліхую скасіла.**
**Маці стрэне, гасцінна расчыніць**
**урачыстыя дзверы святыні.**
**І памолімся, палячы свечы,**
**За шчаслівую нашую вечнасць.**
**Думы новага часу і песні**
**узлятуць у блакіт паднябесся.**

●

Уладзімір Клішэвіч, пра якога нене ды і згадваецца цяпер у нашым друку, адзін з нямногіх, хто, трапіўшы ў турму, а потым у Сібір, у сталінскія лагеры, не маўчаў, а на ўвесь свой паэтычны голас яшчэ да вайны загаварыў пра тое, што яму,ды і іншым, такім жа, як ён, гаротнікам давялося перажыць. На жаль, творы яго пакуль не сабраны, па-належнаму не выдадзены. Вось два яго санеты, якія нядаўна трапілі мне на вочы:

## Калымскія думкі

**Вяршыні дзікіх гор закрылі думна хмары;**
**Сячэ халодны дождж нявольніцкае цела.**
**Сталёвы лом дзяржу ў руках заледзянелых,**
**І прагнасцю ўстаюць аб чорным хлебе мары.**

**Пісюгі брудныя цякуць па бледным твары,**
**Рука ўзнімаецца павольна і нясмела.**
**Туга страшэнная душу маю разʼела,**
**Прыносячы штодзень смяротныя удары.**

**Ці знясу я дзён глухіх пакуты,**
**Ці знойдзецца яшчэ у слабым целе сіла,**
**Каб перажыць свой лёс у ланцугу закутым?**

**Праз туман, як здань, вырастае магіла...**
**О, маці родная! «Скажы, скажы чаму ты**
**Няшчасным гэтакім на свет мяне радзіла?»**

## Радзіме

Тодару ЛЕБЯДЗЕ

**Ты сумная адна сярод другіх стаяла**
**Без пышнасці багатай, без прыкрас,**
**Прыгожасці вачэй тваіх агонь не гас,**
**Калі ты ў далячынь спакойна пазірала.**
**Ты мне дала жыццё, надзею, веру.**
**Я ўсё, што мог, табе ў ахвяру нёс.**
**Спаткаў цябе цяжкі суровы лёс**
**Я і тады ў дух народа верыў.**

**Прайду я шлях турботны на зямлі,**
**Памру, як смертныя звычайна паміраюць**
**З надзеяй цвёрдай прыйсці у царства раю.**

**Тады скажу: «Мы з вераю жылі,**
**З надзеяй не адзін жыццё пакінуў**
**За свой народ, за родную краіну».**

●

Рыхтуючы да выдання кнігу выбранай паэзіі Ларысы Геніюш «Белы сон» — яна выйшла летась якраз да васьмідзесяцігоддзя паэтэсы, — я пісаў у прадмове, што «хоць жыццёвы шлях Ларысы Геніюш і завяршыўся— яна памерла 7 красавіка 1983 года,— аднак падсумоўваць вынікі яе творчасці рана. І рана па той простай прычыне, што гэтая творчасць па-належнаму яшчэ не сабрана і не ўся выдадзена. Шматлікія паэтычныя творы засталіся ў рукапісах, а калі некаторыя з іх і надрукаваны, дык у недаступных сучаснаму чытачу газетах, часопісах і альманахах». І я не памыліўся: перыядычныя выданні — фармальныя і нефармальныя — прадаўжаюць друкаваць усё новыя, раней невядомыя яе творы. Вось і яшчэ адзін — «Сутоннем», што змешчаны быў у 1947 г. у літаратурна-грамадскім часопісе «Сакавік» (№ 1, Германія) пад рубрыкай «З недрукаванае спадчыны». Чаму «З недрукаванае спадчыны»? Ды таму, што эміграцыя лічыла: арыштаваная ў Празе Л. Геніюш была расстраляна ці загінула ў сталінскіх канцлагерах. Ва ўсякім выпадку, як пісаў ва ўступе да яе вершаў у альманаху «Ля чужых берагоў» (1955) Юрка Віцьбіч, «усякі след аб ёй загінуў».

## Сутоннем

**Заціхла места ў хмараў шэрым дыме,**
**з муроў вачом нат нельга уцячы...**
**Што ж, сынку мой, мой каласок радзімы,**
**чаго сумненькі і чаму маўчыш?**

**Ці жаль, што дзень прадчасна дагарае**
**і не пакрыў дарогі мяккі снег,**
**ці мо краіна белая другая**
**табе здаецца гэтак, як і мне?**

**Там сяння ўзвівы снежнае завеі,**
**і вухам страшна гэты спеў лавіць...**
**Хтось выстраліў і шырака па белі**
**рассыпаў жменю ярых журавін.**

**Іх заўтра крук сутоннем пазбірае**
**прывыкшы ён да гэткае яжы,**
**і будзе кракаць ноч над белым краем,**
**прысеўшы дзесь на зломаным крыжы.**

**І ўспамінаць, як ціхай каляінай,**
**калі снег перʼе белае губіў,**
**із хатаў шмат, сумленных і бязвінных,**
**пад звон зялеза павялі ў Сібір...**

**Завея ў полі тужыць там і плача,**
**але не плач, маленькі мой сынок!**
**Вось вырасцеш, і будзе ўсё іначай,**
**Шчаслівейшы будзеш, любы каласок...**

**Мы ў спадчыну ўзялі ад продкаў нашых**
**няволі лютай цяжкае ярмо.**
**Цягаць яго, мой сынку, гэтак страшна,**
**ды вам, табе — яго мы не дамо!**

**Мы сёння, сынку, воляй і змаганнем**
**ірвём у долі новую пару.**
**Нядарма там вартуе да світання,**
**чакаючы гасціны, чорны крук.**

**Калі б, мой сынку, нам не стала сілаў,**
**і мы крывёю гора не змаглі—**
**ты не забудзь, што маці гаварыла,**
**свайго народу і свае зямлі...**

Сын Ларысы Геніюш Юрка не забыў на словы маці. Выхаваны ў сваякоў у Польшчы, ён стаў, як і яго бацька, медыкам, а, заадно, як і маці, — пісьменнікам. На жаль, яго творы —апавяданні, пʼесы, вершы — асобна ні разу яшчэ не выдаваліся ў Савецкай Беларусі. У апошнім сваім вершы (памёр Юрка ў 1985 г. у пяцідзесяцігадовым веку), які надрукавала пасля яго смерці беластоцкая «Ніва», ён пісаў:

**Склікаю вас у гасціну, буйныя браты!**
**Раскінем ільняным полем гісторыі абрусы.**
**Будзь нам сталом дубовым хоць века ад труны,**
**Калі гуртом засядзем — усіх вякоў сыны...**

●

Гэты раз у публікацыі «за сталом дубовым» — «заселі» не «ўсіх вякоў сыны», а толькі аднаго веку —крывавага, жорсткага, хоць у нейкім сэнсе і шчаслівага для Беларусі— «сыны» ж ужо не толькі ўсвядомілі, хто яны і чые дзеці, але паспрабавалі і самі нешта рабіць дзеля славы і велічы Бацькаўшчыны. Не ўсё ім удалося, не ўсе іх зразумелі, дый лёс не па-людску абышоўся з многімі з іх...

І ўсё ж яны не забыты!

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# «БЫЦЬ ІДЭЙНА-СВЯДОМЫМІ!»

### Заўвагі на палях аднайменнага артыкула С. АНТАНОВІЧА

Бывае ж такое, што два зусім незнаёмыя чалавекі пачынаюць не толькі разважаць пра адны і тыя ж рэчы аднолькавымі думкамі, але і запісваць гэтыя думкі аднолькавымі словамі.

Сядзіць, напрыклад, у адным канцы Менска за сталом літаратар Уладзімір Арлоў, сёрбае, дапусцім, гарбату і піша, няўдзячны, нататкі пра свайго незабыўнага настаўніка прафесара Л. Абэцэдарскага — дробненькага навукоўца ды затое буйнога фальсіфікатара нашае гісторыі.

А ў другім канцы Менска сядзіць журналіст Славамір Антановіч, прысёрбвае, скажам, каву і таксама прагне вывесці фальсіфікатара на чыстую ваду.

Вось літаратар Арлоў, апанаваны настальгічнымі ўспамінамі юнацтва, згадвае першую палову застойных семідзесятых, калі грамадская дзейнасць Абэцэдарскага набыла найбольшае разгарненне: «Адпаведная служба, абапіраючыся на шырокі, так бы мовіць, няштатны актыў, заўзята шукала, выкрывала, ляпіла ярлыкі і «обезвреживала» тых, хто быў супраць брэжнеўска-суслаўскіх тэорый паскоранага зліцця нацый і стварэння «новай этнічнай супольнасці».

А вось дзеліцца на паперы сваімі думкамі пра той час журналіст Антановіч: «Адпаведная служба, абапіраючыся на шырокі ідэалагічны актыў (заўважаеце ўдакладненне? Партыйны журналіст Антановіч ведае болей нейкага там літаратара), заўзята шукала, выкрывала, ляпіла ярлыкі і абясшкоджвала «нацыяналістаў», тых, хто быў супраць брэжнеўскага-суслаўскіх тэорый паскоранага зліцця нацый і стварэння «новай супольнасці».

Падалье У. Арлоў гарбаты і далей за сваё: «...у нас, у адрозненне ад Украіны, «нацыяналістаў» тады не саджалі. Мяркую, у пэўных сферах існавала думка, што магчымасць нацыянальнага адраджэння на Беларусі ўжо канчаткова ліквідаваная, а таму дзейнасць «нацыяналістаў» не ўяўляе вялікай небяспекі».

Ну а партыйны журналіст С. Антановіч, апрастаўшы філіжанку кавы, таксама схіляецца над сталом і выводзіць сваё, нярааз узважанае і абдуманае: «...у нас, у адрозненне ад Украіны, «нацыяналістаў» тады не саджалі. На думку П Машэрава (далібог, каштоўнае ўдакладненне!), магчымасць нацыянальнага адраджэння на Беларусі ўжо канчаткова ліквідаваная, а таму дзейнасць «нацыяналістаў» не ўяўляе вялікай небяспекі».

Праўда, літаратар Арлоў любіць падтэксты і намёкі. Малюючы рэаліі 70-х, ён успамінае, як з кожнага гарадскога скрыжавання глядзеў на нас «абвешаны зоркамі і ордэнамі «верны ленінец».

А журналіст Антановіч — прыхільнік дакладнасці. Каб хто-небудзь не памыліўся, ён дадае, што «абвешаны зоркамі і ордэнамі «верны ленінец»—гэта (ну ніколі не здагадаецеся!)... Л. І. Брэжнеў.

Што да астатняга, дык тут — поўнае супадзенне пазіцый і ацэнак.

Смуткуе У. Арлоў з прычыны забароны рупліўцамі з ЦК КПБ міжнароднага сімпозіума па этнагенезе беларусаў, які не адбыўся ў 1974 годзе: «Чаму так занепакоіў гэты сімпозіум шаноўнага П. М. Машэрава?.. Якіх негатыўных вынікаў чакала кіраўніцтва рэспублікі ад навуковай размовы пра паходжанне беларусаў?»

І С. Антановіч смуткуе: «Чаму так занепакоіў гэты сімпозіум П. Машэрава? Якіх негатыўных вынікаў чакала кіраўніцтва рэспублікі ад навуковай размовы пра паходжанне беларусаў?»

Тым, хто не верыць, што і такія дзівосы на Беларусі здараюцца, раю пакласці перад сабою два нумары «ЛіМа»: той, дзе надрукаваныя нататкі няўдзячнага вучня У. Арлова «Адзін у трох іпастасях», і той, дзе С. Антановіч у артыкуле «Быць ідэйна-свядомымі!» пафасна, «з болем, горыччу і крыўдаю» змагаецца з былымі ідэалагічнымі перакосамі ў генеральнай лініі КПБ. Вось толькі спрытнюга У. Арлоў прымудрыўся надрукаваць свае нататкі яшчэ 16 лістапада 1990 года, а маруда С. Антановіч падзяліўся з чытачом плёнам уласнай творчай працы ажно 10 мая 1991-га.

Але гэта выкрывальніцкіх заслуг журналіста Антановіча, вядома ж, не перакрэслівае. Асабліва, калі прыняць пад увагу вялікую занепакоенасць, з якой ён піша (між іншым, зноў услед за Арловым) пра тое, што Абэцэдарскі і кампанія бессаромна карысталіся недасведчанасцю і гістарычнай непісьменнасцю кіруючых рэспубліканскіх кадраў, падсоўваючы ў даклады ЦК «ману, фальш і свядомую няпраўду».

Клопаты С. Антановіча няцяжка зразумець, бо ён працуе памочнікам у першага сакратара ЦК КПБ А. Малафеева, а значыцца, мае дачыненне і да падрыхтоўкі дакладаў.

Тут трэба сапраўдная бальшавіцкая пільнасць!

Не зашкодзіла б пранікнуцца ёю і самому таварышу Малафееву. А то, крый Божа, прачытае калі-небудзь з трыбуны нешта не тое. Бо дзе гарантыя, што Славамір Антановіч не пачне ў адзін цудоўны дзень думаць і пісаць слова ў слова, як Зянон Пазьняк?

Уладзімір АРЛОЎ.

Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне паэту Івану МУРАВЕЙКУ з выпадку вялікага гора, што напаткала яго, — смерцю жонкі Таццяны Мацвееўны Муравейка, удзельніцы Вялікай Айчыннай вайны, персанальнай пенсіянеркі.

СПРЭЧКІ, ПАЛЕМІКА

# «...МЫ ЗЫЙШЛІСЯ ВЕЛЬМІ БЛІЗКА»

З цікавасцю прачытаў артыкул Уладзіміра Калесніка «Краса і воля. Паводле перапіскі У. Жылкі і А. Луцкевіча» ў «ЛіМе» за 31 мая 1991 года. Прызнаюся, гэтага артыкула я чакаў. Бо мне было вядома — дый сам У. Калеснік таго не хаваў, — што ў час працы над кнігаю «Ветразі Адысея» шаноўны даследчык вывучыў лісты У. Жылкі да А. Луцкевіча. І тым не менш у кнізе ён паспрабаваў супрацьпаставіць паэта і крытыка. «Віна» А. Луцкевіча была, вядома ж, у тым, што ён, сацыял-дэмакрат і незалежнік, не пайшоў за камуністамі, быў у дачыненнях з імі вельмі асцярожны, абачлівы ды крытычны. Вучоны праігнараваў пры гэтым, што і сам У. Жылка не быў саветафілам і пракамуністам. Насуперак таму, што паэт пісаў у лістах да А. Луцкевіча аб камуністах, беларусізацыі, У. Калеснік паспрабаваў сцвердзіць нешта адваротнае. Цяпер, у лімаўскім артыкуле, паспрабаваў патлумачыцца з чытачамі на гэты конт. І гэта добра.

У артыкуле я не прымаю адно: сцвярджэнне У. Калесніка, што А. Луцкевіч адрокся ад Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. Свой погляд на гэта я выклаў ужо і ў «Нёмане» (1990, № 7), і ў «ЛіМе» (25 студзеня і 1 лютага 1991 г.). Магу дадаць, што Сымон Рак-Міхайлоўскі, клічучы А. Луцкевіча ў рэдакцыйны камітэт БСРГ, меў з гэтага выгаду. Па-першае, само за сябе прамаўляла імя Антона Луцкевіча. Па-другое, на яго можна было зваліць публікацыі грамадаўскіх газет супраць тых беларускіх дзеячаў ды арганізацый, якія не падзялялі камуністычнай ідэалогіі і практыкі. Асабліва перападала паслам Васілю Рагулю ды Фабіяну Ярэмічу, іхнім Беларускаму Сялянскаму Саюзу ды газеце «Сялянская Ніва». Вось што згадваў В. Рагуля ў сваіх «Успамінах» (Нью-Йорк, 1957). «Сустрэўшы ў соймавых кулюарах пасла Рак-Міхайлоўскага, я сказаў яму: «Калі вы не пакончыце з непрыстойнымі нападкамі, дык у «Сялянскай Ніве» з'явіцца твой партрэт з польскімі афіцэрскімі шаўронамі сябра Беларускай Вайсковай Рады ў Лодзі. Я польскіх афіцэрскіх шаўронаў не насіў». (...) Ён пачаў прасіць мяне не рабіць гэтага. Ён сказаў: «Ужо колькі разоў казалі Луцкевічу пакінуць лаянку, а ён сваё» (с. 62). Тое ж уводзілі ў вушы В. Рагулю і Браніслаў Тарашкевіч з Радаславам Астроўскім (с. 71). І наіўны пасол паверыў. Не ведаў ён, што характар газет і публікацый вызначае не А. Луцкевіч, а камісар ад КПЗБ Янка Бабровіч. «Зрэшты, ён да самай смерці не даведаўся, што Б. Тарашкевіч быў камуністам». Калі ж Рагуля і былы сацыял-дэмакрат Ярэміч сталі паліваць брудам Луцкевіча, былыя сацыял-дэмакраты Тарашкевіч і Рак-Міхайлоўскі ані словам не заступіліся за яго. Бо Луцкевіч не быў сябрам БСРГ, не падзяляў іх камуністычных ілюзій.

Ёсць у артыкуле У. Калесніка яшчэ два моманты, якія бянтэжаць мяне.

Даследчык піша, што А. Луцкевіч «быў больш ідэолагам літаратуры, чым крытыкам», што «для крытыка яму не хапала эмацыянальнай уражлівасці, сілы эстэтычнай інтуіцыі і палётнасці ўяўлення». Не ведаю, што й казаць. Па-першае, ужо той факт, што А. Луцкевіч як кіраўнік Беларускага выдавецкага таварыства друкаваў кнігі «эстэтаў» У. Жылкі, Н. Арсенневай, перадрукоўваў са сваёй прадмоваю «Вянок» М. Багдановіча (а яшчэ раней рэцэнзаваў), вымоўна сведчыць пра ягоны эстэтычны густ. Па-другое, варта параўнаць выказванні У. Жылкі аб паэзіі і літаратуры і выказванні А. Луцкевіча ў яго кнізе «Адбітае жыццё» (Вільня, 1929), каб пераканацца, што погляды паэта і крытыка былі блізкія, ледзь не ідэнтычныя. Вось адна цытата. «Нацыянальнае стаецца агульналюдскім праз укрытую ў ім чыстую красу» (с. 62). Вось другая: «Грамадскія матывы, заклікі, ідэалы могуць складаць ЗМЕСТ мастацкага творства, могуць служыць магутным ПАБУДЖЭННЕМ да тварэння, але **не могуць дыктаваць сваіх законаў** КРАСЕ» (с. 74). І такіх цытат можна назбіраць вельмі шмат. Наогул, дзіўна, як магла паўстаць высокая нашаніўская літаратура, калі аднаму з фактычных рэдактараў газеты і кіраўнікоў Беларускага выдавецкага таварыства «не хапала эмацыянальнай уражлівасці» і г. д.

Другое, што збянтэжыла мяне. Пішучы пра некралогі Тамаша Грыба і Станіслава Станкевіча, У. Калеснік пытае: «Чаму не дзядзька Антон?» Намёк на тое, што пасля працэсу БСРГ адносіны паміж У. Жылкам ды А. Луцкевічам папсаваліся. Скажу больш: кантакты паміж імі парваліся. І віна тут не паэта й крытыка, а ўлады. Сястры А. Луцкевіча, Эміліі, якая жыла тады ў Мінску, не аддавалі ягоных лістоў. Ліставанне жыхара БССР з грамадзянінам Польшчы было падазроным і нават небяспечным заняткам. І ўсё ж, даведаўшыся аб трагічнай смерці Луцкевічавай жонкі, паэт (пасля працэсу Грамады!) адбіў яму тэлеграму беларускаю лацінкаю: «Перажываю разам Вамі гора. Жылка» (ЦБ Літ. АН, ф. 21, спр. 763, арк. 31). Пачуўшы пра Жылкаву смерць, А. Луцкевіч вырваў з вучнёўскага сшытка аднаго са сваіх сыноў тры аркушы і напісаў некралог, які цяпер захоўваецца ў ЦБ Літ. АН (ф. 21, спр. 762, арк. 3—5). Дарэчы, Жылкавы лісты да А. Луцкевіча сабраны ў наступнай папцы—763-й. А ў 764-й мы можам прачытаць рукапіс зборніка «На ростані» і вершы, якім А. Луцкевіч сваёй рукою даў агульны назоў — «З навейшых напеваў».

Каб зняць пытанне, зададзенае У. Калеснікам у канцы ягонага артыкула, прапаную ўвазе чытачоў некралог «Уладзімер Жылка». Разам з лістамі паэта да А. Луцкевіча ён будзе надрукаваны таксама ў гісторыка-літаратурным зборніку «Шляхам гадоў», які ўкладае Язэп Янушкевіч.

**Анатоль СІДАРЭВІЧ.**

---

**Антон ЛУЦКЕВІЧ**

# Уладзімер ЖЫЛКА

Вестка аб яго смерці балюча адбілася ў маёй душы. Балюча асабліва затым, што гэта — яшчэ адзін доказ таго, якім жорсткім умее быць жыццё ў адносінах да ўсіх тых, хто перарастае «сярэдняга чалавека», творыць у душы сваёй новы свет, адменны ад існуючага сягоння, і мае смеласць, насупраць жыццю, рэальна існуючаму, сягаць па новае жыццё — тое з іх уяўленняў.

Якая даўгая ўжо чарга гэтых светлых постацяў, каторых жорсткая смерць передчасна вырвала з нашага жыцця: Сяргей Палуян, Максім Багдановіч, Цётка, Іван[1], Бурбіс, браты Канчэўскія[2], Макоўскі Вячаслаў[3], урэшце—Жылка. Усе яны былі гэткія блізкія мне духова. Усе былі чыстакроўныя ідэалісты — летуценнікі, каторыя імкнуліся да стварэння новага жыцця для свайго народу, — жыцця светлага, радаснага... І ўсе так рана, так перадчасна памірал!

Жылка ў гэтай чарзе апошні. І з імі, і са мной злучае яго духоўнае радство. Ажно дзіўна робіцца, як над гэтым задумаешся: якім чынам такія родныя духоўна людзі адчуваюць у сабе ўзаемна гэтае радство — і так неабмыльна?

Я не памятаю, як і ў якіх абставінах пазнаёміўся з Жылкай. Калі гэта было? Хто ён? Скуль? Дзе радзіўся і жыў раней — да нашага знаёмства? Не маю ніякага паняцця аб ягонай біяграфіі і не магу нават «дзеля гісторыі літаратуры» даць падробныя весткі аб ім. Ведаю толькі, што, спаткаўшыся, мы зыйшліся вельмі блізка.

Мімаволі настоўваецца параўнанне.

Калі прыходзіш у вастрог, дык усё, чым ты жыў, усё тваё звычайнае, нармальнае астаецца там — на волі, за вастрожнымі мурамі. Уваходзіш у вастрог як быццам голы. І ўсе там — голыя: няма між арыштантамі ніякіх розніц, вынікаючых з «таго жыцця» — на волі. Глыбока заглядаеш у душы людскія. Па-за душамі не бачыш нічога...

Так і ў Жылкі я бачыў душу: душу гарачую, жывую, ірваўшуюся да ідэалу, да красы, да новага жыцця, — і адначасна такую кволую, такую — кажучы па-расейску — «нежную» і ў гэтай «нежнасці» такую харошую!

Запраўды: у ім я бачыў хараство душы— перад усім. І мяне надзвычайна цікавілі ўсе вонкавыя выяўленні гэтага хараства, перад усім — у творчасці Жылкі.

Бо паэзія Жылкі—гэта было запраўднае адбіццё ягонае душы. У паэзіі сваёй ён рос і расцвітаў. Яго вершы — частка яго самога.

Не ведаю, што ён пісаў за апошнія гады — там, на Усходзе. Баюся, што творчасць яго замарозіла лішне сцюдзёная атмасфера для такіх кволых раслін. Калі ж і пісаў, дык хіба — не для друку. Мо некалі даведаюся, якую спадчыну ён па сабе пакінуў; але ўжо цяпер пераканаы я, што гэтая творчасць і там ішла супраць рэальнага жыцця — на сустрэчу ідэальнаму!

Хочацца сёння адтварыць духовы воблік Жылкі паводле ягоных твораў. Але перад усім — пагутарыць з ім беспасрэдна: перачытаць пісьмы яго да мяне.

Колькі ў іх хараства!

---

[1]Іван Герман Луцкевіч (1881 — 1919), брат Антона Луцкевіча, адзін з заснавальнікаў Беларускай Сацыялістычнай Грамады, Беларускага выдавецкага таварыства і Беларускага навуковага таварыства ў Вільні, Віленскай беларускай гімназіі, член Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, адзін з ініцыятараў абвяшчэння незалежнасці БНР. Больш падрабязна пра яго: «Спадчына», 1991, № 1; «Добры вечар» за 15 мая і «ЛіМ» за 31 мая 1991 г.

[2]Браты Канчэўскія: Ігнат (1896 — 1923) і Арсень (1901 — 1931).

Ігнат Канчэўскі (псеўданімы Ганна Галубянка, Ігнат Абдзіраловіч) быў паэтам, публіцыстам. Яго праца «Адвечным шляхам» апублікавана ў 1990 г. у зборніку «Вобраз» і ў часопісе «Нёман», вершы — у часопісе «Крыніца» (1988, № 4) і анталогіі «Ростані волі» (1990).

Арсень Канчэўскі быў дзеячам Беларускай Рэвалюцыйнай Арганізацыі, якая аб'ядноўвала левых сацыялістаў-рэвалюцыянераў, а ў 1923 годзе злілася з камуністычнымі групамі. З'яўляўся членам ЦК, а потым і Бюро ЦК КПЗБ. Адзін з кіраўнікоў Таварыства Беларускай Школы і «Змагання».

[3]Біяграфічных звестак пра В. Макоўскага публікатар не мае.

**Публікацыя і каментарыі Анатоля СІДАРЭВІЧА.**

---

НА ПАРАЛЕЛЯХ СЛАВЯНСТВА

## ЗГАДКА ПРА ЯНКОЎСКАГА

Часопіс «Славіка словака», які выходзіць у Браціславе, пастаянна ўдзяляе ўвагу творчым кантактам і ўзаемасувязям паміж славянскімі народамі, расказвае і пра найбольш вядомых вучоных - літаратуразнаўцаў, пісьменнікаў. У адным з апошніх нумароў Э. Гашынец смуткуе з выпадку заўчаснай смерці Фёдара Янкоўскага, гаворыць аб яго ўкладзе ў славяназнаўства.

---

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

## М. ДАБРЫНІН ГЭТАГА НЕ ГАВАРЫЎ...,

У нашым штотыднёвіку 22 лютага сёлетняга года быў змешчаны артыкул Ю. Закрэўскага «Па той бок «крэсаў». У артыкуле згадваўся старшыня польскага культурна-асветнага таварыства г. Брэста і Брэсцкай вобласці і намеснік старшыні Саюза палякаў Беларусі, дацэнт Брэсцкага педінстытута М. Дабрынін, пераказваліся некаторыя яго разважанні, выказванні. На жаль, аўтар артыкула пасобныя з іх перадаў недакладна, а сёе-тое і наогул прыпісаў М. Дабрыніну, што выклікала пратэст і абурэнне апошняга. Так, у артыкуле гаварылася: «Палякаў жа на Беларусі, па словах Дабрыніна, каля 2,5 мільёна...» На самай справе М. Дабрынін называў перапісную лічбу — 418 тысяч. У другім месцы артыкула адзначалася: «Па яго словах, палякаў на тэрыторыі Беларусі напаткала жудасная трагедыя — доўгі час камуністычная ўлада рабіла прафанацыю нацыянальнай свядомасці...», «Дабрынін пералічвае іншыя злачынствы камуністаў у адносінах да палякаў...» На самай справе М. Дабрынін не згадваў ні камуністаў, ні камуністычную ўладу, а гаварыў пра дэфармацыі сталінскага перыяду і памылкі ў галіне нацыянальнай палітыкі. І апошняе: фраза «Беларусы — гэта, канешне, быдла» не належыць М. Дабрыніну, яна ім не прамаўлялася.

Рэдакцыя прыносіць Міхаілу Андрэевічу глыбокае прабачэнне за гэтыя прыкрыя, абразлівыя для яго недакладнасці і памылкі.




Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ—33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ—33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.



Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12